ISSN 0234-1387




# крыніца

Экалогія ваеннага пакалення

ШЧЫРАСЦЬ НЯЎДАЛАГА МІЛЬЯНЕРА

...І ЗНОЎ ГЕРАСТРАТ!

ТАЙНА СКУРАНОГА ПЛАШЧА

«КЛЭШ», «ДЭМНД» і іншыя

# ВОДНЫ СЛАЛАМ У САЯНАХ







Тувінская АССР, што размясцілася ў самым цэнтры Азіі,— сапраўдны турысцкі рай. Прынамсі для воднікаў, якіх клічуць сюды імклівыя саянскія рэкі.

Воднік — турыст своеасаблівы. Экіпіроўка па абставінах: нешта сярэдняе паміж вопратка́й хакеістаў і непрамакальнай — аквалангіста. Участкі рэчак са спакойнай плынню, дзе можна адпачыць, нацешыцца краявідам, а то і рыбу павудзіць, выклікаюць у яго пазяханку і жаданне яшчэ хутчэй працаваць вёсламі.

Хутчэй да парогаў!

А парогі тут галавакружныя. Адпаведныя тут і назвы — «Чортаў тузін», напрыклад. Неверагодныя лабірынты з вадзяных струменяў утвараюцца скальнымі глыбамі, якія, нібыта частакол, рассякаюць плынь. А каб не спаткнуцца аб які парог, мала быць выдатным слаламістам і вытрыманым чалавекам. Часта дапамагае проста жаданне жыць.

Заканчэнне на стар. 21


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**крыніца**

№ 5
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года





Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага
камітэта Беларускай ССР па справах
выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.03.88.
Падпісана да друку 22.04.88.
АТ 06153.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 8,75.
Зак. 850.
Тыраж 17 500 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

Вольга ЯГОРАВА

# КОЖНЫ ДЗЕНЬ І НАВЕКІ

Пагаворым пра сімвалы, што кожнаму з нас вельмі блізкія. Пагаворым пра Вечныя агні. Напаўголаса, не парушаючы цішыні. Няхай асвятляюць гутарку. Паслухаем Вечныя агні памяці, чалавечай душы. У што ж трансфармуецца памяць! Што дае яна аднаму чалавеку і ўсяму чалавецтву разам! Некалі на гэтае пытанне адказаў мне Канстанцін Сіманаў: мараль і чалавечнасць вынікаюць перш за ўсё з памяці. Памятаем — значыць ствараем будучыню.

Але чалавецтва, можа, таму і адчувае цяпер такі вялікі дэфіцыт чалавечнасці, што вельмі шмат перажыло войнаў. Ёсць нават такая статыстыка: калі б на планеце не было ніводнай вайны, людзі маглі б толькі на сродкі, на іх затрачаныя, бязбедна пражыць два тысячагоддзі, а то і больш. Разам з тым, гісторыкі не прыпомняць якогасьці працяглага часу, каб на Зямлі нашай (там ці тут) не пралівалася чалавечая кроў. Атрымліваецца, што існуе і дэфіцыт памяці!

На Захадзе нас часта дакараюць: прапануеце, маўляў, раззбройвацца, а самі так шмат гаворыце пра вайну. Што адказаць на гэта! Наша ламяць супраць вайны. Бо ў ёй — пажары Хатыняў і попел Трасцянца і Асвенціма, мільёны ўдоў і сірот, мільёны ахвяр, скалечаных лёсаў. Многія глыбінныя пласты гэтай памяці ўжо ўзнятыя пісьменнікамі Адамовічам, Граніным, Брылём, Календнікам, Алексіевіч. Літаратура ўсё глыбей пранікае ў сутнасць народнай псіхалогіі, якая з самага пачатку антываенная. Думаю, што менавіта тут ляжыць пакуль некрануты пласт памяці пра вайну нашага сярэдняга пакалення, якое вайну не бачыла, але перажыло яе разам са сваімі прадзедамі, дзядамі, бацькамі.

Не магу забыць сваю нядаўнюю сустрэчу з Зарыфой Ешмурзаевай з Ташкента. Яна была падобна на фею з казкі ў сваёй фіялетавай з бліскаўкамі сукенцы з тонкага шоўку. І расказвала таямніча, ціха, падбіраючы словы, быццам правяраючы іх на значнасць, на важкасць:

— Я шукаю памяць бацькі...

Зусім старэнькі ён у яе. Хворы. Радавым ваяваў у пяхоце. Акрамя здароўя, адабрала ў яго вайна і памяць: толькі тры прозвішчы запомніў, і ўсё. Паўтарае часта: падпалкоўнік Іваноў, Апсалятаў, Абдурахманаў... Зарыфа Ешмурзаева ў памяць бацькі змяшчае вельмі многае. І далёкае мінулае сваёй радзімы, старажытнае-старажытнае, і не вельмі, і імгненную хроніку нашага сённяшняга дня. Мэта іх маладзёжнага клуба «Праметэй» — выхаванне памяццю. Яны збіраюць матэрыялы пра першых камсамольцаў, якія загінулі ў сутычцы з басмачамі яшчэ ў дзевятнаццатым. Многія імёны, лёсы з цягам часу сцерліся, забыліся. «Праметэеўцаў» хвалююць людзі, якія заснавалі старыя і будавалі новыя гарады, справы і думкі герояў працы, сучаснікаў — без усяго гэтага яны лічылі б сваё жыццё няпоўным. Абрысы часу трэба паспець адлюстраваць сёння, зараз, па гарачых слядах падзей, упэўнены «праметэеўцы», каб праз сорак-пяцьдзесят гадоў не шукаць тых самых герояў працы з такімі ж складанасцямі, з якімі цяпер мы шукаем франтавікоў, Мэта! З'яднаць пакаленні. Калі ўжо прыйшоў да франтавіка запісаць успаміны — ідзі ад яго заклапочаны, як і чым можаш гэтаму чалавеку дапамагчы. Не можа быць тут дробязей. Франтавікі маўкліва чакаюць маладой нашай дапамогі кожны дзень.

Некалькі гадоў назад у вёсцы Глыбочыца, што на Гомельшчыне, давялося мне сустрэцца з такім фактам, увогуле нетыповым для нашай рэспублікі: не ўсе ветэраны ў гэтай вёсцы мелі пасведчанні ўдзельнікаў вайны, значыць, натуральна, не карысталіся і льготамі, права на якія маюць. Пачала цікавіцца ў райваенкамаце — ці толькі ў Глыбочыцы так! І высветлілася: па ўсёй акрузе тое ж самае. Фармалізм скасаваў з біяграфіі тых, хто прайшоў вайну, самае галоўнае, што яны здзейснілі ў жыцці. Выкраслілі з біяграфій... Але ж не з самога жыцця. Што можа быць больш крыўдным і балючым: няўлічаныя франтавікі. Забыўлівасць жорсткая. І ўсё таму, што ў нейкі момант менавіта мы, дзеці, прагледзелі, не заўважылі: бацькі і дзяды старэюць, адлучаюцца ад сваёй справы. Хто па стане здароўя, а хто і ад сціпласці не напамінае пра сябе. Ад пакалення, якое не бачыла вайны, сёння залежыць ужо нашмат больш, чым ад тых, хто ваяваў: і ў цэху, і на збожжавым полі, і ў навуковай лабараторыі, і ў космасе. Нават тое, атрымае ці не ветэран сваё пасведчанне ўдзельніка вайны, залежыць ужо ад нас. І, можа, апошні ў сваім жыцці ордэн — таксама. Парадокс, народжаны самім жыццём. І парадокс, і твой здабытак. Назаўсёды.

Немагчыма выхаваць грамадзяніна без радзімы, родзічаў, свайго радаводу, упэўнена ў гэтым. Нездарма ў гэтых аднакарэнных слоў агульная аснова — корань ясны і чысты, як крыніца. Ад лёсу канкрэтнага чалавека памяць вядзе да лёсу Айчыны, дае магчымасць яшчэ і яшчэ раз перажыць разам са сваёй зямлёй яе нягоды, адчуць пульс часу.

Фота Уладзіміра КАЦАПАВА

Пра гэта мы доўга і горача гаварылі з інжынерам-акіянолагам з Мурманска Сяргеем Карпенкам. Ён часта бывае ў Мінску — тут шмат у яго сяброў па ваенна-патрыятычнай рабоце з моладдзю. Карпенка прысвячае гэтай святой справе ўвесь свой вольны час, лічыць, што без гэтага яму ніяк нельга.

— Разумееце,— тлумачыў ён,— вайна ў нас у Запаляр'і засталася ў некранутым выглядзе: тундра, вечная мерзлата. Людзі як ляжалі, так і ляжаць. Нельга было не шукаць іх.

Кіраўнік клуба «Нашчадкі» ад Мурманскага параходства Жора Кароль сказаў сваім хлопцам так: «Усё могуць каралі». І пачаліся мужчынскія справы: падрыхтоўка да работы з аквалангам на вялікіх глыбінях.

Яны даследавалі дно мясцовых азёр: Дракон, Вінкель, Вугал. Яны ўзнімалі «трафеі»: ад цэленькіх нямецкіх гармат да цэленькіх, без адзінай трэшчынкі, крушталёвых келіхаў. Дарылі свае каштоўныя знаходкі музеям. Наладжвалі выстаўкі. І яшчэ — рыхтаваліся да новых экспедыцый. Ускладняючы праграму пошуку, павялічваючы ступень рызыкі.

У Запаляр'і з вайны хадзілі легенды пра атрад Юневіча. Атрад загінуў у сопках у сорак трэцім годзе — гэта вядома дакладна. Калі і пры якіх абставінах — пра гэта ведалі няшмат. Нашчадкі даведаліся пра атрад ўсё, што было магчыма.

Юневіч (ён быў родам з Беларусі) набіраў разведчыкаў у свой атрад сам. Яго «атлеты» высаджваліся з катэраў на скалы. Але аднойчы іх заўважылі. Трое сутак ішоў няроўны бой. Юневіч выклікаў агонь на сябе... Жывы застаўся адзін Саша Бакін. З абмарожанымі нагамі, ён цудам выпаўз да сваіх, пераплыўшы заліў і амаль што ператварыўшыся ў кавалак лёду: «Я ад Юневіча...» І страціў прытомнасць.

Калі Бакіну сабраліся ампутаваць ногі, ён апрытомнеў, як бы спахапіўшыся: без ног якое разведчыку жыццё! Ён некалькі разоў падаў з аперацыйнага стала — іншага спосабу супраціўляцца ампутацыі ў яго не было. І ногі яму, уявіце сабе, хірург выратаваў: дапамаглі ўпартасць і воля гэтага чалавека. Але і страта была непапраўная — Бакіну забаранілі жыць у Запаляр'і...

І ўсё ж... Бакін не паехаў з Мурманска. Усю маладосць прахадзіў ён у валёнках — і ўлетку, і ўвесну, і ўзімку. У Мурманску яны пазнаёміліся з Карпенкам. Не маглі не пазнаёміцца. Кожны шукаў напарніка, марыў знайсці разведчыкаў. Бакін павёў нашчадкаў у экспедыцыю сам. Хлопцы не паспявалі за ім у пераходзе па сопках. Бакін быццам забыўся пра абмарожаныя ногі. Ішоў наперадзе моўчкі і не азіраючыся. Дарогу ён памятаў назубок.

Яны знайшлі разведчыкаў, больш дакладна, іх астанкі. А Бакін: «Коля, Вася, Грыша...» — ён памятаў дзе, хто і як застаўся ляжаць.

На абеліску з дзікага каменя яны аднавілі ўсе імёны. Пасадзілі бярозкі і рабінкі: прыжыліся. Кожны год узнімаюць над месцам гібелі партызанаў сцяг.

У год нараджэння свайго малодшага сына Кірылы (у год саракагоддзя гібелі Юневіча) Карпенка вырашыў імітаваць пераход Бакіна да сваіх. Дзёрзкі і рызыкоўны план удалося ажыццявіць. Ён падаў са скал. Ён поўз цераз сопкі. Ён пераплыў у сакавіку заліў. І нават насмарку не зарабіў. Адзінае, чаго баяўся — засмуціць Бакіна. Не ведаў, як зрэагуе той на яго пераход.

Бакін расплакаўся. Карпенка аджартаваўся: усё могуць каралі.

На мясцовым тэлебачанні Сяргей Карпенка вядзе перадачу для моладзі аб паходах. Самі здымаюць, самі каментуюць, самі пішуць сцэнарыі. І ўсё ж... вопыт іх распаўсюджання па краіне не атрымлівае. Спыталася: каму падначалены клуб, хто фінансуе экспедыцыі. Аказваецца, нашчадкі проста... нічые. Ні камсамол, ні ДТСААФ за такую іх работу не адказвае. А размова ж ідзе пра сапраўдную школу патрыётаў: творчую, сучасную.

Больш ведаць пра свой край, пра аднагодкаў, пра сябе — запаведзь таварышаў Сяргея Карпенкі. Свой радавод, прыкладам, ён аднавіў да прадзеда свайго прадзеда. Выявілася: ад тысяча восемсот дзесятага года ўсе яны — маракі. Для яго веданне радаслоўнай і імітацыя пераходу Бакіна — адно цэлае. Не толькі схадзіць у экспедыцыю, але і расказаць пасля пра яе як мага большай колькасці людзей — вось задача, якую ставяць перад сабой нашчадкі. Іх турботы недарэмныя: з жыцця фармалізм перайшоў ужо ў летапіс. Успаміны, падобныя як дзве кроплі вады, не могуць быць дакументам для летапісу. Гэта проста праўдзівы падман — больш нічога. Так казаў пра гэта Карпенка.

Напэўна, тут патрэбная ўзаемная работа: франтавікі павінны вучыцца ўспамінаць, следапыты — распытваць. Звышзадача: атрымаць расказ, афарбаваны эмацыянальна. Такому дакументу проста не будзе цаны. Іншая справа — як зберагчы летапіс. Як звесці гэтую вялізную энергію людской памяці ў адно: успамін да ўспаміну, слова да слова, факт да факта — у непаўторны па сваёй унікальнасці дакумент гісторыі народа на ўсе часы.

Пакуль што летапіс, на жаль, рассыпаны па рэспубліцы, па краіне. Папкі з успамінамі захоўваюцца ў мясцовых музеях. Губляюцца. Напэўна, настаў час стварэння гіганцкага архіву, своеасаблівага банка нашай памяці. Зразумела, з прыцягненнем сучаснай вылічальнай тэхнікі, ЭВМ. Ніводны варты дакумент, ніводны жывы голас і факт не павінен згубіцца. Таму што сёння кожнае сведчанне сведкі — гэта таксама наша агульная барацьба супраць трэцяй сусветнай вайны, супраць войнаў наогул, а такая барацьба, як і летапіс,— не аднаразовая кампанія — яна бестэрміновая.

Нават калі не застанецца ніводнага жывога сведкі апошняй вайны, летапіс не скончыцца. Тым, хто народзіцца ў другім тысячагоддзі, пра франтавікоў давядзецца расказваць нам — іх дзецям і ўнукам. Бо менавіта нам выпала быць сучаснікамі. І гэта, несумненна, таксама пласт памяці, недаследаваны пакуль што нікім. Надыдзе час — летапіс асэнсуе, зафіксуе, захавае і яго, я ўпэўненая ў гэтым. Ну хіба не цікава будзе даведацца хлапчуку з дваццаць першага стагоддзя, што адчуваў Сяргей Карпенка, калі імітаваў пераход Бакіна! Ці пра тое, што перажыла Зарыфа Ешмурзаева побач з бацькам, які страціў памяць! А вось ужо гатовае сведчанне для летапісцаў будучыні:

— У час адпачынку мы ідзём у Бранскія лясы, у паход на цэлы месяц. Для нас вельмі важна, каб людзі ведалі: не было невядомых герояў, што тыя, хто знік бясследна, былі такія ж людзі, якія маюць сваё аблічча, свой твар, спадзяванні і надзеі. Мы шукаем салдацкія медальёны. У Бранскіх лясах лічы што прапала без весткі ўся пяцідзесятая армія, амаль цалкам... Тут нават птушкі не спяваюць. Я заснула аднойчы ў палатцы ўдзень. Чую: хтосьці капае пад маёй галавой. Пад ломам чуецца метал... Аказваецца, я паклала галаву прама на лімонку...

Потым нашы хлопцы раскапалі магілу. Гільзы, сатлелая партупея, косці. Кулі, шкло, зямля — усё сплаўлена ў адзіны камяк. Так цяжка было паміраць чалавеку...

Раптам штосьці мільганула чырвонае — мы знямелі. У камяку, як у капсуле, запяклася жывая кроў салдата. А можа, жывое чалавечае сэрца трымалі ў руках!..

Ася Емец мае рацыю: нічога, што ім не ўдалося высветліць імя таго салдата, і помнік, які пакінулі на той магіле, неканкрэтны. Важна, што жыве памяць, не памірае. І ніколі не знікне.

## ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Звяртаемся да Вас з нагоды нездаровай — у літаральным сэнсе — экалагічнай сітуацыі, якая склалася ў нашым горадзе. Нягледзячы на тое, што па колькасці насельніцтва наш горад невялікі (менш за 300 тысяч жыхароў), ён з'яўляецца унікальным гісторыка-архітэктурным помнікам усесаюзнага значэння. Асноўная галіна прамысловасці ў г. Гродна — хімічная. Дагэтуль наш горад лічыўся неблагім у экалагічных адносінах, хаця жыхары раёнаў, размешчаных каля прамысловых прадпрыемстваў, адчувалі на сабе некаторыя шкодныя эфекты іх работы. Яркім пацвярджэннем пагрозлівай сітуацыі ў горадзе з'явіўся артыкул у газеце «Літаратура і мастацтва» В. Тараса «Небяспечная зона», які прыадкрыў афіцыйную заслону над дадзенымі пра велічыню выкідаў шкодных рэчываў у атмасферу г. Гродна. У прыватнасці ўказваецца, што валавы выкід гродзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» складае больш за 17 тысяч тон у год, а ўзроўні многіх небяспечных для здароўя спалучэнняў перабольшваюць максімальныя дапушчальныя канцэнтрацыі. Апроч таго, у атмасферы горада ў апошнія гады з'явіліся рэчывы, якія раней не фіксаваліся вымяральнымі прыборамі (трыхлорэтылен, метанол, фармальдэгід, араматычныя вуглевадароды і інш.). Спакойнае пералічванне гэтых рэчываў не палохае. Аднак якія ж іх уласцівасці!

Трыхлорэтылен — прадукт, які з'яўляецца нервовай атрутаю, выклікае стойкія паражэнні чэрапнамазгавых нерваў і міякарду, што можа прывесці да раптоўнай смерці.

Метанол — моцная нервовая і сасудзістая атрута з выразным кумулятыўным эфектам.

Фармальдэгід — мае мутагенныя ўласцівасці і з'яўляецца нервовай атрутаю. Да таго ж ён выкарыстоўваецца для кансервацыі трупнай тканкі (!!), але мы пакуль яшчэ жывыя і пішам Вам ліст.

Араматычныя вуглевадароды — усе без выключэння спрыяюць развіццю ракавых захворванняў.

Можна прадоўжыць спіс, але нават гэтага пераліку дастаткова, каб зразумець небяспеку для здароўя жыхароў горада. І цяпер не выклікаюць здзіўлення факты павелічэння колькасці алергічных і лёгачных захворванняў сярод жыхароў горада і асабліва сярод дзяцей. На жаль, з даступных крыніц няясна, якой павінна быць ахоўная зона вакол ГВА «Азот» і ці адпавядае нарматыўным патрабаванням тая прастора (з жылымі дамамі, адміністрацыйнымі будынкамі, лецішчамі, могілкамі) ля завода, якую называюць ахоўнай зонай. Цікава, што зялёных насаджэнняў у гэтай зоне мала, а тыя, што ёсць, высякаюцца.

Вельмі важная праблема — давядзенне да жыхароў г. Гродна інфармацыі пра аварыйныя выкіды, нярэдкія на ГВА «Азот». За 1987 год такіх выкідаў было не менш як дзесяць. У сувязі з гэтым асабліва насцярожвае пазіцыя асоб, адказных за экалагічную сітуацыю, якія валодаюць аб'ектыўнай інфармацыяй, але яна не становіцца агульнавядомай. Нягледзячы на тое, што ў рэдакцыю газеты «Гродненская правда» былі накіраваныя трывожныя лісты чытачоў, у тым ліку пісьменніка А. Карпюка, пытанні, пастаўленыя ў іх, пакінуты без увагі.

Аднак цяжкая экалагічная сітуацыя ў горадзе не перашкодзіла прыняць рашэнне аб будаўніцтве новай чаргі вытворчасці капралактаму, якая ўзводзіцца ў непасрэднай блізкасці ад горада (практычна ў яго межах). Важна падкрэсліць, што пытанне аб будаўніцтве не абмяркоўвалася з грамадскасцю горада, насуперак Закону СССР аб ўсенародным абмеркаванні важных пытанняў дзяржаўнага жыцця.

Сустрэчы з афіцыйнымі прадстаўнікамі службаў, ад якіх залежыць экалагічная сітуацыя, здзіўляе. Нават у эпоху галоснасці аказваецца, што рэальныя лічбы аб узроўнях забруджвання і аб стане здароўя (нашага!) далёка не заўсёды даступныя. А гаворка ж часта ідзе пра здароўе тысяч людзей, якія маюць права ведаць сапраўднае становішча.

Вядома, паводле дадзеных Таварыства аховы прыроды Кастрычніцкага раёна г. Гродна, што будаўніцтва чаргі капралактаму планавалася ў г. Ноўгарадзе. Аднак дзякуючы намаганням грамадскасці г. Ноўгарада было прынята рашэнне аб забароне будаўніцтва. Мы абураныя, што новая чарга будзе будавацца менавіта ў г. Гродна. А ў нас жа, акрамя ГВА «Азот», актыўна забруджваюць навакольнае асяроддзе камбінат будаўнічых матэрыялаў (страшэнным сілікатным пылам), цеплаэлектрацэнтраль-2, завод «Хімвалакно» і інш. Усяго ж называюць каля 40 шкодных для здароўя рэчываў, якія штодзённа выкідваюць у атмасферу, і большасць з іх не рэгіструецца (зноў жа з-за недастатковага забеспячэння прыборамі).

Мы, вядома, далёкія ад думкі, што трэба знішчаць заводы і фабрыкі, але трэба нарэшце падумаць і пра здароўе людзей, якія працуюць на гэтых прадпрыемствах. А ў дадзеным выпадку — будаўніцтва новай чаргі капралактаму. Мы катэгарычна супраць, бо ўпэўненыя, што пасля яго неадменна пагоршыцца экалагічная сітуацыя ў нашым горадзе.

На заканчэнне хацелася б паставіць некалькі пытанняў, якія не вырашыць сіламі адной грамадскасці.

ЧАМУ ДАГЭТУЛЬ ЯКАСЦЬ АЧЫСТКІ ВЫТВОРЧЫХ АДХОДАЎ НЕ ЎВАХОДЗІЦЬ У СІСТЭМУ ЭФЕКТЫЎНАГА ЭКАНАМІЧНАГА СТЫМУЛЯВАННЯ (АБО ПАКАРАННЯ) ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І КАНКРЭТНЫХ АСОБ!

КАЛІ ЭКАЛАГІЧНЫЯ БЮЛЕТЭНІ (З РЭАЛЬНЫМІ ЛІЧБАМІ) СТАНУЦЬ РЭГУЛЯРНЫЯ Ў ДРУКУ, НА РАДЫЁ, ТЭЛЕБАЧАННІ, АНАЛАГІЧНА ШТОДЗЁННАМУ ПРАГНОЗУ НАДВОР'Я!

ЦІ БУДЗЕ ШЫРОКАЕ АБМЕРКАВАННЕ ПЛАНАЎ БУДАЎНІЦТВА НОВЫХ ЗАВОДАЎ У г. ГРОДНА!

Адказы на гэтыя пытанні памаглі б наладзіць сістэму экалагічнай адукацыі насельніцтва не толькі ў г. Гродна, але і ў любым іншым горадзе і, нарэшце, зрабілі б экалагічную сітуацыю агульнавядомай. Мы гатовы спрыяць па магчымасці рашэнню гэтых набалелых пытанняў. Лічым мэтазгодным стварэнне грамадскай арганізацыі, якая ўзяла б на сябе функцыі народных кантралёраў экалагічнага стану нашага горада. Мы, савецкія людзі, павінны беражліва ставіцца да нашых прыродных рэсурсаў, нашай зямлі, бо на ёй яшчэ жыць і працаваць многім пакаленням.

Ю. М. АСТРОЎСКІ,
акадэмік АН БССР.
Н. П. КАНУННІКАВА,
кандыдат біялагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біяхіміі АН БССР.
А. В. ЛІОПА,
кандыдат біялагічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута біяхіміі АН БССР.
А. Я. ТЭЙТЭЛЬБАЎМ,
аспірант Інстытута біяхіміі АН БССР.
Ф. С. ЛАРЫН,
намеснік дырэктара Інстытута біяхіміі АН БССР па навуковай працы, кандыдат медыцынскіх навук.
О. В. ЧУМАКОВА,
кандыдат біялагічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута біяхіміі АН БССР.
П. П. ВОРАНАЎ,
старшы лабарант Інстытута біяхіміі АН БССР.
Усяго 58 подпісаў.


ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

Свае першыя вершы Андрэй Зязюля (1878—1921) надрукаваў у 1910 г. у «Нашай Ніве». Творы паэта друкаваліся і асобнымі кніжкамі: «З роднага загону» (1913) і «Слова Праўды» (1917). Праз год пасля смерці выйшла трэцяя кніжка — «Аленчына вяселле» (1922). У 10-ю гадавіну з дня смерці сябры і аднадумцы паэта сабралі ўсе вядомыя і даступныя ім творы Андрэя Зязюлі і выдалі ў Вільні найбольш поўны зборнік ягоных вершаў «З роднага загону». Аўтар прадмовы пісаў, што шмат якія творы знаходзяцца ў прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы, у Янкі Купалы... Архіў Купалы згарэў разам з домам песняра на пачатку вайны... Архіў Эпімаха-Шыпілы дагэтуль яшчэ не вывучаны як след...

Сын беднага селяніна, Аляксандр Астрамовіч (такое сапраўднае імя Андрэя Зязюлі) вучыўся ў Пецярбурзе ў духоўнай семінарыі. Там ён пазнаёміўся з выкладчыкам класічных моў Б. Эпімахам-Шыпілам, з іншымі дзеячамі беларускае культуры. Стаўшы ксяндзом, А. Астрамовіч спазнаў няміласць каталіцкай іерархіі Беларусі, якая амаль спрэс складалася з палякаў або апалячаных «тутэйшых». За дзесяць гадоў святарства яму давялося служыць у шасці парафіях.

У лёсавызначальны для Беларусі перыяд 1917—1918 гг. Андрэй Зязюля апынуўся на правым крыле нацыянальнага руху. Ён быў адным з заснавальнікаў Беларускае хрысціянскае дэмакратыі — партыі, што выказвала інтарэсы заможных сялян і гараджан,— і прадстаўляў яе ў Мінскім беларускім прадстаўніцтве — каардынацыйным цэнтры буржуазных партый.

Палітычная біяграфія і духоўны сан паэта працяглы час уплывалі на адносіны да яго творчай спадчыны. У 5-м томе Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, што выйшаў з друку ў 1972 г., Андрэй Зязюля названы клерыкальным паэтам. Гэтак ён характарызуецца і ў 2-м томе Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (1985), але тут ужо звяртаецца ўвага на тое, што паэт паказваў карціны сялянскай працы і выяўляў патрыятычныя пачуцці. Відавочна, што творчасць Андрэя Зязюлі чакае свайго даследчыка, але ўжо сёння не выклікае сумненняў, што ягоныя вершы павінны ўбачыць свет. Прапануючы ўвазе чытачоў два творы Андрэя Зязюлі, хачу звярнуць увагу на тое, што ён, звяртаючыся да Беларусі, піша слова Ты з вялікай літары. Гэтак у царкоўнай літаратуры звяртаюцца да бога. Ксёндз Астрамовіч, веруючы ў бога, верыў і ў Беларусь, у беларускі народ. Чытач можа пераканацца ў гэтым сам.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ

**Андрэй ЗЯЗЮЛЯ**

## БЕЛАРУСЬ

Есць слоўца цэннае ўсім і знамяніта,
Што вымаўляецца з пашанай дзіцянём,
У якім паняцце Бацькаўшчыны скрыта,—
То Беларусь, то край, дзе мы здаўна жывём.

Старонка мілая, Ты многімі забыта,
Шмат спіць сыноў Тваіх адвечным сном.
Зямелька родная, слязьмі і потам зліта,
Мы да жыцця з Табою зноў уваскрасём.

Хоць знойдзецца ў Табе выродны валакіта,
Катораму Твая не да спадобы світа,
І не адзін прадасць Цябе Іскарыёт,
Але Табе яшчэ ўсё ж, Маці семяніта,
Сяляне верныя, што сеюць жыта,—
А з іх паўстане Твой народ.

## НІКОЛІ

*Над гонар і славу, над чары кахання*
*Народную справу і перакананне,*
*Што розум дыхтуе, заўсёды я волю —*
*Ня здраджу ніколі.*

*Хай хмара павісне над соннай зямлёю,*
*Хай гора прыцісне жалезнай рукою,*
*Я роднае мовы ня кіну ў нядолі —*
*Ня здраджу ніколі.*

*Бушуе хай бура, віхор хай злуецца,*
*Хай вецер панура завые на рэчцы,*
*Я роднага краю, што рвецца да волі,—*
*Ня здраджу ніколі.*

*Хай гром з перунамі грыміць і страляе,*
*Маланка агнямі хай бліскае, ззяе,*
*Свайго я народу бяз хлеба і волі —*
*Ня здраджу ніколі.*

*Хай срэбра, дукаты мне сыпяць пад ногі*
*І скажуць: багаты будзь, кінь род убогі,*
*Я плюну з пагардай, народу ж і волі —*
*Ня здраджу ніколі.*

*Да самага скону, усякім прымусам*
*І сіле прыгону скажу: Беларусам*
*На век астануся, сваей ўласнай волі —*
*Ня здраджу ніколі.*





**Аляксандр ШЧОГАЛЕЎ**

# Як я працаваў у кааператыве

Слушна сказаў чалавек: фінансавая праблема самая глыбокая — у яе можна падаць усё жыццё. Усё жыццё мне надта не хочацца, але апошнім часам заглядваць у яе прыходзіцца досыць часта. Зрэшты, не падумайце, што я гультай, абібок.

Пяць гадоў назад я меў неасцярожнасць скончыць політэхнічны інстытут і цяпер па праву нашу кароткае, але ёмістае званне «ІТР». Цікава, ну чаму нас спачатку вучаць, трацяць на нас грошы, плацяць стыпендыю, а калі ў рэшце рэшт мы, нашпігаваныя ведамі і вераю ў светлую будучыню, трапляем на вытворчасць... выяўляецца, што цана нам — усяго толькі 110 рэ. Нічога дзіўнага, што мы з сябрамі сабраліся аднаго разу і вырашылі: доўга так працягвацца не можа. На шчасце, дзяржава гэтым разам пайшла нам насустрач, дала магчымасць паспрабаваць сілы ў кааператыўнай дзейнасці.

Ура-а! Дачакаліся. Ну цяпер мы ўжо пакажам, на што здольныя.

Наводзім даведкі, хто што робіць, і, якой толькі інфармацыяй ні ўзбагаціўшыся, збіраемся ў мяне на кухні, за ўяўным «чырвоным абрусам» падзяліцца ідэямі. Адразу ж вырашылі, што шмоткі шыць не будзем. Па-першае, толкам не ўмеем, а па-другое — не вельмі хочацца рэкламаваць «Пуму» або «Адзідас»... Фатаграфаваць не будзем таксама, хоць, здавалася б, справа выйгрышная: ніколі б не падумаў, што ў нас столькі жадаючых павесіць дома, на ганаровым месцы, фатаграфію чужога ката. Гэта ж проста катаманія нейкая. Усе падземныя пераходы перапоўнены здымкамі катоў, а попыт задаволіць ніяк не могуць... Відаць, час слонікаў прайшоў, і чалавеку захацелася чагосьці больш грацыёзнага...

Раптам нехта з нас успомніў, што адзін знаёмы агітаваў заняцца пастаўкамі мяса ў кааператыўныя кафэ. Прыгожа расказваў. Едуць, маўляў, яны ў калгас, купляюць там якую паўжывую свінню па 80 копеек за кіло і здаюць яе ў кафэ, але... ужо па 3 рублі. Што ж да канцавога пакупніка, дык яму гэты самы кілаграмчык абыходзіцца ні многа ні мала ў 21 рубель. Вось гэта прыбытак!..

Падумалі мы, падумалі і вырашылі: не, не будзем труціць ні ў чым не вінаватых грамадзян. Тут і без нас ужо маса ахвотнікаў, дый сталоўкі ў гэтай справе вопыт маюць неблагі. Словам, варыянтаў, як выявілася, шмат, а выбраць, здаецца, няма чаго, і тут мы раптам уцямілі што рабіць. Ну, вядома — рамонт жытла! Бо нашы будаўнікі пастараліся забяспечыць кааператывам самы шырокі фронт работ, паклапаціўшыся такім чынам пра нас максімальна.

Значыцца, вырашана. Будзем будаваць і рамантаваць. Сказана — зроблена. Хапаем падшыўку «Вячоркі» і пачынаем старанна вывучаць апошнюю старонку ў пошуках цікавых нам аб'яў. Знайшлі. Ідзём па ўказаным адрасе высвятляць дэталі. Высветлілі. І што вы сабе думаеце? Здорава ў іх выходзіць. Сам кааператыў, выявілася, нічым не займаецца і нават не дапамагае сваім членам прыдбаць матэрыялы, інструменты і іншыя неабходныя атрыбуты. Затое ён можа заключыць з вамі пагадненне, сутнасць якога зводзіцца прыкладна да таго, што калі хто-небудзь раптам патэлефануе і папросіць што-небудзь зрабіць, вы прыйдзеце і зробіце, а кааператыву пералічыце працэнты. Вось і сядзіць у іх чалавек на тэлефоне і чакае, калі патэлефануюць... У гэтым уся яго праца, а грошыкі ідуць...

Карацей кажучы, не захацелі мы карміць за свой кошт «тэлефаніста» і звярнуліся на другі адрас. Тут нас прынялі, уключылі ў члены кааператыва, і праз нейкі час мы выйшлі на першы наш заказ. Пачуццё, якое пры гэтым адчувалі, досыць цяжка параўнаць з якімсьці іншым. Бадай што яно прыблізна нагадвала дрыжыкі ў каленьках у час першага ў жыцці экзамену. Ішлі і думалі: «А ці ж здолеем мы, ці не акажацца першы блін комам? Бо, як сапёры, мы можам памыліцца толькі адзін раз: другі раз нас проста не паклічуць».

Зрэшты, досыць ужо баяцца: перад намі ва ўсёй сваёй прыгажосці — наш першы аб'ект. Не спяшаючыся званіць і паведамляць гаспадару, што ўжо прыйшлі, мы моўчкі разглядваем дзверы. Калісьці гэта былі адмысловыя дзверы, але час узяў сваё, і цяпер на іх, бы на чалавечым твары, адбілася ўсё перажытае. Каля ручкі— процьма рваных дзірак: відаць, гаспадар спрабаваў прыбіць яе лепш, але марна, і цяпер яна матлялася на адным іржавым цвіку. Трохі вышэй— дзве вялікія, няправільнай формы адтуліны, адна з якіх заторкнута скамечанай паперкаю, а ў другой, як напамінак аб былых вясёлых часах, тырчыць корак з-пад імпартнага сухога.

Нарэшце звонім...

— Добры вечар. Мы з кааператыва, па выкліку...

Гаспадар, інтэлігенты мужчына гадоў сямідзесяці, доўга стараецца ўспомніць, хто мы такія і навошта прыйшлі.

— Заходзьце, галубочкі, заходзьце, я вас гарбатаю пачастую.

Мой напарнік Юра адразу ж адчыніў чамаданчык з інструментам і паспрабаваў ацаніць фронт работ, але стары энергічна замахаў рукамі і зусім катэгарычна заявіў, што не дазволіць нам нічога рабіць да тае пары, пакуль мы не вып'ем з ім гарбаты.

— Гарбата ў мяне асаблівая, навошта ж крыўдзіць гаспадара! Праходзьце, мілыя, сядайце каму дзе падабаецца.

Неўзабаве мы ўжо пілі гарбату, якая сапраўды была вельмі смачная. Да таго ж мы атрымалі поўную інфармацыю пра тое, як яе гатаваць.

За першым кубкам нам быў прапанаваны другі, а ўсе нашыя спробы заняцца дзвярыма заканчваліся нічым. Мікалай Іванавіч, так звалі старога, аказаўся нечакана гаваркі. Тры вечары прыходзілі мы рамантаваць дзверы і тры вечары пілі гарбату і слухалі нетаропкі яго аповяд пра ўсё сваё жыццё.

Праўда, дзверы мы ў рэшце рэшт усё-такі давялі да ладу.



Праз месяц вырашылі наведаць Мікалая Іванавіча, але дзверы ніхто не адчыніў. Ад суседкі даведаліся, што разам са старымі дзвярыма памёр іх гаспадар...

За першым заказам атрымалі другі, і мы паступова сталі ўцягвацца ў гэты вар'яцкі вір, імя якому — кааператыў. Увесь вольны час мы прысвячалі пошуку дэфіцытных матэрыялаў і ўвасабленню ў жыццё задум заказчыка.

Адна мілая дама, сустрэўшы нас на парозе і здзівіўшыся нашай маладосці, заявіла, што ёй неабходная ў вітальні шафа. Але не простая... а рыхтык такая, як у Вадзіма Пятровіча.

Вырашыўшы, што гэты заказ вельмі зручны, бо не трэба нічога прыдумваць самім, кіруемся да суседа. Уладальнікам цудоўнае шафы аказаўся нічым не прыкметны бадзёры мужчына. Але, мяркуючы па ўсім, ён належаў да тае катэгорыі асоб, у якіх ёсць усё. Грэбліва-незадаволены выраз яго масленай фізіяноміі на імгненне застыў, а потым... здарыўся цуд: рот расцягнуўся ў ласкава-падлізлівай грымасе, вочкі заблішчэлі, і ён расквітнеў ва ўсмешцы.

— Ба, суседачка, калі ласка... заходзьце, ашчасліўце...

— Вы ўжо прабачце за клопат, Вадзім Пятровіч. Вось хлопчыкаў да вас прывяла: шафачку паглядзець.

«Шафачка» сапраўды была адмысловая. Ва ўсім адчувалася рука вопытнага майстра. Уражвалі і вытанчанасць ліній, і закончанасць формы. А калі трапяткой рукой мы прыадчынілі дзверцы, дык і зусім ахнулі. У велізарным люстэрку ў зіхоткай металічнай рамцы адбіваліся нашы выцягнутыя твары.

— Сі-і-іла,— прамямліў Юрка і чамусьці памацаў імпартную дублёнку, якая вісела ва ўбачанай намі раскошы неяк па-сіроцку.

А мне раптам захацелася сказаць гаспадару, што такія «шафачкі» да дабра не даводзяць і што часцей за ўсё за імі настае поўная канфіскацыя...

Абмераўшы рулеткаю шэдэўр уздоўж і ўпоперак, мы сціпла выйшлі. Дачакаўшыся ў калідоры гаспадыні, у адзін голас пацікавіліся:

— А кім, выбачайце, ён працуе?..

— Ды так, здаецца, недзе на будоўлі... Ці то плітку кладзе, ці яшчэ нешта... — ляніва адказала яна, а потым дапытліва на нас паглядзела: — Дык калі, хлопчыкі, прыступаем?

Мы з Юркам пераглянуліся і таропка запэўнілі, што, мы, вядома, паспрабуем, што мы, вядома, але... не абяцаем.

Аб'ездзіўшы назаўтра ўсе магазіны і пераканаўшыся, што неабходных для такое «шафачкі» матэрыялаў у рознічны продаж не паступае ўвогуле, панурліва тэлефануем заказчыцы. Выслухаўшы нашы прабачэнні і заявіўшы, што калі мы не можам зрабіць такую элементарную рэч, то няма чаго і брацца не за сваю справу, яна велікадушна засмяялася, а потым паведаміла, што... прыйшлі добрыя дзядзькі ад суседа і ўсё даўно ўжо зрабілі.

Кааператыўная дзейнасць з кожным днём накладвала на нашы твары ўсё больш адбітак. Пад вачыма з'явіліся жалобныя кругі. Паступова мы набылі выгляд поўных аскетаў і намі цалкам завалодала цяпер адзінае жаданне: як след выспацца. Пасля працы, закупіўшы ў суседняй краме малака і булачак, мы спяшаліся штодня на заказ. Бы ў калейдаскопе мяняліся твары гаспадароў. Мы фарбавалі, будавалі, укладвалі плітку і... прыйшлі раптам аднойчы да высновы, што займаемся не сваёю справаю.

А закончыўшы ў той дзень працу, мы выйшлі нарэшце зусім адурэлыя (як ад нечаканага інцыдэнту, так і ад дурманнай пары карычневай эмалі) на вуліцу, моцна сціскаючы ў руках месячную выручку — 60 рублёў на дваіх ( у канчатковым выніку) і ўбачылі на рагу магазіна натоўп. У цэнтры яго сядзеў на кукішках малады чалавек і катаў на гладкай дошчачцы шарыкі.

Як высветлілася пазней, яго дзённы выйгрыш складаў каля ста пяцідзесяці рублёў... Мы з Юркам чарговы раз пераглянуліся. Напэўна, кожны з нас у гэтую хвіліну міжволі падумаў пра справядлівасць, а можа — пра штосьці агульначалавечае...



**Вы яшчэ не чулі песень маладога барда з Наваполацка Сяргея Сокалава-Воюша! Шкада. Сяргей спявае пра важнае, пра тое, што сёння хвалюе нас. Зрэшты, лепш адзін раз пачуць... Ці хаця б прачытаць. Тым больш, што Сокалава-Воюша не вельмі радуюць публікацыямі. Сёння яго дэбют у «Крыніцы».**




## ЧАС ПЕРУНА

Куды ты прапаў, Пярун!
Ці, можа, ў бяздонны лёх
Пад спеў навальнічных струн
Ты адпачыць прылёг!

Маланкі зіхцяць, зірні,
Залева гудзе наўкол
І смягне у вышыні
Раз'юшанай хмары скол.

А можа, Чужынскі Бог
Прымусіў цябе маўчаць
І, кінуўшы ў гэты лёх,
На вусны паклаў пячаць!

А ты, як бядак-гарун,
Тужэй зацягнуў свой пас...
Куды ты прапаў, Пярун,
Калі надышоў твой час!..

## БЕЛАРУСКІМ АЛЬПІНІСТАМ-АМАТАРАМ

Стаю, маўчу, ня веру сам сабе
Паралізуе ява рух і волю,
Траха ня з песняй моднай у губе
Шчыруюць альпіністы на касцёле:

Дзясятак моцных цяглiцавых рук...
Да самай дальняй мэты шлях кароткі.
Як мякка ўваходзіць у цэглу крук!
Нібы бандыцкі нож у цела продка!

Яны імкнуцца быць хутчэй ля зор,
А я у самым сэрцы адчуваю
Таго нажа халоднае лязо
І мёртвы храм у барвах небакраю.

Спыніцеся! Чым думаеце вы!!
Адкуль такая прага вандалізму!!
А мне сказалі: «Не, вы не правы,
Вам проста очань плоха видна снизу.
Взайдзите с нами, пакарыте шпиль,
И память прэдкаў васпарыт химерай,
Ведзь ваш кастёл для нас лиш толька пыль,
Плацдарм для васхаждзення в Кардзильерах!»

Я не пайшоў ні прэч, ні на касцёл,
І брыдка мне было сабе прызнацца,
Што калі б хто зваліўся з іх на дол,
Я б першы дапамог яму падняцца.

## ЗАПАВЕТНАЕ

Песня,
Якой пераціснулі глотку калісьці,
Гэтак жа сама калісьці, відочна, ўваскрэсне.
Ніва,
Пабітая засухай, ізноў закрасуе —
Верне жыццё ёй увесну араты руплівы.
Людзі,
Адданыя справе да самага скону,
Тысячы сэрцаў да гэтае справы абудзяць.
Воі,
Што шчасця шукаюць на нашай зямліцы,
Страцяць мяно і змяшаюцца з гэтай зямлёю.



Навальніца грымела і плакала,
Рвала цемру галінамі дрэў
І каціўся над чорнымі дахамі
Нейчай песні гарачы напеў.

Ты паслухай, вандроўнік самотны,
Вуха долу прыклаўшы, скажы,
Што і як нашы пушчы гамоняць,
Што маўчаць курганы і крыжы.

І маланкі паходнямі стануцца,
І з мінуўшчыны морак спадзе,
І нязнаная новая раніца
Зазіхціць у крынічнай вадзе.

Гучнай прышласці поступ грымотны
Знішчыць рэшткі закляццяў чужых...
Ты паслухай, вандроўнік самотны,
Што маўчаць курганы і крыжы.

## ПЕСНЯ

Зноўку зарніца у небе Радзімы палае,
Прашчураў цені з сівых курганоў паўстаюць,
Я іх рамёны ля ўласных плячэй адчуваю,
Нашыя песні іх мужныя вусны пяюць.

Ты, чарнабрыва, даруй і чакай на узлеску,
Дзе крывічанкі чакалі каханых сваіх,
Дзе іх вачамі нас сёння страчаюць пралескі
З расою — слязінкамі іх.

Кроў на сумётах і гронкі каліны на белі,
Як вышыванкі у нашых хлапцоў і дзяўчат,
Думкі і душы, і рукі у нас не знямелі,
Ведаем, смерць — гэта нават паўкроку назад.

Хтось паслізнуўся і тварам у тхлань балаціны,
Вабяць кагосьці чужыя стугі і крыжы,
Толькі упарты шыбуе абранай сцяжынай,
І вораг кіпіць на нажы,
І вораг кіпіць на нажы,
І вораг кіпіць на нажы...

НА ГРАНІ ФОЛУ

# МАНАЛОГ БІЧА

## З НЕНАЗОЙЛІВЫМ АЎТАРСКІМ КАМЕНТАРЫЕМ

Наталля ГРОМАВА

Мы сядзелі ў чэзлым скверыку, што лірычным астраўком уклініўся ў гарадскую спешку і мітусню, і размаўлялі «за жыццё». Мой новы знаёмы выглядаў увогуле сучасна, быў прыстойна апрануты, на галоднага падобны не быў.

— А дзе вы працуеце? — пытанне, якое зрабілася ў такіх сустрэчах рытарычным, зляцела ўжо было ў мяне з языка, але раптам замёрла напалову вымаўленае, саступіўшы месца бадзёраму раптоўнаму адказу:

— Анідзе.

— У-у-у,— вымавіла я з разуменнем.

— Угу-у-у...— у тон мне падхапіў суразмоўнік.

— Вольны мастак, значыцца? Вершы складаеце, малюеце, музыку пішаце?

— Усё разам. У залежнасці ад настрою.

— І што: друкуюць, выстаўляюць, выконваюць?

— Не. Я мастак у душы.

— Што ў перакладзе на нашую мову азначае проста «дармаед»?

— Ну навошта так непачціва...— юнак гідліва сцепануў плячыма.

— Біч? Былы інтэлігентны чалавек, іншымі словамі? — не сунімалася я.

— Паслухайце, пакіньце гэтыя свае пошлыя трывіяльныя абрэвіятуры. Вы размаўляеце з чалавекам інтэлігентным, а я больш люблю гаварыць пра сябе ў цяперашнім часе.

— І сапраўды: вы ж яго характэрная рыса, дэталь, можна сказаць... Ніколі не прыходзіла ў галаву?

— Прызнацца, не задумваўся.

— Слухайце, а як вы дасягнулі (дайшлі, дажыліся, наогул, дакаціліся да) такога? Не жадаеце падзяліцца вопытам? У мяне і назва ўжо ёсць: «Маналог біча»...

— А-а, пісак прадстаўляеце? Што ж, магу і падзяліцца, калі ёсць патрэба.— Ігар (так звалі майго новага знаёмага) задумвўся на хвіліну.— Толькі дарэмна вы на мой аповяд разлічваеце. А гэтую вашу назву, баюся, не апраўдаю.

На мой дапытлівы позірк адказаў адназначна:

— Не атрымаецца адмоўнага героя.

— І цудоўна! — ажывілася я ў прадчуванні нестандартнага павароту.

— А атрымаецца ўсё наадварот. І гэтыя свае журналісцкія штучкі выкіньце з галавы.

— Ды я, уласна, і не трымаю іх...

— А я дакажу вам, што свет, які вы так старанна канструіруеце, не больш чым ілюзія, а сапраўдная сутнасць і ісціна з вашай універсальнай «тэорыяй выжывання» ніколі не перасякаліся і, упэўнены, не перасякуцца.

— А з вашай перасякаюцца?

Халаднаватыя шэрыя вочы паглядзелі на мяне спакойнаўніжальна.

— Не трэба на мяне так глядзець.

— Я не гляджу так. Мне проста вас (запнуўшыся, уедліва), таварыш журналіст, шкада.

— Кіньце, таварыш беспрацоўны, гэта зусім лішняе. («І ўвогуле,— падумалася,— шмат на сябе бярэш».) Дарэчы, як вы сёння: ужо абедалі?

— Вось-вось. Хто не працуе, той есць. Крыць не было чым.

— ...Я, Ігар Антонавіч Мыслівец, рос звычайным хлопчыкам у сям'і звычайных бацькоў. У раннім дзяцінстве вучыў на памяць вершы Маршака і Маякоўскага — асабліва рабіў націск на «Что такое хорошо и что такое плохо». Такім чынам, нашыя прыкладныя ісціны ўсвядоміў дзякуючы маці з бацькам, як кажуць, змалку.

— Давайце без піжонства, га?

— Давайце. Толькі вось яны, гэтыя самыя ісціны, павялі мяне па жыцці ў іншым напрамку. Адносна астатніх... Божа мой... Я ж і універсітэт скончыў...

— Дык у вас і адукацыя прыстойная?..

— А як жа цяпер без адукацыі? А што да яе «прыстойнасці», то якраз дастаткова, каб напісаць у адпаведнай графе словы «грузчык», «дворнік» ці «вартаўнік» без памылак. Усім чамусьці хочацца ведаць, які грамадска карысны ўклад я ў гэтае жыццё ўношу. А тое, што я — проста чалавек Ігар і нашу ў сабе, мабыць, тысячу геніяльных твораў (тых ці іншых) і магу аднойчы нават рэалізавацца (усім на зайздрасць і здзіўленне) — да гэтага ў нас нікому справы няма.

Памаўчалі.

— Дык рэалізоўвайцеся, калі ласка, што ж вам перашкаджае?..

— Ваша актыўная грамадзянская пазіцыя... І ўвогуле: якога д'ябла вы да мяне чапляецеся?!

Было відаць, што Ігар пачынаў нервавацца.

— Ды хто да вас чапляецца?.. Трэба мне гэта... Ці мала абібокаў па горадзе бадзяецца: да кожнага яшчэ чапляцца...

— Я не абібок.

І тут я злавіла сябе на думцы, што ўсё будзе зусім не так. Хочаце ведаць, што іменна — «усё»? Адказваю: мая сустрэча з бічом. Больш не буду лезці чалавеку ў душу. Лепш што-небудзь прыгадаю.

— ...Ешце. Не саромцеся. Тут — свае. Мы ўсе тут свае. Без цырымоній.

Тоўстыя, валасатыя пальцы з заціснутым у іх іржавым відэльцам марна імкнуцца падчапіць капусны ліст, які плавае ў рэдкай мешанцы. Відэлец чапляе, скрыгоча аб сценкі бляшанай конаўкі — часовай святочнай пасудзіны. Конаўка — на падлозе паўцёмнага непрыбранага пакоя. Вакол на кукішках — людзі. Былыя. Хаця... Можа, гэта толькі знешняе ўражанне: былыя?

У пакой уваходзіць жанчына, позірк яе здаецца разгубленым, трохі нават здзіўленым і ў той самы час нейкім пакорлівым: звыклася яна ўжо з усім. Няўпэўнена таропкімі рукамі, нібы саромеючыся новых асоб, якія тут з'явіліся, запознена пачынае яна прыбіраць у кватэры: гаспадыня. Зрэшты, адразу ж разумее і бессэнсоўнасць і марнасць гэтых сваіх намаганняў: уздыхнуўшы, прысаджваецца на падлогу да астатніх. «Ты, калі ласка, не здзіўляйся, тут сёння — урачыстасць»,— тлумачыць мой праважаты. Заўважыўшы маю ўзрушанасць, адразу ж дадае:

— Побыт, этыкет — усё гэта ўмоўнасці. Зразумела?

Я прыгнечана маўчу, востра ўсведамляючы сваю ў гэтым сэнсе недасканаласць.

— Затое Гена вось усяго Булгакава ведае. На памяць. «Мастера» шпарыць з любога радка: сам па кніжцы правяраў.

— Слухайце, Ігар,— раптам нібы ачулася я.— А ці вы Булгакава ведаеце? На памяць...

Ігар збянтэжыўся, востра зірнуў на мяне, умомант усё раптам зразумеўшы (ці гэта мне толькі здалося), і спакойна адказаў:

— А на халеру мне яго ведаць, ды яшчэ на памяць! Я, можа, сам Булгакаў, а то і лепшы за яго...

Потым, жадаючы давесці мне да канца гэтую бязглуздзіцу, таропка пакорпаўся ў кішэнях, выцягнуў дзве скамечаныя паперкі, спісаныя ўшчэнт. «Вось паслухайце!» — пачаў ён напаўголаса чытаць:

«Магутны кондар цяжка лунаў над выпаленай саваннай. Яго велізарныя расхінутыя крылы засланялі сабою сонца, і зыбкі цень падаў на твар чалавека, які стомлена ляжаў, распасцёрты, на гарачай патрэсканай зямлі. Апошнія ўсплёскі яго свядомасці, што паціху згасала, нібы падхоплівалі яго, і ён ясна і дакладна ўсведамляў, што і мяцежнае ягонае сэрца, і пакорная светлая ягоная душа належаць цяпер не яму, а той вольнай цудоўнай птушцы, якая лунала цяпер кругамі ў нецярплівым чаканні ягонага канца».

— Ну як?

— Паслухайце, а з вамі ўсё ў парадку? — у маім голасе міжволі пачуліся спачувальныя ноткі.

— Са мною якраз усё, а вось вы — зашораная. І ўвогуле ўсе вы — зашораныя.

— Гм...

— Так-так. А я — жыву як чалавек. Зімою — служу дзе-небудзь паціху, рыхтуюся да лета. Ну, а ўжо ўлетку... Можна рвануць у стэп. А можна — у тайгу.

— Цікава, каму ж вы там патрэбны, у стэпе і ў тайзе, нахлебнікам?

— Дзяўчо-о, ды што ты ведаеш пра жыццё...— Ігар цынічна сплюнуў.— Ды ці ведаеш ты, што на поўдні вырошчваюць кавуны, якія можна супраўаджаць у нашыя сярэднія шыроты і мець за адзін сезон столькі, колькі ты за год не заробіш? А на поўначы растуць журавіны і такія белыя грыбы, якіх ты і ў жыцці не бачыла, як, зрэшты, і бабкі, што даюць за іх у нашых рэстаранах... Гэта, як кажуць, толькі матэрыяльны бок справы, не кажучы ўжо пра экзотыку. І ўвогуле: соцыум — не для мяне. Варушацца, блытаюцца адзін у аднаго пад нагамі: выдзіраюць сваю, вартую жалю, зарплату. А жыццё: цю-цю... Міма...

— Бедная ваша мама...

— А чаго яна бедная? Яна ж думае, што я — як усе... Навошта засмучаць сталага чалавека? Жывы-здаровы — ну і добра...

— Ну і добра...— паўтарыла я задуменна.

— А чаго гэта вы ўсё падтакваеце? — твар Ігара стаў насцярожаны, потым раптам — сумны...

— А чаго вы хвалюецеся? У вас жа ўсё «ціп-топ». Дык чаго ж нервуецеся? Твар вунь які, нават асунуўся.

— А што добрага? — нечакана выпрастаўся біч.— Моташна,— сказаў шчыра, коратка і нібыта сам сябе спалохаўшыся: — Хадзем, кавы глытнём? Частую.

— Паўгадзіны.

— Паспееце. «Спяшайся павольна».

— Гэта вам няма куды спяшацца.

— А праўда ж: ня-ма куды...

Ігар засяроджана разглядаў мыскі сваіх вастрадзюбых чаравікаў.

Спяшаліся прахожыя. Усе — па сваіх справах. Маленькіх і вялікіх. І нават я спяшалася: вывучаць Ігара. Сумнага, стомленага і адзінокага. Нікому не патрэбнага: ні справам, ні людзям.

— А ці ёсць у вас сябры?

— А як жа! Вось, паглядзіце...

З бакавых дзвярэй магазіна адзін за адным выплывалі шчыльна напакаваныя нечым скрыні і складваліся побач у невялікай бруднай падваротні. Малады чалавек у шырокіх клятчастых штанах, ватоўцы і з гладка выгаленай макаўкай па-майстэрску з імі ўпраўляўся.

— Яшчэ адзін наш.— Ігар памаўчаў.— «Тусуецца»,— дадаў,— на гаспадарчым двары да цяпла. Гэй, Лёха, салют!..











ПАЗІЦЫЯ

# МАГНІТНАЕ ПОЛЕ

Леанід ЕКЕЛЬ

...Каму з тых, хто піша на тэму камсамольскага жыцця, невядомыя гэтыя пакуты: і ад праўды адступаць нельга, і хлопцаў не хацелася б крыўдзіць. А праўда няўцешная: запушчаны кімсьці нябачным, круціцца райкомаўскі махавік, ды зазвычай усё ўпустую. Сам па сабе, ніяк не ўплываючы на рэальнае жыццё.

Ну раз пра гэта напішаш, два, а далей што! Бясстрасна пералічваць праблемы, якім канца няма! Дык не з адных жа праблем і эксперыментаў складаецца нашае жыццё! І павінна, абавязкова павінна ў ім быць тое, што па-канцылярску суха называецца пазітыўнымі фактамі. А пазітыўны — значыцца, заснаваны на вопыце...

Дык вось, бадай што ўпершыню за многія гады я ўбачыў нармальны гарадскі камітэт камсамола. Тут не бегалі, як заведзеныя, з важнымі, адсутнымі позіркамі маладыя, але ўжо досыць мацёрыя бюракраты з камсамольскімі значкамі. Тут не імітавалі бурную дзейнасць, не засядалі з ранку да позняга вечара, не адказвалі па тэлефоне самавітымі галасамі: «Ну, якія праблемы, стары! Гэтыя пытанні мы рашаць будзем...»

Яны сапраўды шмат што рашаюць. Але не па тэлефоне, не праседжваннем крэслаў ад званка да званка. Гарком для іх — хутчэй баявы штаб, чым працоўнае месца. А працоўнае месца — пярвічкі. Там, дзе рэальнае, а не папяровае камсамольскае жыццё. А вось якім яму быць, у многім і залежыць ад райкома, гаркома.

Калі гэта не апарат функцыянераў, а магутнае магнітнае поле — быць руху. А што рух — жыццё, ісціна вядомая.

Не раз бывала такое: пагамоніш у райкоме гадзіну-другую — і роспач падступае да сэрца. Усё як ва ўсіх! Ніякае спробы пашукаць свой твар, свой почырк, свой стыль працы. Пачынаеш пераконваць, даказваць, што райком ператворыцца ў чарговы пункт перасылкі папяровага валу, што, калі не выкараскаюцца яны з-пад яго па сваёй волі, згасне і тое, што яшчэ цепліцца. Не навязвайце сілаю пярвічным арганізацыям формы работы, якія там пэўна не прыжывуцца. І падтрымайце тое, што для іх актуальна, што сапраўды ім неабходна...

«Ды як можна! — перапынялі мяне са спачувальнымі ўсмешкамі.— З нас патрабуюць, і мы патрабуем. Гэта — паводле статута. Вось толькі апошнія дакументы. Азнаёмцеся...» І пачыналася жангліраванне пульхнымі папкамі з усялякімі дакументамі.

Я наўмысна не называю райком, дзе была гэтая гаворка, не прадстаўляю маіх суразмоўцаў — сітуацыя да таго тыповая, што ад бясконцага паўтору страціла і сваё аблічча, і голас, і афарбоўку. Шмат гадоў запар было менавіта так. І, мяркуючы па ўсяму, не надта спяшаецца ўсё гэта адысці ў мінулае...

У Гродзенскім гаркоме камсамола ніхто не высоўваў з трэскам шуфляды сталоў, каб дастаць на свет той ці іншы дакумент (ах, як часта былі яны для лайдакоў палачкай-выручалачкай). Тут не паперамі заканчваліся справы, а канкрэтнай дзейнасцю сімпатычных, энергічных і вельмі мабільных хлопцаў. Як і ва ўсіх дзелавітых людзей, час у іх распісаны па хвілінах.

Ігар Ляговіч, інструктар гаркома, ён жа — старшыня маладзёжнага цэнтра, выслухаўшы мае пытанні, хутка зірнуў на гадзіннік.

— Зараз мы едзем глядзець памяшканне для маладзёжнага цэнтра — давайце з намі. А ў машыне і пагаворым.

...Будынак былога млынкамбіната і грандыёзны, і экзатычны. Вось дзе камсамолу можна было б папрацаваць як след: прыдумвай, спрабуй, шукай! Але ў якую капейку абыдзецца рэстаўрацыя! «Тысяч дзвесце»,— лічыць Ігар. «Добра было б у паўмільёна ўкласціся»,— дзялюся сваім меркаваннем. «А мільён не хочаце!» — паставіў кропку над нашымі сумненнямі галоўны архітэктар горада Аляксандр Юльянавіч Бабіцын.

Мільён дык мільён! Што ў ім асаблівага! Нешта выдзеліць камсамол, нешта горад. А калі гэты аб'ект стане па-сапраўднаму ўдарнай камсамольскай будоўляю! Калі правесці суботнікі, нядзельнікі! Калі падняць студэнцкія атрады! Выявіцца, што не такая ўжо і страшная гэтая лічба.

Шмат, вельмі шмат можна зрабіць, калі сапраўды захацець. Калі ўзяцца як след...

— Таварышы дарагія, ды за гэтыя грошы можна пабудаваць мармуровы палац. А ў нас іх ужо столькі, што амаль заўсёды пустуюць,— выказала свой пункт гледжання Ірэна Іванаўна Кліменка, загадчыца аддзела культуры гарвыканкома.

— Вось такіх палацаў нам якраз і не трэба. Вам не здаецца, што мармур сваім холадам адштурхоўвае моладзь! Дый, шчыра кажучы, хто самахоць пажадае быць у ролі «ахопленай праслойкі»! Мы павінны адчуваць сябе гаспадарамі, і гэтае пачуццё не прыходзіць разам з атрыманнем сімвалічнага ключа — вось вам, маўляў, шыкоўнае памяшканне, і карыстайцеся ім на здароўе. Вось калі папрацуем ручкамі, ды не дзень, не два — тады зусім іншая справа.

Што ж, слушная ў Ляговіча заўвага, вельмі слушная. Аднак вырашылі завітаць да старшыні гарвыканкома, выкласці свае меркаванні. Размова не збянтэжыла сваёй нечаканасцю Станіслава Міхайлавіча Андрыеўскага. Шукае гарвыканком будынак для маладзёжнага цэнтра. І вельмі сур'ёзна.

А праз дзень я пабываў і на пасяджэнні праўлення маладзёжнага цэнтра. Цікавая адбылася там размова. Такое было ўражанне, нібыта я трапіў на дзелавую нараду «фірмачоў». Толькі і чулася: рэнтабельнасць, прыбытак, сабекошт, база, пастаўшчык...

Вельмі ўжо нязвычна гучала ўсё гэта ў гаркомаўскіх сценах. Магчыма, ёсць тут і нейкі перабор. Але ж цэнтр, выконваючы сваю выхаваўчую ролю ў арганізацыі баўлення вольнага часу, не павінен сядзець на шыі ў камсамола. Робячы стаўку толькі на відэадыскатэку, рок-музыку, наўрад ці можна разлічваць на нейкія даходы. Таму і створана секцыя маладзёжнай моды. Гэта і дэманстрацыя выдатных мадэляў, і іх продаж. Ёсць у цэнтры і свой касметолаг, і цырульнік, і нават класны кравец.

Рашэнне правільнае. Менавіта арганічнае спалучэнне выхаваўчага моманту, відовішчнасці, захапляльнасці і побытавай прызямленасці можа стварыць цэнтру папулярнасць і масавасць.

— Вы звярнулі ўвагу, што за кожным работнікам гаркома замацавана канкрэтная, жывая справа! — Адчуваецца, што другому сакратару гаркома камсамола Анатолю Падгорнаму дастаўляе задавальненне расказваць пра гэта. Што, можа, толькі цяпер ён па-сапраўднаму сам адчуў сябе камсамольскім работнікам.— Усе астатнія абавязкі, вядома, не здымаюцца з іх плеч, але за справу № 1 — спытаюць асобна, за яе — асобая адказнасць. Зробленая тут памылка, допушчаная нядобрасумленнасць імгненна адаб'юцца на людзях. А каму, скажыце, прыемна пачуць пра сябе: «Ды гэта ж балбатун! Не вер ніводнаму яго слову».

Калі мы паўтараем звычны выраз «Ты ў адказе за ўсё», дык адначасна здымаем і ўсялякую адказнасць. Адказваць за ўсё — гэта спрабаваць ахапіць неабдымнае. А ў канкрэтнай справе не спашлешся на аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары. У разлік прымаюцца толькі два фактары: зрабіў ці не зрабіў. За першае — малайчына. А за другое — адказвай. І ўся педагогіка. Уся мудрасць. Пры значна большых нагрузках хлопцам у гаркоме стала цікавей жыць і працаваць. А чаму! Адказ просты: ёсць відавочны вынік. Вазьміце таго ж Ляговіча. Вакол яго пастаянна круцяцца дзесяткі людзей. Да гэтага ў гарком іх на вяроўцы прыцягнуць было нельга. А цяпер у кожнага — справа. Кожны адказвае за свой участак. А ўсе яны разам — мозг і сэрца маладзёжнага цэнтра.

У Генадзя Умінскага асабліва адказны ўчастак. Рэзкі спад узроўню ваенна-патрыятычнай працы ўзнік не сёння і не ўчора. Многае ў ёй, што здавалася раней незаменным, з часам ператварылася ў «абавязалаўку», страціла навізну, прывабнасць, папулярнасць, калі хочаце. А калі чаму-небудзь і ёсць раўназначная замена, дык гэта наўрад ці магчыма з ваенна-патрыятычным выхаваннем. Чым запоўніць гэты правал, і асабліва ў выхаванні дапрызыўнікаў!

Мы знайшлі выйсце і бачым яго аддачу. Зрэшты, Гена, я думаю, раскажа пра гэта нашмат цікавей.

Загадчык аддзела арганізацыйнай работы Віктар Каптаноўскі вядзе ў нас цэнтр навукова-тэхнічнай творчасці. А Валодзя Зяленка, інструктар,— галоўны куратар МЖК.

— Зазірніце ў кабінеты,— працягвае свой маналог Анатоль Падгорны,— знойдзеце там ад сілы 3—4 чалавекі. У поўным складзе мы бываем тут толькі ўранку і ўвечары. А ўспомніце нядаўні час: мятлою з кабінетаў нікога не выганіш...

Анатоль смяецца. Усміхаюся і я ў адказ. Мы выдатна разумеем аддзін аднаго.

Праўду казаў Падгорны. Загадчык аддзела спартыўнай і абаронна-масавай работы Генадзь Умінскі настолькі жыва, ярка стаў апісваць мне жыццё старшакласнікаў у абаронна-спартыўным лагеры (добрая палавіна з іх пасля школы паступае ў ваенныя вучылішчы), што я зразумеў: проста фрагментам такую справу не адлюструеш. Гэта тэма асобнай гутаркі. Я сказаў Генадзю, што ўлетку неадменна прыеду ў лагер «Патрыёт», каб убачыць усё на ўласныя вочы.

...З Барысам Казялковым, першым сакратаром гаркома камсамола, толкам пагаварыць так і не ўдалося. Хаця, бадай што, асаблівай патрэбы ў гэтым і не было.

Ужо развітваючыся, сказаў яму, што бачыцца мне гарком магнітным полем. На што пачуў у адказ: «Кажуць, усякае параўнанне кульгае на адну нагу. Вашае — не выключэнне. Магнітнае поле, як вядома, дзейнічае на часцінкі, якія знаходзяцца ў руху. А мы хочам уздзейнічаць на кожнага камсамольца».

Што ж, папраўка істотная.

Сяргей ДУБАВЕЦ

# ТАМ



Той, хто чытаў артыкулы і рэцэнзіі Сяргея Дубаўца, не мог не заўважыць, што крытык любіць пічыць: колькі інверсій, колькі аднолькавых эпітэтаў у кнізе, колькі купюр... Тлумачыцца гэта, мабыць, тым, што Сяргей адразу пасля школы трохі павучыўся на факультэце бухгалтарскага ўліку ў інстытуце народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава. Вучоба, аднак, хутка стаміла мінскага хлапчыну, і ён апрануў вайсковы ўбор. Ужо студэнтам факультэта журналістыкі ён стаў пісаць. Рэцэнзіі, артыкулы... Звярнуў на сябе ўвагу. Не толькі паэтаў і празаікаў, якіх ён крытыкаваў... Цяпер, друкуючы апавяданне, Сяргей сам падстаўляе сябе пад прыцэл крытыкі.
Апавяданне «Там» напісана ў 1985 годзе, калі аўтару было дваццаць шэсць. З таго часу ён напісаў яшчэ колькі навел, але мы друкуем адну з першых, бо цяпер пайшла мода на запозненыя дэбюты. А ад моды мы адставаць не хочам.

ПАСТУПОВА, адна за адной, на снежным абшары ўзнікалі чорныя рысы. Яны лучыліся паміж сабой у квадраты, трохкутнікі, трапецыі. І чым бліжэй мы падыходзілі, тым больш выразнымі рабіліся фігуры. Гэта былі хаты. Адна, дзве, тры... Вёска.

— Апошняя,— сказаў Герхард.

Мы крочылі па глыбокім нетрывалым снезе. Снег набіваўся ў боты. Боты важчэлі, хліпалі цёплай ад ног вадой.

Пад снегам быў лёд. Рака. Здавалася, што вёска таксама, як і мы, на рацэ, і толькі на час спынілася ў сваім падарожжы.

Я ўзяў прыгаршчы снегу і абмыў твар.

Паказалася сляпое, непатрэбнае сонца.

Ззаду паўз бераг валюхаўся наш зялёны грузавік. Гюнтар не рызыкнуў пераганяць машыну па лёдзе.

Вёска была на беразе. Каля першае хаты мы адчулі цвёрдую, прамерзлую зямлю пад нагамі.

Герхард піхнуў веснiцы, кінуў мне сваё «займайся» і павёў астатніх далей, па вясковай вуліцы.

Я ступіў у сенцы і ўдыхнуў гарачага задушнага паветра.

У святліцы на печы, на лавах, проста на падлозе сядзелі людзі.

— Тут уся вёска,— сказаў чалавек у кажусе з белай наручнай павязкай.

— Добра.— Я згадаў, што толькі сёння кажу гэтае слова ўжо з дзесяты раз.— Пачынай.

Ен згодна хільнуўся і выйшаў з хаты.

Дзеля пэўнасці я яшчэ раз паўтарыў «добра» і рушыў следам за ім.

Некаторыя хаты ўжо ахапіў сыты жаўтлявы дым. Было па-ранейшаму зацішна.

Паліцай абышоў хату і цяпер булькаў з каністры на ганак. Ен ашчэрыўся, неяк няспрытна падсунуўся да мяне і праз гнілыя зубы крыкнуў:

— Пардон... іх... Батракоў.

— Добра,— сказаў я.— Хутчэй.

На падворку з'явіўся Герхард. Ен гучна паўтарыў маё «хутчэй».

Паліцай замітусіўся і зноў крыкнуў, цяпер ужо ў бок Герхарда:

— Мая фамілія Батракоў.

— Добра,— сказаў Герхард.— Ідзі, яшчэ раз палічы людзей.

Паліцай кінуўся ў хату.

Тым часам я зачыніў дзверы, паставіў падпор і адышоў на некалькі крокаў. З забітых вокнаў пачулася чалавечае выццё. Герхард шпурнуў запалку, і хата ўмомант загарэлася.

...Мы рушылі далей па снежным цаліку. Наперадзе над даляглядам навісаў густы туман. Здавалася, што неба сышло на зямлю, бо ўсё — і ўнізе, і ўверсе — было аднолькавага светла-шэрага колеру.

На якую хвіліну самотны крык сарваў цішыню.

— Мусіць, гэта той паліцыянт,— зўважыў я.

— Мусіць, так,— азваўся стомленым голасам Герхард.

Ужо зусім блізка з левага боку чакаў наш зялёны грузавік. Гюнтар пазіраў на нас з кабіны.

Крыху далей справа ў смузе прагляддвалася цёмная купка салдатаў. Яны сышліся да сухога лазняку і цяпер грэліся каля вогнішча. Гэта была наша каманда. Хударлявы Ганс размахваў рукамі. Ен заўсёды забаўляў нечым астатніх.

Герхард адчыніў дзверцы і, сеўшы ў кабіну, сказаў:

— Праз тры хвіліны выязджаем. На сёння ўсё.

Я ступіў на глыбокі нечапаны снег. Здавалася, што нічога не адбываецца на гэтай зямлі, што, апрача нас, тут нічога не рухаецца, не гаворыць. Вакол была толькі ціша і змярцвенне.

Пад нябесным шэранем гублялася белае зімовае сонца...

ШТО ГЭТА БЫЛО перада мною? Сутонне. Цёмныя шыбіны. Акно? Вялікі аснежаны двор... І сцены будынкаў. І нават грукатлівыя перабоі далёкага цягніка.

Усё гэта мроілася за цёмным шклом. Але ўсяго гэтага там не было. Я хацеў, намагаўся нешта ўспомніць, і яно ўспаміналася. Але не маё. Там, за шклом, стаялі кнігі.

Як сашчэпленыя вагоны хуткіх экспрэсаў, беглі адзін за адным тамы класікаў. У імклівым руху іх адчуваўся спакой. Тамы сучаснікаў стракацелі, свяціліся прыхаванаю пыхай: «Бяры, разгарні нас. Усе мы з дзыкацыямі!» Побач з ненатуральна тоўстай, шмат разоў падклейванай руінай, назву якой немагчыма было разабраць, суседзіў сілком запіхнуты ў паліцу патрапаны часопіс з алоўкавым надпісам на зрэзе: «Некрасов В.».

Там, за кнігамі, я ўжо бачыў слаба асветлены пакой. Чалавек за часопісным столікам перабіраў аркушы машынапісу. Прыглушаныя галасы. Я ледзьве разбіраў словы...

— Мне, малады чалавек, не выпадае рэцэнзаваць вас. Надта ж розныя ў нас уяўленні. І падыходы. Таму і падтрымаць вас я не змагу. Не стану. Бо як на маю думку, дык тут у вас не пра вайну, якую мне давялося зведаць. І, дарэчы, не апавяданне, як вы прыдумалі падпісаць. Усё гэта неяк штучна... Дый не паверыў я вам...

Ен гаварыў зусім прыязна, крыху пакутуючы ці, можа, іранізуючы.

А я ўжо кудысьці адыходзіў, знікаў з гэтага мроіва. І голас мой прагучаў таксама аднекуль з-за сцяны, глуха:

— Што ж...

— Вы, спадзяюся, не з разлікам, а ў нейкім сваім шчырым парыванні пісалі гэта? — ён паказаў на машынапіс.— Толькі навошта? Вайна...

— Пішуць пра тое, што найбольш хвалюе...

— ...перад усім пра тое, што ведаюць. А вы? А вам з выгляду няма і дваццаці. Напэўна, і бацька ваш у вайну яшчэ падшпаркам бегаў. Адкуль вы можаце яе ведаць? З кніг ды з кіно? Але расхожыя сітуацыі, розныя штатныя дэталі — гэта яшчэ не веданне вайны.

(«Парадокс: я, ваенны пісьменнік, упэўнены ў тым, што ніхто лепш за ветэрана пра вайну не напіша, спадзяюся, аднак, што тэма і справа мая не загіне пасля мяне, але не магу пажадаць гэтаму маладзёну ці ягонаму раўналетку: вось, маўляў, вам бы там пабываць! Там, у падпаленай хаце, адкуль не вярталіся. Ніхто не вярнуўся... Толькі гэтыя герхарды, гюнтары, гансы. Ды той, хто напісаў пра іх, хто іх сёння прыдумаў. Дзіўны «хаўрус»! Я толькі магу пажадаць ім маёй смерці. Тады, маўляў, як хочаце... Як жа блізка, аказваецца, шчырая заклапочанасць лёсам наступнікаў і гэтае «пасля нас хоць трава...»).

Ен быў высока, вышэй за мяне, дзесь на сваіх аблоках. На аблоках са сваіх твораў, прэмій, званняў... Такія, мусіць, калі і падаюць, дык падаюць недзе наверсе. Ен упадзе, а мы ўсё адно будзем бачыць толькі ягонае воблака — з ім ці без яго... Такі не дасць пераконваць сябе. Але каму я яшчэ выкажуся, калі яшчэ прыкладуся да гэткай лінаркі, калі яшчэ сыдуся з такім і, можа быць, зацверджу сябе, вырвуся з мроіва і атрымаю яснасць? Хоць пачну...

— Вядома, з кніг ды з кіно, з пераказаў. Толькі, не палічыце за высокае словы, усе мы, усё маё пакаленне з усімі ягонымі вантробамі такое — з кніг ды з кіно, з расхожых фрагментаў. Але мы пішам. Бо і нам муляе тая вайна. Бо, што ні кажыце, а мы яе ведаем. Можа, зусім па-свойму, але не скажона... Так шмат было кантрольных званкоў, што ніяк не зваліш на сапсаваны тэлефон.

А ён разглядаў свае рукі, тэпці, мэблю. І голас ягоны далятаў ужо сапраўды не з-за сцяны, а аднекуль зверху.

(«Цяпер ён скажа пра актуальную ядзерную пагрозу, пра парваныя радавыя карані. Ягоны дзед загінуў дзе-небудзь пад Смаленскам ці ў Ростаку, у апошні дзень вайны. Напэўна, яму патрэбна парада... Каб жа я ведаў, што яму трэба. Каб я ведаў, як яно ўсё робіцца і што будзе заўтра. Не скажаш жа яму, што сам вечна вагаешся. Тут самае спраўджанае выйсце — ментарскі тон. Кажы, абы не пра тое, што думаеш. І яны самі складуцца: парады, высновы... Аж самому дзіўна стане».)



— Хто гэта мы, пакаленне? Але ж і шмат вы на сябе бераце.— Ен, здаецца, крыху разнерваваўся ці, можа, развесяліўся.— Як жа вы сабе гэта ўяўляеце — вайну? Ну, хоць бы скуль, па-вашаму, яна бярэцца?

Пісьменнік устаў, і мне падалося, што на далёкай станцыі нехта рэзка тузануў рынду. Мяне ўсё адно як панесла:

— А гэта... ад безвыходнасці... Ад безнадзейнасці. Гэта яшчэ Эклезіяст казаў, што няма нічога новага пад сонцам. І ягоныя словы спраўдзіліся. Да трыццаць трэцяга года людзі сапраўды ўсё зведалі, усяго паспрабавалі, усё практычна, тэарэтычна ці гіпатэтычна вынайшлі. Нічога новага не свяціла. Гэтаксама адбываецца з чалавекам, калі ён трапляе ў стан поўнае бесперспектыўнасці і бачыць адзінае для сябе выйсце — у самагубстве. Вядома, у сярэдзіне ў такога чалавека абавязкова кволіцца нейкі сумнеў. Можа быць, нават, нейкая надзея. Тое самае і з цэлым людствам. У апошнюю вайну тым сумневам быў аптымізм вашага пакалення. У маштабах свету гэты рэвалюцыйны аптымізм і перамог безвыходнасць. Дый безвыходнасць не валодала тады дастатковым арсеналам знішчэння.

Я пачынаў ужо барабаніць, каб толькі ўкласціся ў адведзены ягонай паблажлівасцю рэгламент. Я з трывогай слухаў уласны голас, які ішоў з-за сцяны, не могучы ўжо нават прыпыніць яго...

— Нарэшце, сёння мізарнее і той сумнеў самагубцы. Бо вы не ўмееце ў поўнай меры перадаць нам свайго аптымізму і свайго ваеннага вопыту. З іншага боку — цяпер ужо больш чым дастаткова бомбаў...

Я памкнуўся быў запярэчыць, маўляў, усё гэта утрыраваная падтасоўка, бо ў адзіным парыванні грымяць па планеце мітынгі і маршы міру, бо ўжо ў сорак пятым была бомба, але голас мой, падобны цяпер да вуркатання, не прайшоў скрозь сцяну і зліўся з мерным тахканнем далёкага цягніка.

(«Мяне непрыемна крануў гэты «наш» даваенны аптымізм. Можа таму, што кожнае маладое пакаленне схільнае ўсё вымяраць сабою, як ідэалам, а значыць, і пра аптымізм гэты яны не могуць гаварыць без іроніі. Праўда, я не думаю, што быў тады большым аптымістам, чым яны зараз. І ўсё адно непрыемна».)

Атрымалася невялікая пярэрва. Пісьменнік, здаецца, нават абурыўся трохі:

— Аднак, тэорыя! Ды ў вас рукі ў сопаце. Вы мажацеся!.. Нічога новага! Падумайце лепш, што нішто ў свеце не паўтараецца, нішто не аднолькавае, а значыць — новае. Кожнага разу новае.

— Толькі без адкрыццяў, без знаходак. Так, адна драбяза.— Цяпер я адчуў, што не толькі голас, але ўжо і думкі мае за сцяной. Гутарка ператваралася ў нейкае заяданне.— І вы хочаце, каб мы гэтым жылі? Расшчапілі яшчэ на што-небудзь якія-небудзь пратоны і чакалі, як здзяйснення ўсіх мар, прыходу чарговае вясны?..

— Дык вы ж пішаце. Вось вам — творчасць: кнігі, музыка, фарбы... Шукайце!

Пісьменнік канчаткова забраўся на свой парнас і цяпер кідаўся адтуль яблыкамі. Чамусьці менавіта яблыкамі.

— Кнігі ўсе напісаны, падлічаны ўсе сюжэты і г. д. Вы гэта ведаеце лепш за мяне. Нам застаецца толькі мяняць ме-

сцамі вашыя словы, абзацы, фразы... Музыка з грукатам правалілася ў электроніку. Джаконда? Яна стала чорным квадратам на белым фоне! Усё.

— Ну, тады бярыце спадчыну, жывіцеся ёю, шукайце ў ёй сваё новае.— Падобна, што ён ужо проста таргаваўся. Каб адчапіцца, ці што? Як на рынку: купляйце гурочкі. Не хочаце? Тады, калі ласка, дулі. Не? Ага, вось, бярыце спадчыну!

— Прапануеце ўсё жыццё хадзіць у ньютанаўскіх ды эйнштэйнаўскіх абносках?

— А што вы скажаце наконт моцных пачуццяў: каханне, нянавісць, прыгожае, агіднае і г. д.?

— Гэтага хапае. Толькі ўсё яно ў кнігах ды ў кіно. У тэлевізары, ад якога боязна адвярнуцца...

Ен маўчаў, а я стаяў захоплены і напалоханы лагічнасцю сваіх высноў. Я ніяк не хацеў згаджацца з тым маім голасам, які гучаў з-за сцяны. Бо той голас ставіў мяне, усіх у тупік. І тады штомоцы я закрычаў:

— Дык дзе ж выйсце?

(«Такая ўжо няўдзячная гэта справа — разважаць пра лёс свету. Асабліва, калі яшчэ адчуваеш у гэтым сваю асабістую адказнасць. Здольны ён ці не, але пісьменнікам яму не стаць. Гэта я адразу зразумеў, прачытаўшы ягоны абразок. А шкада. Бо я параіў бы яму не чапаць гэтага. Няхай яно будзе ў падтэксце. Там павінна быць тое, што цябе хвалюе. А тут, зверху, тое, што ты добра ведаеш. І не наадварот. Ну вось і чаканая выснова. Як заўсёды — прапісная і адначасова вельмі слушная. Аднак...»)

— Вы, бачу, заблыталіся, таварыш Эклезіяст. Выйсце ў тым, каб не шукаць выйсця для ўсіх. Бо, па-першае, усе — гэта тое самае, што і ніхто. Па-другое, я думаю, не кожны пагодзіцца, не кожны мае патрэбу ў вашым выйсці. Можа, не час для Праметэяў... Шукайце сваё, толькі сваё. І, вядома, іншым дапамагайце знаходзіць сваё. Кожнаму сваё. Новае — у сабе....

Ен яшчэ нешта казаў, але словы ягоныя паволі рабіліся неразборлівымі, і наогул неяк хутка цямнела ў тым загадкавым пакоі. А калі ўсё канчаткова знікла і сціхла, я зразумеў, што па-ранейшаму стаю каля кніжнае паліцы і намагаюся прачытаць назву на карэньчыку ненатуральна тоўстай паклеенай кнігі. Я, напэўна, задумаўся, бо зараз назва чыталася вельмі лёгка: «У святле неабвержных фактаў». Што ж, мякка кажучы, не без прэтэнзіі. Але, шаноўны,— сказаў бы я цяпер невядомаму аўтару,— не бывае неабвержных фактаў. Як і «абвержных» — не бывае. Бо самі па сабе факты ані на што не прэтэндуюць...

Сухімі рукамі я абмыў твар і адчуў, як яснее галава, як адлятаюць мае дзіўныя мроі. Цяпер ужо не было і кніжных паліц. Я проста стаяў і глядзеў у начное акно.

За цёмнымі шыбамі над аснежаным двара разлягалася прастуднае зімовае сутонне.

СЭРЦА чагосьці сарвалася. Я хадзіў па лесе. Унукі недзе побач бегалі. А я грыбы збіраў... Не, гэта ж зімою... Вунь як з рота пара струменіць. Якія тут грыбы...

Успамінаў я сваю маладосць, свае першыя крокі. Тое апавяданнейка нешта згадалася. «Там»! І як жа бэсціў мяне прызнаны парнаснік!

Не, не памятаю. Хацеў прыгадаць, і вось — забыўся. Ці, можа, не сваё што ўспомніў. Сэрца сарвалася. Нейкая слабасць нацекла ў калені. Ногі падламіліся. І я паваліўся. Проста на снег. Пад камель вячыстага дуба.

Паволі нямела ўсярэдзіне. І нешта думка прычапілася, што больш не ўстану.

Гэх, як ён мяне бэсціў! Ну і слушна. Чаго гэта смаркач узяўся пісаць пра вайну? Ён у гэтым, мабыць, цынізм убачыў. Маўляў, я гарэў, а ты — не. Мне папраўдзе баліць, а ты сабе свой боль прыдумаў... Сваімі халоднымі мазгамі.

Не сказаў я яму тады, што мне ўжо дваццаць тры і што служыў. Нават ваяваў трохі. Але навошта цяпер пра гэта ўспамінаць? Даўно няма таго пісьменніка. А можа, і не было? Можа, і праўда, штосьці не сваё я ўспомніў?..

Снег вакол белы-белы. Усё адно як мая сівая галава...

Зіма, зіма якая!

Чаму гэта людзі лічаць жыццё толькі летамі? Можна было б і зімамі. Зрэшты, яны ж і лічаць жыццё, а не сон, не смерць. А зіма вельмі падобная да магільнага сну. Асабліва, калі яна — апошняя. Летаў многа, а зіма толькі адна...

— Апошняя,— прашаптаў я і прыплюшчыў павекі.

Маё жыццё... Няхай нічога асаблівага не зроблена, а паміраць не хочацца. Дзе ж гэта хлопчыкі мае падзеліся? Вось спахопяцца, а дзеда няма.

Не, паміраць не хочацца. Можа, таму і не хочацца, што нічога не зроблена?

А ўсё ж добра ён мяне бэсціў. Я тады насіўся з усімі гэтымі праблемамі, з вайной. А ён кажа — шукай, новае шукай, у сабе. Пэўне ж, не аднаму мне ён гэта казаў. Бо тады ўсе кінуліся шукаць. І калі кожны зазірнуў у сябе і знайшоў сябе, тады аказалася, што і без вайны ёсць безліч усялякіх важных спраў.

І я таксама не зацыкліўся — шукаў. Ды так на паўдарозе мяне старасць і спыніла. Толькі даўмеўся, што нешта трэба такое, каб адначасова і вечнае і новае. А што? Не ведаю. Мо прырода?..

Мяккая зімовая дрымота ахапіла мяне, сплятала ў галаве нечаканыя думкі, якія цяпер здаваліся прарочымі, ратунковымі.

Вядома, кожны раней ці пазней сустрэне смерць. Тут усе нібы пастаўлены да аднае сценкі. Усе роўныя ў правах, магчымасцях, нават у абавязках. Роўныя, але розныя. Калі ты паверыў у безнадзейнасць, дык нічога, апроч гэтае самае сценкі, і не ўбачыш. Калі табе проста вельмі хочацца жыць — убачыш акно. І самы пасрэдны ці паскудны краявід здасца табе з гэтага акна родным і дарагім. Нарэшце, калі ты конча вырашыў жыць — убачыш дзверы...

Во якія дзівосы! А спачатку была толькі сцяна.

Трэба распавесці пра гэта. Я пайду... Гэта ж выйсце. Не для тых, вядома, каго зваліць старасць, а для тых, хто валіць сябе сам. Пайду...

Я сілком расплюшчыў павекі і ўбачыў дрэва. Вялізны зімовы дуб падымаўся нада мной у аблокі, несучы да іх воблака сваёй кроны. Па ўсім целе дрэва-волата струменілі сокі. Яны напаўнялі карані-жылы, якія прагна ўпіліся ў мёрзлую зямлю. Там, пад яе халоднай карою, цяклі жывыя рэкі, і недзе пад імі свяціла нязгаснае, непаўторнае сонца.

Дуб загайдаў галінамі, спуджана хільнуўся шатамі ўбок. Гэтак спуджана косіць вокам конь, які вязе мерцвяка.



# ДЗЕСЯЦЬ КНІГ АДНАГО ГОДА

КАРАТКЕВІЧ ПА-РАНЕЙШАМУ САМЫ ПАПУЛЯРНЫ

Нейкі разлад выявіўся паміж сучаснымі чытачамі і сучаснымі пісьменнікамі.

Чытачы патрабуюць выдаваць кнігі дэфіцытныя, пісьменнікі — свае ўласныя. Першыя прапануюць складаць выдавецкія планы па заяўках «знізу», другія — па загадах «зверху». Першыя наракаюць на адсутнасць таленавітых аўтараў, другія — на недахоп падрыхтаваных чытачоў.

Як чытачу выбраць добрую кнігу, і як добрай кнізе трапіць да чытача — вось праблема, што абумовіла з'яўленне рубрыкі «Дзесяць кніг аднаго года».

Для таго каб вызначыць, добрая кніга ці не — лепш за ўсё прачытаць яе. Але чытаць хочацца толькі добрае, толькі вартае ўвагі! Хто дапаможа чытачу зрабіць правільны выбар, больш таго — выбар на яго густ? Можа, крытыка? Але парадамі крытыкі карыстаецца толькі адзін працэнт чытачоў. Астатнія ведаюць: на кнігу бяздарнага празаіка можа напісаць хвалебную рэцэнзію такі ж бяздарны крытык.

Выдавецкая рэклама не выклікае даверу, бо запэўнівае ў высокай якасці ўсёй прадукцыі без выключэння. І гэта зразумела, бо калі б выдавецтва не лічыла нейкі зборнік вершаў вартым увагі чытача,— навошта б яго было выпускаць?

Кнігарні таксама зацікаўлены ў тым, каб збыць як мага больш «тавару» і ў першую чаргу — тавару нехадавога, які залежваецца гадамі (дэфіцыт купяць і без рэкламы).

Складваецца парадаксальная сітуацыя. Ні выдавецкай, ні гандлёвай, ні «літаратурна-крытычнай» рэкламе чытач не мае падстаў давяраць. Тым больш, не можа ён давяраць анатацыям, якія змяшчаюцца ў кнігах (пішуцца яны звычайна самімі аўтарамі).

Ці магчыма існаванне рэкламы на карысць чытача, а не толькі на карысць гандлю, выдавецтва, пісьменніка?

Такая рэклама павінна быць суб'ектыўна-індывідуальнай, але адначасна і дастаткова абгрунтаванай, аўтарытэтнай.

Рэдакцыя часопіса вырашыла пайсці на эксперымент. Узнікла ідэя рубрыкі «Дзесяць кніг аднаго года», якая б, з аднаго боку, хоць неяк арыентавала ў сучаснай беларускай літаратуры, у выданнях па гісторыі і культуры рэспублікі, а з другога — дала б магчымасць і самому чытачу вызначаць найбольш цікавыя і змястоўныя кнігі.

Напачатку было створана своеасаблівае журы, у якое ўвайшлі: паэт Рыгор Барадулін, празаік Уладзімір Арлоў, крытык Міхась Тычына, рэжысёр Валерый Маслюк, бард Алесь Камоцкі. Кожнаму з іх было прапанавана назваць дзесяць лепшых кніг рэспубліканскіх выдавецтваў за 1987 год і вызначыць канкрэтнае месца кожнай кнігі ў гэтай дзесятцы.

Выбар грунтаваўся выключна на ўласных мастацкіх пераканаННях, уласных чытацкіх прыхільнасцях; таму не было ніякіх прэтэнзій на поўную аб'ектыўнасць і непагрэшнасць, кожны вызначаў не лепшыя кнігі ўвогуле, а лепшыя на яго густ, з яго суб'ектыўнага пункту гледжання. Таму Алесь Камоцкі, напрыклад, вызначыў толькі пяць кніг, але затое толькі тыя, якія па-сапраўднаму яго ўразілі.

### РЫГОР БАРАДУЛІН

1. **У. КАРАТКЕВІЧ. Старыя беларускія хронікі*.**
2. **В. БЫКАЎ. Кар'ер.**
3. **М. ТКАЧЕВ. Замки Белоруссии.**
4. **А. МАЛЬДЗІС. З літаратуразнаўчых вандраванняў.**
5. **У. КАЛЕСНІК. Тварэнне легенды.**
6. **В. АДАМЧЫК. І скажа той, хто народзіцца.**
7. **Л. ДАЙНЕКА. Меч князя Вячкі.**
8. **В. КАЗЬКО. Хроніка дзетдомаўскага саду.**
9. **Я. ЯНІШЧЫЦ. Каліна зімы.**
10. **С. ЗАКОННІКАЎ. Сутнасць.**

### УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

1. **У. КАРАТКЕВІЧ. Старыя беларускія хронікі.**
2. **В. БЫКАЎ. Кар'ер.**

* Кніга У. Караткевіча выйшла ў 1988 г. Але паколькі яе выпуск планаваўся летась, рэспандэнты аднеслі яе да мінулагодніх выданняў.



3. В. КАЗЬКО. Хроніка дзетдомаўскага саду.
4. А. МАЛЬДЗІС. З літаратуразнаўчых вандраванняў.
5. Л. ДАЙНЕКА. Меч князя Вячкі.
6. А. ДУДАРАЎ. Дыялог.
7. М. ТКАЧЕВ. Замки Белоруссии.
8. В. ГРИЦКЕВИЧ. С факелом Гиппократа.
9. Т. БОНДАР. Спадчынны боль.
10. Р. БАРАВІКОВА. Каханне.

### МІХАСЬ ТЫЧЫНА

1. В. БЫКАЎ. Кар'ер.
2. У. КАРАТКЕВІЧ. Старыя беларускія хронікі.
3. В. КАЗЬКО. Хроніка дзетдомаўскага саду.
4. У. КАЛЕСНІК. Тварэнне легенды.
5. Р. БАРАВІКОВА. Каханне.
6. В. ГРИЦКЕВИЧ. С факелом Гиппократа.
7. В. АДАМЧЫК. І скажа той, хто народзіцца.
8. Я. ЯНІШЧЫЦ. Каліна зімы.
9. Т. БОНДАР. Спадчынны боль.
10. Р. ШКРАБА, І. ШКРАБА. Крынічнае слова.

### ВАЛЕРЫЙ МАСЛЮК

1. У. КАРАТКЕВІЧ. Старыя беларускія хронікі.
2. М. ТКАЧЕВ. Замки Белоруссии.
3. В. БЫКАЎ. Кар'ер.
4. А. МАЛЬДЗІС. З літаратуразнаўчых вандраванняў.
5. А. ДУДАРАЎ. Дыялог.
6. В. КАЗЬКО. Хроніка дзетдомаўскага саду.
7. У. КАЛЕСНІК. Тварэнне легенды.
8. В. ГРИЦКЕВИЧ. С факелом Гиппократа.
9. Л. ДАЙНЕКА. Меч князя Вячкі.
10. Р. БАРАВІКОВА. Каханне.

### АЛЕСЬ КАМОЦКІ

1. У. КАРАТКЕВІЧ. Старыя беларускія хронікі.
2. Л. ДАЙНЕКА. Меч князя Вячкі.
3. В. БЫКАЎ. Кар'ер.
4. М. ТКАЧЕВ. Замки Белоруссии.
5. А. ДУДАРАЎ. Дыялог.

Пасля канчатковага падліку атрымліваем наступны вынік:

**Дзесяць лепшых кніг 1987 года**

1. **Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. «Старыя беларускія хронікі».** *П'есы. Выд. «Маст. літ.».*
2. **Васіль БЫКАЎ. «Кар'ер».** *Раман. Выд. «Маст. літ.».*
3. **Михаил ТКАЧЕВ. «Замки Белоруссии».** *Выд. «Полымя».*
4. **Віктар КАЗЬКО. «Хроніка дзетдомаўскага саду».** *Раман. Выд. «Маст. літ.».*
5. **Леанід ДАЙНЕКА. «Меч князя Вячкі».** *Раман. Выд. «Юнацтва».*
6. **Адам МАЛЬДЗІС. «З літаратуразнаўчых вандраванняў».** *Нарысы, эсэ, дзённікі. Выд. «Маст. літ.».*
7. **Аляксей ДУДАРАЎ. «Дыялог».** *П'есы. Выд. «Маст. літ.».*
8. **Уладзімір КАЛЕСНІК. «Тварэнне легенды».** *Літаратурныя партрэты і нарысы. Выд. «Маст. літ.».*
9. **Валентин ГРИЦКЕВИЧ. «С факелом Гиппократа.»** *Из истории белорусской медицины. Выд. «Наука и техника».*
10. **Раіса БАРАВІКОВА. «Каханне».** *Кніга лірыкі. Выд. «Маст. літ.».*

Якія высновы можна зрабіць з вынікаў нашага своеасаблівага «літпараду»?

Кнігі Караткевіча, Быкава вылучылі ўсе пяць апытаных, Ткачова, Казько, Дайнекі — чатыры, Мальдзіса, Дударава, Калесніка, Грыцкевіча, Баравіковай — тры. З соцень кніг сучасных беларускіх пісьменнікаў, выданняў па гісторыі і культуры Беларусі (гэтых значна менш) у дзесятку лепшых прэтэндавалі ўвайсці, акрамя вышэй пералічаных, яшчэ пяць: двойчы былі названы кнігі Вячаслава Адамчыка, Яўгеніі Янішчыц, Таісы Бондар, па аднаму разу — Сяргея Законнікава, Рыгора Шкрабы і Ірыны Шкрабы. Канкурэнцыя невялікая, і гэта засмучае, бо сведчыць пра даволі невысокі ўзровень выдадзенай летась новай літаратурнай прадукцыі. З другога боку, пэўная аднадушнасць журы сведчыць пра небеспадстаўнасць і абгрунтаванасць менавіта такога выбару.

Пры вядомай суб'ектыўнасці адказаў можна ўсё ж гаварыць пра пэўную аб'ектыўнасць канчатковага выніку. Больш умоўным бачыцца само размеркаванне месцаў; цяжка абгрунтаваць, скажам, чаму кніга «З літаратуразнаўчых вандраванняў» заняла шостую пазіцыю, «Тварэнне легенды» — восьмую, а не наадварот. Але гэтую ўмоўнасць — не трэба зводзіць да простай выпадковасці. Караткевіч і Быкаў — несумненна найбольш любімыя чытачамі сучасныя беларускія пісьменнікі, і зусім невыпадкова, што іх кнігі занялі першыя месцы.

Міхась Тычына: Нехта добра сказаў, што душа чалавека не старэе. Якія яны сёння маладыя, «дзеці XX з'езда»: Быкаў і Караткевіч, Калеснік і Казько! Шчырасць, шчодрасць, з якой яны дзеляцца пражытым і передуманым, вылучае іх кнігі з ліку многіх штучных стварэнняў чалавечага мозга.

Валерый Маслюк: Як бы ні гучала гэта прыгожа, але зайздрошчу чалавеку, які ўпершыню прачытае «Старыя беларускія хронікі» Уладзіміра Караткевіча. Таму што гэта — Кніга, дзе кожнае слова, яскравае і сакавітае,— пра яго, Чалавека, пра Радзіму, пра вечнасць.

Сярод вылучаных кніг — ажно чатыры немастацкія, напісаныя навукоўцамі, але гэта не здзіўляе, калі ўлічыць, што ўсе чатыры прысвечаны гісторыі Беларусі: гісторыі архітэктуры («Замки Белоруссии»), гісторыі медыцыны («С факелом Гиппократа»), гісторыі літаратуры («З літаратуразнаўчых вандраванняў», «Тварэнне легенды»). Навуковая змястоўнасць упэўнена канкурыруе з мастацкай займальнасцю.

Гістарычнаму мінуламу беларускага народа прысвечаны п'есы У. Караткевіча, раман Л. Дайнекі, паэма Р. Баравіковай. Такім чынам, сем з дзесяці названых кніг датычаць гісторыі Беларусі!

Відавочны поспех напаткаў драматургію: з трох выдадзеных летась зборнікаў п'ес адзначаны два; залішне сціпла прадстаўлена «магутная» проза (тры кнігі) і зусім недастаткова — паэзія (дзесятае месца «Кахання»)...

Запрашаем чытачоў прыняць удзел у вызначэнні лепшых кніг 1988 года!

Для гэтага трэба назваць дзесяць кніг, якія вас найбольш зацікавілі і канкрэтнае месца кожнай з іх у дзесятцы. У конкурсе ўдзельнічаюць кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў, выданні па гісторыі і культуры Беларусі (акрамя перавыданняў і кніг выбраных твораў). З вялікім задавальненнем атрымаем ад вас лісты аб прычынах выбару той ці іншай кнігі, прапановы для рубрыкі «Дзесяць кніг аднаго года».

Так, Уладзімір Арлоў лічыць, што трэба вызначаць не толькі самыя лепшыя кнігі, але і самыя горшыя; Алесь Камоцкі раіць уключыць у кола разглядаемых выданняў спадчыну пісьменнікаў 20—30-х гадоў.

Давайце абмяркуем гэтыя прапановы разам!

Свае лісты з пералікам кніг, пажаданнямі і прапановамі дасылайце на адрас: 220807, Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11, часопіс «Крыніца». Апошні тэрмін дасылкі лістоў — 1 лютага 1989 года.

Наступны раз наша рубрыка з'явіцца ў канцы 1988 года. Вы сустрэнецеся з кнігай Уладзіміра Караткевіча «Старыя беларускія хронікі», прызнанай лепшай ў 1987 годзе, а таксама даведаецеся пра новы склад журы.








Заканчэнне. Пачатак на стар. 3

**Фатаграфіі, надрукаваныя на гэтых старонках, зроблены ў час, калі каманда турыстаў Мінскай вобласці праходзіла па Саянскіх рэчках: Бій-Хэм, Каа-Хэм, Улуг-О, Балыктыг-Хэм.**

**Фота і тэкст Уладзіміра КАЦАПАВА**

# ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА МАСТАКА-ЖЫВАПІСЦА Ігара ЦІШЫНА

Адам ГЛОБУС

ГОСТ
Место для штампа наименования ремпредприятия (производственного участка)
ДЕФЕКТНА ВЕДОМОСТ
«Ночной дозор»
наименование изделия
Рембрант
Врезультате осмотра изделия выявле
Код операции по классификатору
Наименование операции, неиспра неисправности по кла
1 2
Таблица
10,8 11,0 15,4
№ 19з
1:2000
Таблица 87
№ 20з



Па-над горадам.





У майстэрні мастака.





Віцебскі клубок.

— У нас няправільна выкладаюць гісторыю мастацтва. Сёння выкладанне гісторыі мастацтва — сумны і доўгі пералік імёнаў і прозвішчаў. Імёны блытаюцца... Па слайдах і рэпрадукцыях, што паказваюцца ў велізарнай колькасці, цяжка ўявіць арыгіналы. З архітэктурнымі помнікамі сітуацыя зусім безнадзейная. Пакажыце мне чалавека, які на чорна-белым фотаздымку, памерам з этыкетку да запалак, здатны ўявіць сабе сапраўдны Кёльнскі сабор. А на экзаменах патрабуюць не ўменне маляваць, а ведання дат і назваў. Студэнт бачыць паштоўку, якую выцягнуў са скрыні выкладчык, і кажа, што гэта — «Начная варта» Рэмбранта, ці Кандзінскі, ці Шышкін... Даволі вясёлая гульня атрымліваецца на першы погляд. Толькі такая гульня прывяла да дзіўнаватых вынікаў. Каб атрымаць «выдатна», дастаткова ведаць «у твар» сотні тры паштовак. І амаль ніхто не ўспрымае гульню як гульню; больш таго, пануе ўпэўненасць, што ідзе сур'ёзны працэс навучання. Калі так і далей пойдзе, мы скоцімся да ведання якой-небудзь сотні марак. А студэнту мастацкага вучылішча неабходна навучыцца маляваць... Для гэтага трэба вывучаць мастацтва з алоўкам у руцэ.

Я пачуў гэта ад Ігара Цішына, выкладчыка Мінскага мастацкага вучылішча. Думаю, што прапанова слушная. А калі паглядзець шырэй, то так выкладаюцца і літаратура, і мова, і шмат іншых дысцыплін. Студэнтаў не вучаць пісаць, іх вучаць запісваць. Яны пішуць дыктоўкі, у лепшым разе сачыненні на вольную тэму (абавязкова кімсьці зададзеную) і пераказы. Іх часам забываюць нават навучыць крытыкаваць ці хваліць, бо ўсе заўвагі і ўхваленні змешчаны ў падручніках. І атрымліваецца, што іх забываюць навучыць самаму галоўнаму, дзеля чаго і ходзяць у школы, вучылішчы, інстытуты і універсітэты: думаць і ствараць!

— У мастацкіх навучальных установах выкладчыкі зрабілі фармальны падзел паміж творчасцю і навучаннем. «У вучылішчы трэба вучыцца, а творчасцю будзеш дома займацца»,— шмат разоў чуў я ў майстэрнях,— паскардзіўся Ігар.— Прабачце, а чаму творчасцю нельга займацца на занятках! Упэўнены, што, наадварот, дома трэба адпачываць, а кожнае вучэбнае заданне вымагае менавіта творчасці. Кожная праца павінна быць і творчай і вучэбнай адначасова, інакш мастацкае вучылішча ператворыцца ў прадпрыемства для вырабу ілюстрацый-муляжоў да праграмы. Разумею, што прапанаваць лягчэй, чым зрабіць. А каб зрабіць навучанне працэсам творчым, трэба, каб выкладчык працаваў разам з вучнямі, каб ён вучыўся разам з імі, а не прысутнічаў на занятках у якасці назіральніка, што чакае зарплаты і пенсіі...

Ігар Цішын шмат працуе як жывапісец. Яго любяць студэнты. А гэта ўжо шмат. Беларускае тэлебачанне рабіла ў сваёй студыі экспазіцыю ягоных палотнаў, і тысячы тэлегледачоў мелі магчымасць з імі пазнаёміцца. Але тэлебачанне ёсць тэлебачанне: імгненне — і карціна знікае з экрана. А вось гэтыя рэпрадукцыі можна разглядаць і вывучаць колькі заўгодна, можна іх выразаць і павесіць на сцяну, калі спадабаюцца.

Ігар Цішын вырас у мястэчку Касцюкоўка, што на Гомельшчыне, і, напэўна, таму так натуральна і нязмушана правінцыйныя казачныя матывы ўплятаюцца ў каларовасць ягоных палотнаў...

А калі табе не спадабаліся рэпрадукцыі, напішы — каго з маладых беларускіх мастакоў ты хацеў бы сустрэць на старонках «Крыніцы».

# ПЛАСЦІНКІ

Амерыканскі часопіс «Ролінг Стоўн» надрукаваў складзены 17-цю крытыкамі спіс ста лепшых пласцінак з запісамі рок-музыкі, выпушчаных за апошнія 20 гадоў. Няцяжка здагадацца, што спіс гэты ўзначальвае альбом «Бітлз» «Клуб адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера». На другім месцы альбом групы «Сэкс Пісталз». У першую дзясятку ўвайшлі таксама: «Ссылка на галоўнай вуліцы» — «Ролінг Стоўнз», «Пластык Она Бэнд» — Джон Ленан, «Ці ёсць у цябе вопыт» — «Джымі Хендрыкс Іксліпрыэнс», «Узлёт і падзенне Зігі Стардаста і павукоў з Марса» — Дэвід Боўі, «Народжаны, каб бегчы» — Брус Спрынгстын, «Астральныя тыдні» — Вэн Морысан, «Белы альбом» «Бітлз» (у аналагічным спісе англійскай газеты «Нью М'юзікл Экспрэс» — першае месца), «Што адбываецца» — Марвін Гэй. У сотню ўвайшлі тры альбомы Боба Дзілана («Кроў на сцежках» — № 12, «Запісы, зробленыя ў сутарэнні» — № 13, «Джон Уэслі Хардзінг» — № 67). Найбольшая колькасць альбомаў, якія ўвайшлі ў гэты спіс, у групы «Ролінг Стоўнз» і Бруса Спрынгстына. Акрамя ўжо названай «Ссылкі на галоўнай вуліцы», Міку Джагеру і яго калегам належаць: «Банкет жабракоў» (№ 15), «Няхай цячэ кроў» (№ 18), «Ліпкія пальцы» (№ 31) і «Паміж гузікаў» (№ 70). Брус Спрынгстын таксама прадстаўлены пяццю альбомамі: акрамя «Народжаны, каб бегчы», у спісе «Народжаны ў ЗША» (№ 28), «Цемра на ўскраіне горада» (№ 40), «Дзікун, нявінны і беспарадкі на вуліцы 1» (№ 51), а таксама «Рака» (№ 63). Група «Токінг Хэйз» прадстаўлена ў спісе чатырма альбомамі. Акрамя Боба Дылана, трыма пласцінкамі прадстаўлены «Бітлз» (альбом «Эбі Роўд» — № 17), Элвіс Кастэла, Ніл Янг, а таксама групы «Вэлвіт Андэграўнд» і «Слай энд зэ Фэмілі Стоўн».

Даўно не любяць амерыканскія крытыкі такія групы, як «Пінк Флойд», «Ес», «Джэнэзіс», «Кінг Крымсан», «Эмерсан, Лэйк энд Палмэр», «Мерыліян». Толькі «Пінк Флойд» трапілі ў гэты спіс. Іх альбом «Адваротны бок Месяца» займае месца № 35, а пласцінка «Трубач ля варотаў золку» — № 79. Музыка «хэві-мэтал» прадстаўлена ў спісе толькі групаю «Лэд Зэпэлін» — альбом «4» (№ 47) і альбом «2» (№ 83).

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў спіс увайшлі ўсяго толькі шэсць альбомаў, якія выйшлі пасля 1980 года. Гэта: «Шут аўт лайт» Рычарда і Лінды Томпсан (№ 42), «Народжаны ў ЗША» Спрынгстына, «Ліловы дождж» Прынца (№ 39), «Краіна бласлаўлення» Пола Саймана (№ 56), «Шэпт» групы «Ар і Эм» (№ 58) і «Трылер» Майкла Джэксана (№ 85). Паводле думкі крытыкаў «Ролінг Стоўна», «эра рок-музыкі скончылася ў 1980 годзе».

Падрыхтаваў Юрый БУДЗЬКО




Фота Уладзіміра КАЦАПАВА






























## «ДЫП ПЁРПЛ»

«Дып Пёрпл» (літаральна «Глыбокі пурпур»). Гэтая англійская рок-група арганізавалася ў 1968 годзе ў Лондане ў складзе Джона Лорда (арган, піано), Рычы Блэкмара (гітара), Яна Пэйса (ударныя), Рода Эванса (вакал) і Ніка Сімпера (бас-гітара). Першы поспех прыйшоў пасля выканання песні «Цішэй» і выхаду ў лістападзе 1968 г. першага альбома «Адценні глыбокага пурпуру».

У 1969 годзе замест Эванса і Сімпера ў групу прыйшлі Ян Гілан і Роджэр Глоўэр. У гэтым складзе «Дып Пёрпл» дасягнуў найвялікшай папулярнасці за ўвесь час свайго існавання.

1972 год быў самым плённым у ансамбля: выйшла тры дыскі: «Механічная галава» (на ім была запісана самая вядомая песня групы «Дым над вадою», якая стала гімнам хард-року), канцэртны двайны альбом «Зроблена ў Японіі» і «Пурпуровыя пасажы». Але неўзабаве, адчуўшы сябе досыць самастойнымі і гатовымі асобна ад «Дып Пёрпл» уплываць на развіццё цяжкага року, з групы выйшлі Гілан, што стварыў свой ансамбль «Ян Гілан Бэнд», і Блэкмар, які заснаваў групу «Вясёлка» (трохі пазней да яе далучыўся яшчэ адзін удзельнік «Дып Перпл» Глоўэр). З першага складу застаўся толькі Ян Пэйс. Сваё слова сказаў новы вакаліст Дэвід Ковэрдэйл, але і ён праз нейкі час пайшоў у групу «Белы змей». Канчаткова ансамбль распаўся ў 1976 годзе пасля смерці Томі Боліна, які замяніў Блэкмара.

У 1984 годзе пасля адносных няўдач раздельнага існавання музыканты вырашылі сабрацца разам у найбольш вядомым складзе — Я. Гілан, Р. Блэкмар, Р. Глоўэр, Д. Лорд і Я. Пэйс — і выпусцілі дыск «Зусім чужыя».

Цяпер група жыве пераважна за кошт сваіх старых песень.

Ігар ВОЙНІЧ

КАРАНІ І КРОНЫ

Мікола СТОМА

# ПАРАСТКІ

Раптам загаласілі: «Даеш фальклор!» І пачалі апранаць вяскоўцаў у вышываныя уніформы, везці ў горад і выстаўляць на шырокай сцэне перад «светским обществом» — вось, маўляў, паглядзіце, як захоўваюцца і развіваюцца народныя традыцыі! Пры дамах культуры пачалі ствараць «фальклёрныя калектывы»: шматгалосыя хары з баяністамі-акампаніятарамі. Такія «калектывы», выйшаўшы на сцэну, валяць у адну кучу калядныя, купальскія, вясельныя песні разам з старадаўнімі і з уласнымі «кампазіцыямі» сваіх кіраўнікоў у стылі «a la folk». І гэтыя, спехам вывучаныя, нумары выстаўляюцца як узор, якому варта павучыцца ўсім.

Тры гады назад, пачуўшы краем вуха, што мінская моладзь святкуе купалле, я прыехаў у Вязынку. Ніхто мяне туды не запрашаў, нікога са сваіх знаёмых я там не сустрэў. Але я разам з усімі спяваў купальскія песні, гуляў у розныя гульні, скакаў праз агонь, купаўся... Было проста і вольна, і ноч праляцела, як імгненне, якое зараз успамінаю з вялікай асалодаю. З таго часу не прамінаю гэтага свята.

Фальклор жыве тады, калі ён развіваецца адвольна, імправізацыйна. Фальклор павінен у чалавеку абуджаць асобу, фарміраваць індывідуальнасць, а не марыянетку. Фальклор — гэта калі граюць, спяваюць, танчаць, жартуюць для сябе, а не для публікі, альбо справаздачы.

Дзякуючы сучаснай гарадской моладзі, перш за ўсё нефармальным аб'яднанням, ажываюць перарваныя народныя традыцыі: каляда, гуканне вясны, купалле, дзяды... Ёсць і першыя парасткі беларускага гарадскога фальклору. І вельмі хочацца, каб гэтую здаровую плынь не пашкодзілі розныя аматары акрэсліваць рамкі дазволенасці і ставіць «галачкі», якіх, дарэчы, цяпер і на вёсках вельмі шмат. (У вёсцы Даргішкі, што на Ашмяншчыне, сяляне скардзіліся, што іхні новы старшыня калгаса на працы спяваць забараняе, а канцэртаў патрабуе.)

Толькі не падумайце, быццам я заклікаю ўсё пусціць на самацёк. Маладзёжны фальклорны рух шырыцца з кожным днём, і тут выяўляецца шэраг праблем.

Перш-наперш, мала хто валодае культурай народнага спеву. Сапраўдных спецыялістаў па фальклоры можна пералічыць па пальцах адной рукі. Дый задачы іхнія — даследаваць і захоўваць арыгінал. А спяваць няма каму. Калі школьнікаў і вучаць спяваць народную песню, то ў ненароднай апрацоўцы: з функцыянальна-гарманічным суправаджэннем, рытмічнымі падтасоўкамі. Вывучэнне песень у школе ніяк не ітуецца з асэнсаваннем ролі кожнае з іх у жыцці. Ні ў школах, ні ў дамах культуры не звяртаецца ўвага на рэгіянальныя адметнасці спеву, а іх трэба ахоўваць і захоўваць.

Дапамагчы моладзі, якая імкнецца авалодаць народнай культурай, маглі б гуказапісы і відэазапісы. Але за ўсю нашу гісторыю выпушчана толькі тры грампласцінкі са спевамі Беларусі, іх сёння не набудзеш.

У балгарскай вёсцы Шырока-Лыка ўжо шмат гадоў працуе навучальная ўстанова — вучэльня-інтэрнат народнай музыкі, дзе сотні хлопцаў з усёй Балгарыі вучацца іграць на народных інструментах. Мо варта было б падумаць над стварэннем і на Беларусі ўстановы па навучанню народнай (толькі не псеўданароднай!) творчасці?

Так, калі ўжо мы адмовіліся ад думкі пра «заканамернае вымiранне фальклору», то няхай жа тады фальклор па-сапраўднаму развіваецца. На радасць усім!

ФЕЛЬЕТОН

Павел ЯКУБОВІЧ

# ЗДАРОЎЕ Ў ПАРАДКУ?

З нейкага часу мне стала здавацца, што нашая медыцына поўная міфаў і легендаў амаль што гамераўскага размаху. Калі чытаеш напісаныя натхнёнай рукой нарысы, оды і мадрыгалы, складзеныя ў гонар «чараўнікоў у белых халатах», то міжволі напаўняешся пачуццём нейкага бязмежнага захаплення і замілавання. І нават праслізгвае арыгінальная думка:

— Захварэць, ці што? А то ходзіш здаровы, як бугай, і не маеш магчымасці пераканацца на ўласныя вочы ў неверагодных зрухах у сістэме аховы здароўя працоўных.

Бо ўсё ж так выдатна!

Дыпламаваных дактароў на адзін квадратны кіламетр у нас сёння ў 773 разы больш, чым на ўсю Вяцкую губерню ў 1913 годзе. Па колькасці бальнічных ложкаў мы апярэджваем ледзь не палову краін свету, разам узятых.

А ўсеагульная дыспансерызацыя, ад пільнага вока якой не можа ўратавацца ніводны шкоднік-вірус?

А татальнае змяншэнне захворванняў? Гэта ж у нас проста ідылія! Дагэтуль памятаю сваю збянтэжанасць, калі тры гады назад прачытаў пра такую ідылію ды здзівіўся: адкуль пры такіх пераканаўчых працэнтах бяруцца ў нас хворыя?

Уласна кажучы, незразумела многае.

Асабліва з той хвіліны, калі мы ўсё-такі захварэлі і сутыкнуліся з суровымі рэальнасцямі, а не міфамі, створанымі вакол медыцыны.

Па-першае, вы хуценька зразумееце, што колькасць дыпламаваных дактароў, насуперак філасофскім законам, дужа часта не пераходзіць у якасць. Па-другое, расхваленая процьма бальнічных ложкаў — гэта часцей за ўсё абстракцыя, і пакуль што надта ўжо многія хворыя бавяць досыць няпэўны час на пастаўленых у калідорах тапчанах, падобных на вакзальныя лаўкі.

Усеагульная дыспансерызацыя — гэта, выяўляецца, таксама досыць відавочная манілаўшчына, а ледзь не фантастычныя працэнты зніжэння захворванняў — верх бюракратычнай мудрасці. Вынікі дасягаюцца элементарна проста: хворым «закрываюць» бюлетэні.

Мінімум стараннасці, максімум поспеху. І ўсе задаволеныя, усе смяюцца. Апроч, натуральна, хворых. Ім хоць плач. Праўда, ад гэтага толькі лягчэй робіцца, але хвароба ніяк не праходзіць.

А дадайце да гэтае карціны вельмі адчувальны недахоп санітараў, дапатопны інструментарый і старажытную фармакапею... А што тут, уласна кажучы, благога? Даведаешся пра ўсё гэта — неяк расхочацца хварэць, пацягне да фізкультуры, ранішняй гімнастыкі і сістэматычнага аблівання халоднай вадою.

Толькі не думайце, што аўтар мае зуб на сучасную сістэму аховы здароўя. Ён усёю душою перажывае за стан медыцыны, і яго запаветнай мараю з'яўляецца напісанне чагосьці ўзвышанага на адрас нашай сістэмы аховы здароўя. Але рэальнасць такая, што пакуль прыходзіцца пісаць фельетоны. А як жа інакш, што б вы рэкамендавалі пасля азнаямлення з ніжэй названымі фактамі?

З гэтым, напрыклад. У Мінскім раёне маленькай Алене трэба было зрабіць унутрывенную ін'екцыю. Складаная справа для дыпламаванага спецыяліста? Не надта. Толькі Алене ўвялі зусім не тое, што трэба, і дзяўчынка памерла на вачах у бацькоў.

У Слуцку дванаццацігадовы Ігар упаў з веласіпеда і атрымаў траўму. Любы фельчар за паўгадзіны справіўся б з ранаю, і ўсё б, вядома, да вяселля зажыло. Але вяселля ў Ігара не будзе ніколі. Рану не апрацавалі, потым паставілі не той дыягназ, потым было позна.

У Клецкім раёне родным Вячаслава Паўлоўскага дактары без адрыву ад абмеркавання свежых пасялковых навін сказалі: «Ідзіце дадому, не адрывайце нас ад справы». Родныя пайшлі, чалавек памёр. Уратаваць яго можна было. Гэта высветлілі потым.

Але гэта ж потым. А раней?

А раней, таварышы, атрымліваецца ў нас такая парадаксальная сітуацыя. Дактароў шмат, а лечаць дрэнна. І прычына гэтага — не толькі кепскі інструментарый і нізкая якасць пеніцыліну. Прычына яшчэ, напэўна, і ў тым, што сёння сярод «чараўнікоў у белых халатах» надзвычай шмат цвярозых празаікаў, для якіх галоўнае ў жыцці — асабісты спакой і задавальненні. А ўсё астатняе — малаістотнае. У тым ліку чужое здароўе і чыёсьці жыццё. Я ўяўляю, як жыццярадасна смяюцца многія студэнты і выпускнікі Мінскага медыцынскага інстытута, калі ім трапляюцца на вочы літаратурныя творы Верасаева і іншых падзвіжнікаў медыцыны.

— Вось дзівакі, — думаюць сабе нашы сучаснікі,— сярод ночы брылі па снезе ў далёкія вёскі да хворых, уводзілі сабе халерныя бацылы, пакутавалі за навуку. Смешна, дальбог.

Вядома, смешна. Асабліва, калі пабываеш на судзе над былым прарэктарам медінстытута Касько і даведаешся пра тое, як напаўняліся рады дактароў рэспублікі. Рэктар аддаваў у прыёмную камісію спіс на добры тузін юнакоў і дзяўчат, прарэктары прапаноўвалі спісы трохі карацейшыя, дый радавыя прафесары не адставалі. Так і прымалі на лячэбны факультэт скрозь сваіх, скрозь дзетак з не абы-якіх сем'яў. А на пару астатніх месцаў ладзіўся шматсоценны конкурс. За права трапіць у спіс, натуральна, давалі хабар, або чуліся званкі з такіх сацыяльных верхатур, што нават бясстрашны прарэктар Касько станавіўся па стойцы смірна і адказваў як яфрэйтар першага года службы: «Зразумела. Будзе зроблена!»

Вядома, сярод тых, хто трапіў у інстытут па спісе, былі і здольныя маладыя людзі, магу паверыць, што яны змалку яшчэ марылі быць дактарамі, веру, што яны з годнасцю нясуць працоўную вахту. Але гэта сярод іх была галоўны ўрач нясвіжскай бальніцы Цапінская, якая, бы матылёк у кветкавым пылку, загразла ў хабарніцтве, і галоўны ўрач Ульяніцкай бальніцы Някіціна, якая перарабіла даверaную ёй установу ў прыватную кантору. І адзін з тых, хто паступіў у мединстытут па званку, не так даўно расказаў цікавую гісторыю са свайго жыцця. Мне тады стала роспачна. Гэты малады тэрапеўт, ужо аспірант і, напэўна, зусім хутка галоўны ўрач, мінулым летам быў накіраваны ў камандзіроўку ў раён, закрануты чарнобыльскай аварыяй.

— Уяўляеш,—элегічна распавядаў мне тэрапеўт,—вярнуўся, пайшоў да знаёмых вайскоўцаў замераць радыяцыю. Усё ў парадку. Вось толькі скураны плашч, зараза, падвёў. Ад яго ўсе прыборы зашкальвалі. І ніякай дэзактывацыі, разумееш, не паддаецца.

— Так,— паспачуваў я,— шкада, рэч не абы-якая. Прыйшлося знішчыць?

— Ты што?! — тонка ўсміхнуўся ўрач,— рэч за семсот рублёў, а я яе знішчу. У камісіёнку здаў.

Я збянтэжана глядзеў на яго, вясёлага, упэўненага ў заўтрашнім дні, і думаў:

— З колькасцю бальнічных ложкаў, з працэнтаманіяй, з дэфіцытам медыкаментаў мы ўсё-такі справімся. А вось як быць з сучаснымі «чараўнікамі», якім ўсё роўна дзе рабіць? Хоць у мясным аддзеле універсама, хоць у паліклініцы — абы ў белым халаце...

ДЗЯКУЙ ЗАРАДЦЫ!














**Аляксандр БАЙЧОРАЎ**

# „Нарцыс" на асфальце



Ліпень 1987 года. Паўднёвы прыгарад Парыжа. Спякота невыносная. Сярод вялізнага натоўпу не пакладаючы рук шчыруюць санітары дзесяткаў навакольных шпіталяў і бальніц. Тысячы людзей маюць патрэбу ў неадкладнай дапамозе.

Што здарылася? Нічога асаблівага. Проста ідзе канцэрт папулярнай амерыканскай рок-спявачкі Мадоны.

Стаўпы року Элвіс Прэслі, Джэніс Джоплін, Джым Морысан, Джымі Хендрыкс памёрлі, але рок жыве. Заснавальнік англійскага ансамбля «Лэд Зэпэлін», які багата зрабіў для прапаганды рок-рытмаў, Джымі Пейдж нават сцвярджае: «Мы вярнулі музыку вуліц туды, адкуль яна выйшла. Наша музыка — гэта народная музыка тэхналагічнага веку». Даследчыкі маладзёжнай культуры на Захадзе лічаць, што менавіта рок адлюстроўвае наш раз'яднаны свет, які хістаецца ад страху да заклапочанасці і стараецца саўладаць з напружаннем і пачуццём, што мы рушым наперад у рытме, які робіцца ўсё хутчэйшы.

У 60-я гады на Захадзе з'явіліся дыскатэкі як спецыфічная форма кантакту паміж маладымі людзьмі — кантакт пад любімыя рытмы. Дыскабізнес дасягнуў гіганцкіх маштабаў. У ЗША, напрыклад, існавала больш за 20 тысяч афіцыйна зарэгістраваных дыскатэк. Але паступова з формы кантакту дыскатэка ператварылася ў спосаб пазбегчы сустрэч, схавацца. Адна з самых папулярных у ЗША дыскатэк «Бонд» знаходзілася на Таймс-сквер у цэнтры Манхэтэна. Да паслуг наведнікаў люстраныя сцены, надзіманыя лялькі, тэлевізійныя камеры, якія праецыруюць твары на спецыяльны велізарны экран, усталяваны ў самой зале. І, відаць, невыпадкова лепшая дыскатэка Бостана была названая «Нарцыс».

Дыскаэпідэмія пранікла ў кінематограф, праз яго яшчэ больш узмацнілася і распаўсюдзілася па ўсім свеце. Да д'ябла мінулае, да д'ябла будучыню, палітыку, інфляцыю — абы толькі хутчэй настаў канец працоўнага тыдня, калі можна цалкам аддацца любімым рытмам, блікам каляровай музыкі. Такую немудрагелістую філасофію вызнае прадавец фарбаў нью - йоркскага Брукліна «бунтар» Джон Травольта ў знакамітым фільме «Ліхаманка суботнім вечарам».

Папярэднікам сучасных разнавіднасцей року стала панк-культура, якая зарадзілася ў Англіі ў сярэдзіне 70-х гадоў. У гэты перыяд рэзка скарацілася беспрацоўе сярод моладзі, наладзіўся бізнес на наркотыках. Разам з тым папулярныя песні пратэсту сталі прыбытковымі і прынеслі сваім аўтарам мільённыя даходы, многія дыскатэкі ператварыліся ў надзвычай дарагія прывілеяваныя ўстановы, уваход у якія быў цяпер даступны толькі «абраным», рок-кампазіцыі падоўжыліся і ўскладніліся, каралі рок-н-рола састарэлі...

Склалася становішча, што 16—20-гадовыя юнакі і дзяўчаты не мелі музыкі, якую б маглі назваць сваёй. Гэты своеасаблівы вакуум пачынае запаўняцца музычнай творчасцю маладых, якія не мелі зазвычай прафесійнай, а то і ўвогуле хоць якойсьці сур'ёзнай адукацыі. Яны былі поўныя энергіі, незадаволеныя сваім становішчам і апантана імкнуліся сказаць пра яго ўголас і рэзка. У іх творчасці адбываецца вяртанне да кароткіх, трохзвілінных, сонгаў, простых мелодый, а ў лірыцы замест заклікаў і палітычных лозунгаў пачынаюць пераважаць праклянцці і лаянка. У Англіі ўзніклі і першыя панк-групы «Сэкс Пісталз», «Клэш», «Дэмнд»... У ЗША панк-групы сталі называць «новай хваляю» («Рамонф», «Тэлевіжн», «Блондзі»).

Будучых зорак групы «Сэкс Пісталз» уладальнік лонданскага магазіна адзення знайшоў каля ўласнага прылаўка ў 1975 годзе. Ён купіў хлопцам, якія прыйшліся яму даспадобы, сякое-такое музычнае абсталяванне, параіў узяць гучныя псеўданімы.

Першае выступленне чатырох будучых зорак на сцэне піўнога бара наведнікі вытрымлі ўсяго дзесяць хвілін. Потым здарылася нешта незразумелае, ва ўсякім разе невытлумачальнае законамі музычнага жанру: усё больш і больш тынэйджэраў сталі прыходзіць і зачаравана глядзець на буянства.

У дадатак да «новай» музыкі з'явіліся панк-прэса, панк-мода. Чорныя курткі, чорныя штаны, перахопленыя вяроўкамі ля пояса і шчыкалатак, «маланкі» на кожным квадратным дэцыметры адзення. Вычварная яркая расфарбоўка твару, валасоў, замок, ланцуг ад унітаза, абматаны вакол шыі. Калі аднаго разу прыхільнікі абарвалі на амулеты ўсе гузікі на чорным, да падлогі, любімым паліто Джона Ротэна, той усё ж такі з'явіўся ў ім на сцэне, зашпіліўшыся простай шпількаю. Пасля гэтага англійская шпілька трывала ўвайшла ў лік самых вытанчаных і модных упрыгожанняў моладзі на Захадзе.

У тлумачальных і энцыклапедычных слоўніках вы не знойдзеце дакладнага вызначэння слова «панк». У часы Шэкспіра так называлі прастытутак. У сучасным англійскім і амерыканскім лексіконе «панк» азначае «падонак», «нікчэмнасць».

Які ж сацыяльны сэнс панк-культуры? Што нарадзіла гэтыя, мякка кажучы, экзатычныя групы, іх музыку, моду, манеру паводзін? Можа, маладым людзям проста няма чаго рабіць у вольны час і яны вар'яцеюць? Ці ўсе вядомыя спосабы баўлення часу імі ўжо апрабаваныя і ім захацелася нечага новага? Што гэта — пратэст, хвароба, гульня? Як можа сучасны юнак або дзяўчына надзець на шыю жалезны ланцуг?

Вычварныя строі і расфарбоўка панкаў — гэта не жаданне звярнуць на сябе ўвагу, як многія чамусьці лічаць. Панк не імкнецца крыкнуць у твар бяздушнаму, абыякаваму свету «вось я», «я таксама існую», «я — чалавек». Панк-стыль мае іншую маральна-псіхалагічную аснову. У абліччы і паводзінах панка ўвасоблена суб'ектыўная ўпэўненасць, што ён ад самага пачатку адзінокі, закінуты, яму няма ніякае справы да іншых людзей, і няхай яны таксама пакінуць яго ў спакоі.

Васьмідзесятыя гады. Як у свой час Элвіса Прэслі, так і цяпер босы ад шоў-бізнесу ператвараюць сённяшніх бунтароў у тавар, адмыслова аздобленыя, упакаваныя, гатовы да ўжытку. Калі ў 70-я гады толькі асобныя радыёстанцыі дазвалялі сваім дыск-жакеям ездзіць па новай панк-хвалі, дык на пачатку 80-х становішча рэзка змянілася. Тэлевізійныя музычныя каналы гатовы гадзінамі паказваць «хэві-мэтал». Буйныя крамы ЗША і Заходняй Еўропы, якія гандлююць грампласцінкамі, адвялі пад панк-прадукцыю цэлыя секцыі.

Дух пратэсту быў скажоны ў панк-культуры да непазнавальнасці, але, як сказаў адзін з лідэраў англійскай рок-групы «Ху» Піт Таўшэнд, «калі ты на самым дне, то нават сцёкавая канава можа апынуцца дарогаю наверх». Панкі ўсялякімі магчымымі сродкамі дэкларавалі свой патэнцыял пратэсту, выстаўлялі напаказ сваю «няўключанасць» у грамадскую «сістэму». Джон Ротэн, напрыклад, казаў: «Яны могуць забіць нас, але яны ніколі не змогуць прымусіць нас змоўкнуць».

Сёння ў року можна вылучыць дзве галоўныя плыні. «Поп-рок», або «лёгкі» рок, працягвае традыцыі добра вядомага ў нашай краіне ансамбля «Абба». Да яго далучаюцца такія зоркі, як Лаянэл Рычы, Майкл Джэксан, Сіндзі Лопер, Мадона і іншыя. Цяжкі рок, або «хэві-мэтал», прадстаўлены такімі групамі, як «Твістэд-Сістэр», прадаўжальнікамі традыцыйнага цяжкага року, народжанага, па сутнасці, групаю «Лэд Зэпэлін». Іх кампазіцыі нашмат працейшыя, карацейшыя, гучнейшыя і, па сутнасці, бліжэйшыя да панк-року. Характэрна, што вядучыя зоркі сучаснага року зазвычай паспяхова выступаюць ва ўсіх яго разнавіднасцях. Гэта можна сказаць і пра Майкла Джэксана, і пра Сіндзі Лопер, і пра вядомых «Ролінг Стоўнз».

У дадзеных рамках я не магу, дый не ставіў перад сабою мэты, даць поўную карціну эвалюцыі маладзёжнай музычнай культуры Захаду апошніх гадоў. Ужо досыць шмат пісалася і казалася пра з'яву «Бітлз» у маладзёжнай музыцы, пра рок-н-рол Элвіса Прэслі, пра песні пратэсту Боба Дылана і іншых зорак 60-х гадоў. Апавяданне пра панк-культуру дае магчымасць перакінуць масток да больш слушнага і больш поўнага разумення сучасных маладзёжных прыхільнасцей у музыцы.

КАРУНКІ ЧАСУ

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ**

# НАПІСАНА РУКОЮ Карла Маркса

**5 мая 1988 г. споўнілася 170 год з дня нараджэння Карла Маркса.**

**Чалавек шырокага кругагляду, К. Маркс цікавіўся, бадай, усімі народамі, іх гісторыяй, іх месцам і роляю ў развіцці чалавецтва. Бліскучы знаўца еўрапейскай гісторыі і палітыкі, К. Маркс не абышоў сваёю ўвагаю Беларусь, беларускі народ. У працах заснавальніка навуковага камунізму ёсць шмат глыбокіх, цікавых назіранняў над гісторыяй Беларусі. На жаль, шырокі чытач мала ведае пра ягоныя погляды на мінуўшчыну Беларусі, пра ягоную ацэнку асобных падзей і фактаў з гэтае мінуўшчыны. Стала так, што шэраг прац К. Маркса, як, дарэчы, і Ф. Энгельса, замоўчваецца гісторыкамі Беларусі. Пра іх не знойдзеш згадак ані ў школьным падручніку, ані ў дапаможніку па гісторыі БССР для гістарычных факультэтаў ВНУ рэспублікі. Сярод такіх прац — і XIV том выдання «Архіў Маркса і Энгельса», які надрукаваны ў 1973 г. у Маскве.**

У том уключаны рукапісы К. Маркса, напісаныя ім у 1863—1864 гг.— у час паўстання ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Мэтаю К. Маркса было скласці разам з Ф. Энгельсам брашуру (яна не была напісана) і выступіць пры абмеркаванні «польскага» пытання на пасяджэннях Генеральнага Савета I Інтэрнацыянала. Нататкі і накіды К. Маркса прысвечаны праблемам знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай і лёсу паасобных частак гэтае дзяржавы — Польшчы, Літвы, Беларусі і Правабярэжнае Украіны, якія ў выніку трох падзелаў былі захоплены царскай Расіяй, Прусіяй ды Аўстрыяй. У сваіх рукапісах К. Маркс зрабіў гістарычны агляд і глыбокі аналіз прычын заняпаду Рэчы Паспалітай і яе расчлянення трыма абсалютысцкімі дзяржавамі. У гэтым артыкуле я хачу пазнаёміць чытачоў «Крыніцы» з тым, як К. Маркс асвятляў некаторыя пытанні, якія непасрэдна тычацца гісторыі Беларусі (яна ў рукапісах, згодна з традыцыяй, названа «Літвою», бо да 1772—1795 гг. уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага).

К. Маркс звяртае ўвагу на тое, што царызм здаўна імкнуўся захапіць Беларусь. У прыватнасці, Іван Грозны, разлічваючы, што яго абяруць на трон караля Рэчы Паспалітай, пісаў германскаму імператару Максіміліяну Другому: «Мы з'яднаем нашы намаганні, каб Польшча і Літва не выслізнулі болей ад нас». Палітыка ўсіх наступнікаў Івана IV была, па сутнасці, працягам гэтага імкнення. У сваіх рукапісах К. Маркс паказвае, як царскія дыпламаты ўмешваліся ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Адзін з іх на пачатку XVIII ст. дамогся абмежавання царкоўных правоў некаталіцкай шляхты, іншыя зрабілі ўсё належнае, каб у 1733 г. у Рэчы Паспалітай быў уведзены закон, паводле якога некаталіцкая шляхта траціла і палітычныя правы. Калі ж гэта стала выгадна для царскага ўрада, Кацярына II настаяла на ўраўненні шляхты-некатолікаў са шляхтаю-каталікамі. Пры гэтым царыца пайшла на падлог. Спасылаючыся на дагавор 1686 г. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, які дазваляў царам апекавацца праваслаўнымі жыхарамі Польшчы, Літвы, Беларусі і Правабярэжнай Украіны, Кацярына выступіла ў ролі абаронцы пратэстантаў, хоць і не мела такога права. Царскі ўрад падбухторыў праваслаўную і пратэстанцкую шляхту стварыць канфедэрацыі — часовыя палітычныя саюзы ўзброеных дваран — у Слуцку і Торуні. Акты гэтых канфедэрацый падпісалі толькі 573 чалавекі, прычым за адсутных распісваліся іншыя. Тым не менш Кацярына заявіла, што яна абараняе інтарэсы шостай часткі насельніцтва Рэчы Паспалітай і падтрымала ў 1767 г. Слуцкую і Торуньскую канфедэрацыі сваімі ўзброенымі сіламі. Занатаваўшы гэты факт, К. Маркс прыпісаў: «І Кацярына называе 573 (чалавекі.—**В. Г.**) адной шостай ад 18 мільёнаў!»

Інтэрвенцыя 1767 г. не была адзінкавым фактам ваеннага ўмяшання царызму ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Заснавальнік навуковага камунізму занатаваў, што царскае войска ўрывалася ў Літву і Польшчу таксама ў 1756, 1768 і 1770 гг.

Калі ў 1763 г. трон Рэчы Паспалітай быў вакантны, Прусія і царыца зрабілі ўсё належнае, каб каралём польскім і вялікім князем літоўскім стаў былы каханак Кацярыны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Імкнучыся дэзарыентаваць палітычныя колы Еўропы і Рэчы Паспалітай, прускі і царскі паслы ў Варшаве выдалі дэкларацыю, у якой спрабавалі абвергнуць чуткі, нібыта з дапамогаю Панятоўскага гэтыя дзве дзяржавы хацелі «аблегчыць сабе магчымасць захопу некаторых правінцый Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага», расчляніць іх і прыяднаць потым да Прусіі і Расійскай імперыі. Дэкларацыю, каб надаць ёй большую вагу, падпісала сама царыца. Неаднойчы нагадаўшы пра гэты дакумент, К. Маркс адзначае, што кароль прускі і царыца ў той самы час (у 1764 г.) заключылі паміж сабою пагадненне аб заняволенні Рэчы Паспалітай.

Трывогу ў палітычных колах Рэчы Паспалітай выклікала ўжо тое, што ў тытуле царыцы былі словы «Імператрыца Усерасійская». Гэта азначала, што Кацярына хоча быць царыцай не толькі Вялікай, але і Малой і Белай Русі. Каб развеяць трывогу, царскі і прускі паслы ў Варшаве выдалі ў 1764 г. яшчэ адну дэкларацыю, зноў-такі падпісаную Кацярынай. У гэтай дэкларацыі, заканспектаванай К. Марксам, было напісана так: «...часта баяцца таго, чаго баяцца не трэба, і таму вырашылі, што ў тытуле **Імператрыцы Усерасійскай** крыецца нейкая небяспека... Яе Імператарская Вялікасць ... **не мае намеру** прысвойваць... якога-небудзь права на краіны і землі, якія, **пад назваю Русі**, уваходзяць у склад **Польшчы** і Вялікага княства Літоўскага...» Нагадаю чытачу, што паводле акту Люблінскай уніі 1569 г. у склад Польшчы ўваходзіла Малая Русь (Украіна), а ў склад Вялікага княства — Белая Русь.

Гучная дэкларацыя 1764 г. не перашкодзіла царызму захапіць пры падзелах Рэчы Паспалітай не толькі землі, якія мелі ў сваёй назве слова «Русь», але яшчэ і карэнную Літву, і Курляндыю.

К. Маркс адзначыў крывадушнасць Кацярыны II. Крывадушнасць гэтая выявілася не толькі ў дэкларацыях 1763 і 1764 гг. Царуючы ў Расіі як абсалютны манарх, імператрыца ў 1792 г. накіравала свае войскі на Беларусь і ў Літву нібыта для абароны рэспубліканскіх свабод шляхты ад абсалютнай манархічнай улады Станіслава Аўгуста. На гэты факт К. Маркс звяртае ўвагу ў сваіх рукапісах двойчы.

Гэтаксама, як палітыку царызму і прускага караля, К. Маркс крытыкуе і палітыку Напалеона, які ў 1812 г. захапіў Беларусь. Яшчэ да гэтых падзей французскі рэспубліканскі ўрад арганізаваў у Італіі так званы польскі легіён з былых жыхароў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і Беларусі. Легіён выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах французскія военачальнікі. Калі спатрэбілася падавіць паўстанне неграў на Гаіці, Напалеон пад пагрозай артылерыйскага абстрэлу загадаў пасадзіць легіянераў на караблі і пасляць іх у тропікі. Большасць легіянераў загінула ў баях або ад жоўтай ліхаманкі.

К. Маркс піша, што ў 1812 г. Напалеон стварыў на Літве і Беларусі часовы ўрад, што «гнюсныя паводзіны войскаў пад камандаваннем Вестфальскага і Неапалітанскага каралёў (брата імператара Жэрома Банапарта і маршала Іяхіма Мюрата.— **В. Г.**) і г. д.» адштурхнулі мясцовае насельніцтва ад захопнікаў. «Апроч таго,— падкрэсліваў К. Маркс,— літоўскіх магнатаў прыцягнуў на бок Аляксандра Ежы Адам Чартарыскі. Таму ўступленне французаў не выклікала ніякіх нацыянальных дэманстрацый і хваляванняў». Князь Чартарыскі меў не толькі вялікі ўплыў на беларускую і літоўскую шляхту і магнатэрыю. Ён быў блізкі палітычны супрацоўнік цара Аляксандра I. Складальнікі шматтомных выданняў і падручнікаў па гісторыі Беларусі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў пішуць пра ледзь не адзінадушную падтрымку Напалеона беларускай шляхтай і магнатамі. Знаёмства з рукапісамі К. Маркса, з працамі польскіх і рускіх гісторыкаў паказвае, што гэта, мякка кажучы, няпраўда.

У студзені 1813 г., калі Напалеон пад ударамі расійскіх войскаў адступаў на Захад, князь А. Чартарыскі вырашыў скарыстаць момант і прапанаваў Аляксандру I аднавіць Рэч Паспалітую. Прапанова была адхілена. Цар спасылаўся пры гэтым на рускае дваранства, якое «ніколі б не дапусціла, каб Літва, Валынь, Падолія зноў адышлі да Польшчы».

Лёс былой Рэчы Паспалітай канчаткова быў вырашаны на Венскім кангрэсе. Паводле Акту аб ладзе ў былых частках Рэчы Паспалітай, які ў 1815 г. быў падпісаны і царскімі дыпламатамі, колішнія падданыя гэтай дзяржавы павінны былі атрымаць «прадстаўніцтва і нацыянальныя ўстановы». Працытаваўшы гэты дакумент, К. Маркс адзначыў, што прадстаўніцтва і нацыянальныя ўстановы павінны былі атрымаць не толькі Каралеўства Польскае, але і іншыя дзевяць правінцый, якія апынуліся пад уладай цара. К. Маркс пералічыў іх: гэта Вільня, Гародня, Віцебск, Магілёў, Мінск, Валынь, Падолія, Кіеў і Беласток. Замест таго, каб даць гэтым правінцыям нацыянальныя і прадстаўнічыя ўстановы, пісаў К. Маркс, царызм зачыніў Віленскі універсітэт, прыгнятаў каталіцкую і уніяцкую цэрквы, замяніў мясцовыя законы (маецца на ўвазе Статут Вялікага княства Літоўскага.— **В. Г.**) на імперскія.

Дадамо, што ўсе гэтыя і іншыя «мерапрыемствы» (пра іх можна прачытаць у артыкуле У. Конана ў № 4 «Крыніцы») праводзіліся царызмам пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. на Беларусі і ў Літве. Да паўстання царызм, наадварот, стварыў спрыяльныя ўмовы для апалячвання і акаталічвання беларускага народа.

Апроч прыведзеных вышэй, К. Маркс занатаваў шмат іншых звестак з гісторыі Беларусі і Літвы, таму прыведзеныя прыклады далёка не вычэрпваюць змест ягоных рукапісаў, надрукаваных у XIV томе «Архіву Маркса і Энгельса». Іх трэба грунтоўна вывучаць. Імі, думаю, абавязкова трэба будзе карыстацца пры напісанні новых прац і новых падручнікаў па гісторыі Беларусі. Калі будуць стварацца новыя манаграфіі і падручнікі па гісторыі Беларусі, нельга будзе не ўлічыць яшчэ адну працу К. Маркса. Маю на ўвазе «Адкрыцці дыпламатычнай гісторыі 18-га стагоддзя». Гэтая праца ўпершыню ўбачыла свет у нашай краіне ў 1986 г. Яе надрукавалі ў 15-ым томе Збору твораў К. Маркса і Ф. Энгельса на англійскай мове, якія выходзяць у выдавецтве «Прогресс».

**Яўген ДРОЗД**

# ДРАМА Ў ЭФЕСЕ

АПАВЯДАННЕ

Калі апанавалі яго няўпэўненасць і паняверка?

Ва ўсякім разе не ў той момант, калі з заданнем Інстытута старажытнай гісторыі ён увайшоў у тэмпаральную камеру і адправіўся ў 356 год да н. э., у горад Эфес, што ў Малой Азіі. Заданне — пазнаёміцца з архітэктурай храма Артэміды Эфескай да таго, як яго спаліў Герастрат, і, калі будзе магчыма, сустрэцца з самім Герастратам,— было простае і ніякіх сумненняў не выклікала. Небяспека? Смеху варта... Дыск вяртання, прымацаваны на грудзях у Падарожніка ў часе, катапультуе яго ў свой родны час, як толькі ўзнікне хоць бы самая мізэрная пагроза ягонаму, Падарожнікаваму, жыццю або здароўю...

Гэтак жа ясна і проста было ўсё, калі ён хадзіў вакол храма Артэміды, разглядваў яго з розных месцаў і здымаў схаванай у складках гіматыя мініяцюрнай відэакамерай, якая перадае інфармацыю ў блок памяці ў дыску вяртання.

Ён з цікаўнасцю адзначаў асаблівасці будовы іянічнага ордэра і ўпрыгожанняў фрыза, падлічваў калоны. Ён спяшаўся скарыстацца ранішнім асвятленнем, каб замацаваць у магнітакрышталях пышнасць капітэляў, гульню святла і ценяў у порціку, што надавала храму ўрачыстую раскошу.

Першая неспадзяванка чакала Падарожніка, калі ён аглядаў інтэр'ер. Ён думаў, што і ў сярэдзіне храма ўбачыць малаазійскую пышнату і ўскладнёнасць архітэктурнага ўбранства. Замест гэтага ён убачыў голыя сцены, рыштаванні, кучы смецця і будаўнічых матэрыялаў.

Бадай што тут ён упершыню і адчуў няўпэўненасць. Ніякіх звестак пра рамонт храма незадоўга да славутага пажару ў гісторыкаў не было.

— Можа, тэмпаральнікі памыліліся,— устрывожана падумаў Падарожнік,— і закінулі мяне не ў той час?..

У нейкай панылa-соннай асобы ў патрапаным гіматыі (ці то вартаўніка, ці то будаўніка) Падарожнік высветліў, што рамантуецца і абнаўляецца ўнутраная аздоба храма і што работы вядуцца ўжо вельмі даўно і адны толькі несмяротныя багі ведаюць, калі завершацца. І наогул айцы горада несумненна зрабілі вялікае глупства, калі аддалі падрад на рамонт гэтаму грэчаскаму прайдзісвету...

Прайдзісветавага імя асоба не назвала, сказала толькі, што не хоча з раніцы паганіць вусны і псаваць сабе настрой на цэлы дзень...

— Дарма,— суцяшаў сябе Падарожнік, выходзячы са змрочнага порціка на яснае сонца.— Рамонт храма — не бітва пад Фермапіламі, гісторыкі маглі і не ведаць.

Так супакойваў ён сябе, ідучы шукаць Герастрата.

Падарожнік пастукаўся ў дзверы, збітыя з цяжкіх дубовых брусоў. Падказкі выпадковага прахожага былі не зусім талковыя, але дом нібыта гэты самы.

Дзверы адчыніліся, і высунулася смуглая, хітраватая фізіяномія. Мабыць, раб.

— Мне сказалі,— нерашуча пачаў Падарожнік,— што, э-э, тут я магу пабачыцца з Герастратам...

Раб прабегся па Падарожніку позіркам, ні слова не кажучы, памкнуўся назад і бразнуў дзвярыма.

Падарожнік разгублена пераміnaўся нагамі і прыслухоўваўся да галасоў з-за сцяны.

Дзверы адчыніліся раптам зноў, і той самы раб, але ўжо з паклонам і ліслівай усмешкай запрасіў Падарожніка зайсці.

Яны прайшлі перыстыльны дворык з мазаікай і басейнам. Падарожнік занатаваў у памяці фігурныя роспісы на сценах і дарагія вазы і статуэткі ў нішах. Андронаў у доме было два. «Багата»,— падумаў Падарожнік. Раб правёў яго ў меншы андрон і выйшаў.

Падарожнік маргаў вачамі, прывыкаючы да змроку памяшкання, а нечы сакавіты голас узносіў хвалу багам, якія паслалі госця ў гэты лядашчы дом, на гэтае ўбогае застолле, і прасіў госця падсаджвацца зручней і далучацца. Вочы нарэшце прывыклі да асвятлення, і Падарожнік разгледзеў таго, хто гаварыў. Гэта быў жыццярадаснага выгляду тоўсты чалавек, які выгодна разваліўся на драўлянай кліне. Відаць, гаспадар дома. Твар яго льсніўся самазадаволенасцю, ён памахваў пульхнай рукой, а ў другой трымаў ладны кавалак бараніны.

Акрамя яго, у андроне быў яшчэ адзін чалавек, ён таксама ўзлягаў на кліне, але пастава ў яго была нейкая застылая. Быў ён худы і зморaны, у раскудлачанай чупрыне, у гарачым паглядзе і, нарэшце, у галоднай асатанеласці, з якою ён грыз сушаную рыбіну, чыталася нейкая няўцешнасць. Гэта мог быць толькі Герастрат. Падарожнік застыў ад захаплення — настолькі партрэт Герастратаў быў блізкі да таго, які ён сабе загадзя намаляваў.

Тым часам гаспадар нешта сказаў і замоўк, нібы чакаючы нечага. Падарожнік зразумеў, што гаспадар назваў сябе і госця і яны чакаюць, што ён назаве сябе. Яму зрабілася прыкра, што не разабраў гаспадарова імя, і, схамянуўшыся, невыразна назваў сябе выдуманым імем, якое яму далі ў аддзеле адаптацыі, а яшчэ паведаміў, што прыехаў з Афінаў, дачуўшыся пра рэканструкцыю храма Артэміды, пасля чаго памянёны храм мае стаць восьмым цудам свету. Вось ён і рашыўся паглядзець...

Пры гэтых словах тоўсты вельмі пажвавеў. Ён падхапіўся на ногі, сваімі рукамі падсунуў незанятую кліне бліжэй да століка з ласункамі і вінoм і дапамог Падарожніку прылегчы на яе з найбольшымі выгодамі. І пры гэтым беспeрастанку балбатаў, узносячы хвалу багам за тое, што яны паслалі Падарожніка якраз у яго дом...

— ...ты не памыліўся, афінянін, менавіта ж восьмым цудам свету! Я заўсёды казаў паганым скептыкам і зайздроснікам, што мой храм праславіцца больш за ранейшы і будзе сапраўды ўкрасай Эфеса...

— Твой храм, шаноўны? — не зразумеў Падарожнік.— Удакладні, што ты маеш на ўвазе.

Тоўсты сказаў, што ён галоўны падрадчык рамонтных работ і пастаўшчык будаўнічых матэрыялаў і што тым самым ён як бы дадаецца да ліку дойлідаў, якія ўзвялі храм некалькі стагоддзяў таму назад.

Падарожнік прыгадаў словы панылай асобы ў храме і ледзь стрымаў усмешку. Ён паглядзеў на тоўстага ўважліва, потым зіркнуў на худога, які адсутна ўглядаўся ў нейкія далёкія прасторы.

«Той, значыцца, рамантуе,— падумаў Падарожнік,— а гэты спаліць...»

А ўголас сказаў некалькі абыякавых фраз прыемнага здзіўлення і памяркоўнага захаплення.

А гаспадар усё распінаўся пра вартасці будучага храма, пакуль нарэшце худы ягоны госць не бліснуў злосна вачыма і не буркнуў як бы сам сабе, але досыць разборліва:

— Ну, калі гэты хлеў стане восьмым цудам свету, дык я ўжо напэўна стану Гамерам!..

Тоўсты зарагатаў.

— Не слухай яго, афінянін, ён жа ў нас паэт і, значыцца, не дужа глуздуе ў рэчах.

«Дык ён яшчэ і паэт!» — падумаў Падарожнік.

— І вось рассудзі нас, вандроўнік,— гаварыў далей тоўсты,— мы тут з ім спрачаліся да твайго прыходу, і наш пііт аж грудзі надсадзіў, даводзячы, што самае каштоўнае на свеце — гэта слава і што ніштo іншае ёй не дараўнае...

— Вядома! — узвіўся худы.— Я так лічу і маю рацыю, і не табе, гандляру, разважаць пра гэта!..

Гаспадар весела павярнуўся да паэта.

— Што такое твая слава, пііт? Плашч, які можна надзець? Кавалак мяса, які можна з'есці? Баба, якую можна...? Хе-хе... Або золата, за якое можна купіць і тое, і другое, і іншае? Пакажы мне гэтую славу! Дай мне яе памацаць, панюхаць, пакаштаваць, якая яна на смак... Золата — вось што галоўнае ў гэтым свеце. Калі мецьмеш золата, тады ўсе цябе паважаць будуць і ніхто не згадае, што колісь ты быў простым пастухом... А слава твая — Эолаў подзьмух. Мне яна і за так непатрэбна. І я за дурня маю таго, хто жыццё сваё марна глуміць, бегаючы за ёю.

Увесь час, пакуль гаварыў гаспадар, паэт мяняўся з твару. Ён то белы рабіўся, то крывёй наліваўся, то зубы сцінаў, то пачынаў імі скрыгатаць...

І нарэшце выбухнуў.

О, як бегалі ягоныя зрэнкі, як бліскалі вочы! Як сутаргава сціскаў ён кулакі! Ён задыхаўся.

— Ты... ты... сабака! Вінапіўца! Варвар! Павук-крывасмок! Бурдзюк поскудзі, чарвяк! Чаго ты лезеш, агідны вылюдак, разважаць пра тое, чаго не разумееш?! Багі несмяротныя! Да якое ганьбы дажыўся я, калі мушу зважаць на гандлярскі болбат пра славу? Быццам ён хоць штосьці там ведае пра славу, вечнасць, неўміручасць...

Паэт ужо не глядзеў на гаспадара, а толькі горка гаварыў да кагосьці нябачнага:

— Слава... Неўміручасць... Бачаць багі, што я варты іх не меней, чым Гамер і Піндар... І толькі падкопы гнюсотных зайздроснікаў і неразуменне тупой смердзі... Толькі праз гэта я і гібею ў невядомасці... Дакуль жа, о багі, я жыцьму падачкамі дурняў і слухаць буду казані невукаў? (Паварочваецца да гаспадара і зноў заводзіцца.) Накшталт вось гэтай тлустай пачвары... Дакуль, о багі мае, будзеце вы багаволіць такім вось пацяробкам, нявартым лізаць тло каля вашых сандаляў і абыходзіць міласцінай адданых вам служак?..

Надышлося выбухнуць і гаспадару.

— Сам ты сабака! — залямантаваў ён.— Раб! Брудны абадранец без роду і племя! Як важышся несці агуду на мяне ў маім доме?! За маім гасцінным сталом! Кыш з маёй хаты, смурод! Эй, слугі, рабы!.. Вазьміце гэтага нахрапу! Выкіньце яго за парог!

Панабегла слуг, яны мітусіліся, хваляваліся, круцілі паэту рукі за спіну і з крыкамі, паддаючы няшчаснаму выспяткаў і грымакоў, папёрлі да дзвярэй з імпэтам, запалам і шчырай радасцю рабоў, якім дазволілі паздзекавацца з вольнага.

Калі аціх шум у дворыку, Падарожнік асцярожна спытаўся у гаспадара:

— Ці не лішне сурова пакараў ты небараку Герастрата?

Тоўсты насупіў бровы:

— Герастрата?! Ты, мабыць, нешта пераблытаў, шаноўны... Прычым тут гэты паэцік? Герастрат — гэта я.

Удар доўбняй з-за вугла меней бы ўразіў Падарожніка, чым гэтыя словы. Зямля папаўзла з-пад ног.

— Як гэта...— залепятаў ён,— а... а як жа тады яго завуць... гэтага...

— А ты, шаноўны, другім разам у яго ў самога папытайся,— злосна адказаў Герастрат.— Ён вельмі любіць такія пытанні. Ён жа лічыць, што яго імя павінна грымець па ўсёй Айкумене...

Ён злосна засоп і, мусіць, каб патушыць полымя святога гневу ў грудзях, адпіў глыток з пелікі.

Банкетаванне пайшло далей. Развяселены гаспадар балабоніў не перастаючы, хваліўся без ладу, еў і піў за трох.

Падарожнік удзельнічаў у п'янцы неяк машынальна. Ён еў, піў і падтакваў гаспадару, але думаў пра сваё. Усе яго канцэпцыі рухнулі, і ён адчуваў сябе ў бязважкасці. «Як,— думаў ён, пазіраючы на гаспадара,— няўжо гэта і ёсць Герастрат? І гэты жыццярадасны сангвінік, задаволены сабой і ўсім навокал, павінен будзе спаліць храм Артэміды, каб здабыць сабе вечную славу?! Глупства! Можа, у Эфесе ёсць яшчэ адзін Герастрат, і я дарма тут час марную?..»

Падарожнік памкнуўся быў нават устаць і развітацца, але Герастрат заявіў, што Падарожнік — ягоны госць і што калі ён пойдзе, дык да смерці пакрыўдзіць яго, Герастрата, што грэх парушаць такое застолле і што пераначуе Падарожнік, вядома ж, у доме ў Герастрата...

Падарожніку прыйшлося змірыцца і ўвесь астатак дня есці, піць, слухаць ігру на кіфары і п'янае гаспадарова трызненне, у якім не было ні біта карыснай інфармацыі.

Але нарэшце гэтае выпрабаванне закончылася, бо сцямнела і прыйшла пара ўладкоўвацца нанач.

Апоўначы гаспадара дома разбудзіў раб-пасыльны, які прынёс яму нейкае пасланне. Раб не адкрыў свайго імя, ні імя таго, хто паслаў яго, а ніз твару прыкрываў плашчом. Перадаўшы васковыя дошчачкі Герастрату, раб тут жа згінуў у начным змроку.

Устрывожаны Герастрат, пераміnaючыся босымі нагамі на ўжо астылай мазаічнай падлозе дворыка, сваімі рукамі запаліў свяцільню на трыногзе і, запінаючыся, пачаў уголас разбіраць пісьмо:

«Даношу табе... найшаноўнейшы Герастрат, што... чалавек... якога ты прымаеш у доме госцем... на самай справе... шпіён... жрэцкай калегіі, падасланы... да цябе... каб праверыць чуткі пра твае... махлярствы... з будаўнічымі матэрыяламі і накладнымі...»

Дошчачкі выслізнулі з рук пабялелага Герастрата і з трэскам упалі на падлогу. Сам ён, заломваючы рукі, пачаў кідацца па дворыку, мармытаць нешта невыразнае, выкрыкваючы ўголас:

— О багі, я прапаў! Калі жрэцкая калегія дакапаецца — абвінаваціць у святакрадстве, а за гэта — смерць... Дык вось чаму ён усё пра храм выпытваў!.. Памажы мне, бессмяротная Артэміда, уратуй і выбаві... Зрэшты, што ж гэта я? Я ж яе і абакраў — з якой рацыі яна мяне ратаваць будзе? Вось яна, кара багоў!.. Бо ўсе ж тут, усе...

Золата на свяцільні было пастаўлена? Было! Дзе яно? Тут! А ў храме свяцільні медныя з пазалотай... Высакародная кедравая, сандалавая і чырвоная драўніна была адпушчана? Была! Дзе яна? Тут, у маім доме, а ў храме — простая хвоя... Карынфскі мармур быў куплены на аздобку? Быў! Дзе ён? Тут, о багі, у маім доме! А ў храме... О багі мае багі, я прапаў! Пракляты будзь злашчасны гэты дзень, я жах смяротны загадзя ўжо бачу, злавесны бачу цень... Што рабіць?!

З хвіліну ён стаяў, не ведаючы, на што адважыцца, потым у адзін скок сігануў да мура, выхапіў паходню, што тырчала з меднага кальца, запаліў яе ад свяцільні і стрымгалоў кінуўся з дома.

Падарожнік у часе спаў у сваім андроне неспакойна. Яго дацінaлі блохі і сумненні. Яму мроіліся галасы за сцяной і трывожылі нядобрыя прадчуванні. Таму калі начную цемру разарвалі званы і пачуўся нечы лямант, ён зусім не здзівіўся.

— Храм! — пранізала мазгі маланка-думка.— Няўжо?! Ужо?!

Схапіўшы сваю вопратку, ён куляй вылецеў з пакоя.

Храм Артэміды Эфескай палаў. Гул агню зліваўся з гулам званоў і з лямантам натоўпу. Барвовыя сполахі леглі на горад, густы дым валіў у чорнае неба да халодных зорак.

Задыханы Падарожнік у часе у сяк-так насунутай вопратцы ўварваўся ў натоўп, перабягаў ад адной купкі разгубленых людзей да другой, шукаючы Герастрата.

Нечакана ён натыкнуўся на знаёмага яму худога паэта і застыў, уражаны выглядам яго твару. Паэт стаяў, абыякава склаўшы рукі на грудзях. Ён глядзеў на полымя, і па губах яго змяілася зласлівая, пагардлівая ўсмешка. Ён быў адзін абсалютна спакойны чалавек сярод усяго згелку.

Падарожнік, невядома чаму, адчуў раптам нейкую незразумелую няёмкасць. Ён замітусіўся каля паэта, спрабуючы звярнуць ягоную ўвагу, і нават злёгку пакашляў, а калі ўсё гэта не дало ніякай карысці, не знайшоў нічога лепшага, як сказаць:

— Няблага гарыць, га?..

Паэт кінуў на яго пагардлівы позірк і зноў павярнуўся да пажару. Падарожнік зусім сумеўся і не ведаў, што яму рабіць, але тут крыкі ўзмацніліся, і натоўп захваляваўся.

— Вядуць... Вядуць...— пачуліся галасы.— Падпальшчыка злавілі! Вядуць...

Натоўп памкнуўся наперад, потым хваляй адкаціўся назад,

Афармленне Канстанціна ВАШЧАНКІ



разамкнуўся, і на асветленае месца, непадалёк ад паэта і Падарожніка, група стражнікаў у шлемах вывалакла Герастрата. Глядзеўся Герастрат не дужа каб — вопратка падраная і ўся ў сажы, рукі абпалены, твар падрапаны, а пад вокам сіняк.

Падарожнік кінуўся наперад.

— Герастрат! — закрычаў ён.— Вар'ят! Навошта ты гэта зрабіў?

Герастрат уздрыгнуў і адхіснуўся, на імгненне засланіўшы вочы рукамі. Потым рэзка адвёў рукі ад твару, выпрастаўся і кінуў на Падарожніка злосны позірк.

— Не твая справа, праклятая выведнік! З праверкай прыехаў, подлы сікафант! Дык нá табе — можаш выведваць...

— Герастрат, схамяніся, што ты такое кажаш? Клянуся табе ўсімі несмяротнымі багамі, што я не выведнік! Хто напусціў на цябе гэту згубную аблуду?

— Як?! Але ж мне так і напісалі... Багі, няўжо нехта ашукаў мяне?!

І тут Герастратаў позірк упаў на паэта, на пагардлівым твары ў якога свяцілася пераможная ўсмешка, а вочы гарэлі дэманічным агнём трыумфу.

Герастрат усё зразумеў.

Ён натужліва наліўся чырванню, і Падарожніку здалося, што вось-вось на губах у яго выступіць пена. Герастрат зарыкаў нешта неўразумелае і кінуўся на паэта, але вартаўнікі схапілі яго і пачалі супакойваць выспяткамі і аплявухамі, тронкамі мячоў і коп'ямі. Гэта дапамагло, і неўзабаве падпальшчык абмяк і абвіс на руках ў варты, і толькі вочы крынічылі бяссільнай злосцю.

Ён скрыгатаў зубамі.

Паэт фанабэрыста ўсміхаўся.

Падарожнік нічога не разумеў.

— Хто напісаў? Пра што ты гаворыш?

Герастрат не адказваў, а толькі радаваў паэтава сэрца позіркамі, у якіх чыталася дзівосная, бяссільная нянавісць.

Натоўп зноў заварушыўся.

— Ідуць,— пачуліся галасы,— ідуць!

Праз натоўп ішлі пасярэбраныя сівізной старцы і дужыя, паважаныя мужы — айцы горада, жрацы, военачальнікі, суддзі...

Адзін старац выйшаў наперад і, падышоўшы да Герастрата, падняў абедзве рукі, патрабуючы цішыні.

— Адказвай, святататнік,— гнеўна крыкнуў стары, калі натоўп аціх.— Хто ты такі і навошта ўчыніў гэты пачварны акт?

Герастрат кінуў яшчэ адзін бяссільна-люты позірк на паэта, потым абвёў натоўп журботным поглядам, уздыхнуў і нічога не адказаў.

— У імя Зеўса, адказвай! — грозна крыкнуў старац.

Герастрат журботна паглядзеў на яго, разявіў быў рот... і замёр. Здавалася, нейкая незвычайная думка найшла на яго і скаланула ўсю ягоную істоту. Ён стрэліў у паэта імгненным, незразумелым зіркам (паэт перастаў усміхацца і насцярожыўся) і выпрастаўся. Дзіўная перамена адбылася раптам у абліччы Герастрата. Ён як быццам павышэў ростам, жывот уцягнуўся, плечы расправіліся. Вартаўнікі, якія трымалі яго за рукі, мімаволі адступіліся ад яго. Герастрат яшчэ раз абвёў позіркам натоўп гараджан — негацыянтаў, жрацоў, вартаўнікоў, рабоў, маракоў... дзіды, шчыты, аголеныя мячы, чадныя паходні... загадкава паглядзеў на полымя над храмам і, падняўшы ўгору правую руку, загаварыў:

**Добрыя людзі Эфеса, паслухайце ўважліва слова**
**Наканавання — жыццёвы мой крэс неўзабаве настане!**
**Родам я просты, нязнатны, і ў сонмішчы продкаў далёкіх**
**Ты не патрапіш знайсці ні цароў, ні герояў, ды толькі**
**Грэх паўставаць супраць долі, якая мяне абдзяліла**
**Ўдачай, а толькі дала мне багацце і розум практычны.**
**Чашаю поўнай мой дом называлі, у які я гасцінна**
**Многіх эфесцаў шаноўных і знатных на трапезы клікаў.**
**Толькі ўсё гэта спакойна мне жыць не давала ніколі.**
**Грыз мяне тайны мой вораг, нутрыну вярэдзіў і розум.**
**Раб я лядашчы, ахоплены пыхай паганаю, прагнуў**
**Славы ў бяссмерці, такое, как тысячагоддзі гучала**
**Ў вуснах народаў імя маё. «Як жа яе мне дабіцца,**
**Мэты высокай!» — я думаў трывожна ў намогах бясплённых.**
**Каб народжаны быў палкаводцам, філосафам мудрым,**
**Служкаю Апалона альбо красамоўным паэтам,—**
**Іншая справа... А хто я такі! — Невядомы гандляр я...**
**Тут і шапнуў мне ў хвіліну развагі падступніцкі дэман,**
**Што я павінен такое ўчыніць, на што не рашаўся**
**Са смяротных ніхто аніколі. І ў апантаны мой розум**
**Думка прыйшла гэты храм запаліць, каб след свой пакінуць.**
**Так і зрабіў, хоць і ведаў: жыццём заплачу за вычынак.**
**Слава мне найдаражэй! Папытайце ў любога паэта.**

Завуць жа мяне Герастрат. Запомніце добра гэтае імя, добрыя грамадзяне Эфеса, бо не гэтым згарэлым хлявом будзе слаўны ваш горад, а тым, што спаліў яго я.

Здавалася, нават полымя пажару суцішыла свой гул: так ціха зрабілася над плошчай. Натоўп стаяў як паралізаваны, быццам убачыў цёмнага бога, які бясшумна ляцеў над ёю, быццам на імгненне разверзлася брама Вечнасці і прасвятліліся ў ёй невымерныя бездані будучых часоў, і чутная стала размераная хада Гісторыі.

Разяўленыя раты, вылупленыя вочы, электрычны халадок ўздоўж хрыбетніка, іскры з уздыбараных валасоў... Усе разумелі, што зрабіліся сведкамі гістарычнага моманту. Яшчэ хвіліну назад тоўсты Герастрат быў адзін з іх, быў такі самы, як усе, а цяпер у іх на вачах ён абярнуўся асобай гістарычнай. Выйшла з невыказных глыбіняў цёмнага часу багіня Немезіда, тыцнула пальцам — і ў вечнасць пралез прайдзісвет.

Роспачны лямант пралёгся ў цішыні. Крычаў паэт. Падарожнік упершыню ў жыцці ўбачыў, як чалавек па-сапраўднаму рве на сабе валасы.

— А-а-а-а...— крычаў паэт,— о-о!.. Я!.. Гэта ж бо я павінен быў... Гэта ж бо мне...

Ніхто яго не слухаў. Натоўп ужо скінуў з сябе здранцвенне, нарастаў яго пагрозлівы гул. Ускінуліся кулакі, пацягнуліся да Герастрата рукі, і дарма нешта крычалі старэйшыны і стражнікі: ужо не было сілы стрымаць націск натоўпу. Перад самым носам у Падарожніка забліскалі мячы, і ў гэты самы момант успыхнула чырванаватае полымя, пералілося праз увесь спектр і перайшло ў блакітнае. І вось ужо Падарожнік бачыць самога сябе ў падраным гіматыі, адбіткам у люстэрку на сцяне тэмпаральнай камеры. Дыск вяртання зрабіў экстрэннае катапультаванне.

Доўга пасля гэтай гісторыі Падарожнік у часе сумняваўся ў сваёй прафесійнай прыдатнасці. Яму здавалася, што ён ніколі не навучыцца разумець матывы і псіхалогію старажытных. Часам ён думаў, што нічога незвычайнага ў гэтай гісторыі не было, і тады ён любіў цытаваць Эклезіяста:

«І павярнуўся я, і бачыў пад сонцам, што не спрытным дастаецца паспяховы бег, не адважным — перамога, не мудрым — хлеб, і не ў разумных багацце, і не майстрам — добрая прыхільнасць, а час і выпадак усім ім».

Найбольш Падарожніка даймала думка, што ён так і не даведаўся паэтавага імя. Гісторыя ж яго не захавала.

**Пераклаў з рускай**
**Васіль СЁМУХА**



# ЗАЦЯЖНЫ ЦЫКЛОН

**Анатоль КАЗЛОВІЧ**

АДДЗЕЛ меў доўгую, нудную назву: аддзел навукова-тэхнічнай інфармацыі, рацыяналізацыі, патэнтазнаўства. Нягледзячы на гэта, ён быў дружны. Усе пятнаццаць супрацоўнікаў добра ведалі адно аднаго гадоў пяць-дзесяць сумеснай работы, калектыўных паходаў у тэатр, нядзельных паездак у грыбы, рытуальных пасяджэнняў за шклянкай гарбаты ў абедзенны перапынак, а то і ў рабочы час, і з нагоды чарговага дня нараджэння, які адзначаўся калектыўна.

У аддзеле працавалі адзінаццаць жанчын ва ўзросце ад дваццаці двух да сарака гадоў, усе з сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыяй, чатыры мужчыны ва ўзросце ад дваццаці сямі да пяцідзесяці, усе с вышэйшай адукацыяй і ўсе загадчыкі (адзін — аддзела, трое — сектараў).

Супрацоўнікі былі дасціпныя людзі, і прыдумалі свайму аддзелу трохі іншую назву: АНТІРПАМ. Аддзел навукова-тэхнічнай інфармацыі, рацыяналізацыі, патэнтазнаўства, агуркоў, морквы. Справа ў тым, што за аддзелам быў пастаянна замацаваны ўчастак у падшэфным калгасе. Даглядаць, паліваць, збіраць ураджай гародніны — усё гэта вісела на шыі АНТІРПАМ. Каб хутчэй вызваліцца ад надакучлівай нагрузкі і задзейнічаць усіх членаў калектыву, практыкавалі выезды ў калгас па нядзелях усёй калектыўнай масай. Усім дык усім. Начальнікам і падначаленым. Камуністам, камсамольцам і беспартыйным. Сямейным і халастым. Пажылым і маладым. Каб нікому не было крыўдна. Па справядлівасці. У нашым грамадстве ўсе роўныя.

ПАГОДЛІВАЙ нядзельнай раніцай 9 ліпеня ўсе пятнаццаць чалавек сабраліся каля роднага завода, селі ў аўтобус і паехалі ў вёску Дуброўку палоць падшэфныя агуркі. Да Дуброўкі было сорак кіламетраў маляўнічай дарогі па лясах і пагорках. Не ўтрымаўся аддзел перад прыгажосцю прыроды — і палілася песня. Спявалі ўсе аж да самай Дуброўкі. У вёску так і ўехалі з песняй.

Ля сельмага аўтобус спыніўся. Усе пятнаццаць чалавек зайшлі ў магазін. Гэта таксама быў рытуал. Кінуць вокам на прылаўкі, памацаць пінжакі і сукенкі, пагаманіць. У сельмагу стаяў рэзкі пах ад чорных гумавых ботаў, якія тут заўсёды былі ў вялікім дастатку. 9 ліпеня на прылаўку красаваліся лёгкія, спрытныя гумавыя боцікі самых розных колераў. Недарагія: 7 рублёў 65 капеек. Спадабаліся яны аднаму члену калектыву, а іменна: Наталлі Фёдараўне Архіпчык, трыццаці чатырох год, адукацыя вышэйшая, патэнтазнаўца.

Архіпчык прымерала адну пару, карычневыя. Але жанчыны адгаварылі. Лепш вунь тыя, чырвоненькія, весялейшыя яны, дый з курткай у тон будуць. Архіпчык узяла з прылаўка чырвоныя боцікі, таксама прымерала і вырашыла купіць. Жанчыны яе падтрымалі. Пакупніца падышла з боцікамі ў руках да прадаўшчыцы, але тая расказвала тэхнічцы сённяшні сон. Нібыта спусціўся ёй на плячо рыжы павук з кашолачкай. Зірнула яна ў кашолачку, а там кіпы грошай, тоўстыя, зялёненькія...

Цярпліва вычакаўшы, пакуль скончыцца апавяданне пра сон і каментарыі да яго, Архіпчык расплацілася за пакупку і з прыгожымі боцікамі ў руках выйшла на вуліцу. Паступова павыходзілі і астатнія, селі ў аўтобус, паехалі на поле. Песню болей не спявалі.

Ад магазіна да поля дзесяць хвілін язды. За гэты час жанчыны яшчэ раз агледзелі новыя боцікі, сышоўшыся на тым, што пакупка ўдалая, для сельгасработ лепшай і не знайсці. Наталля Архіпчык ужо была наважылася абнавіць боцікі, ды жанчыны не параілі. Дзень сухі, горача ў боціках будзе, кінь на сядзенне, няхай ляжаць пакуль што.

УЗБРОІЎШЫСЯ матыкамі, АНТІРПАМ стаў на агурковыя рады, каб усёй калектыўнай масай хутчэй расквітацца з пустазеллем ды назад у аўтобус і дамоў... На сядзенні аўтобуса ляжалі боцікі. Сонечныя промні адбіваліся ад іх, як ад люстэрка.

Праз паўгадзіны да Наталлі Архіпчык, якая старанна знішчала пустазелле на сваім радзе, падышоў загадчык аддзела. Чалавек гэты быў самы старэйшы па ўзросце і званні, таму кожнае яго слова мела асаблівы сэнс і вагу.

— Наташа, ты купляла сёння боцікі?— Загадчык задаў настолькі недарэчнае для свайго ўзросту і службовага стану пытанне, што Наташа засмяялася весела, зусім дэмакратычна. І, не адказваючы, запыталася:

— Вам спадабаліся, Яўген Яўгенавіч?

— Тады пайшлі да аўтобуса! — з нейкім патаемным сэнсам сказаў загадчык.

Каля аўтобуса Наталля ўбачыла прадаўшчыцу, якая паўгадзіны назад прадала ёй боцікі. Тут жа таптаўся незнаёмы, моцна загарэлы мужчына ў белай кепцы.

— Пакажыце боцікі! — груба загадаў загарэлы.

— Ляжаць... у аўтобусе. А навошта яны вам? — Наталля не магла нічога ўцяміць.

— Давайце сюды! — камандаваў тым часам мужчына.

«Сам вазьмі, хам!» — ледзь не зляцела з языка ў Наталлі, але штосьці прымусіла яе зайсці ў аўтобус, узяць чырвоныя боцікі, падаць іх загарэламу.

Аднак не паспеў ніхто і вокам міргнуць, як боцікі апынуліся ў руках прадаўшчыцы. Яна зазірнула ў адзін, у другі, абмацала рукамі і зараўла прама ў твар Наталлі:

— Дзе грошы, зладзюга?

— Якія грошы? Я вам заплаціла. Сем шэсцьдзесят пяць. Вы што, забыліся?

— Не строй дурніцу з сябе! Аддай грошы! Панаязджаюць тут, крадуць, маць вашу растак...

ТОЕ, што выкрыквала прадаўшчыца, узнавіць на паперы немагчыма, бо самы адборны мат, як вядома, не для друку. Узнаўлю тое, што гаварыў ашаломленай Наталлі загарэлы мужчына:

— У боціках, якія вы купілі, ляжала дзённая выручка магазіна. Семсот рублёў. Аддайце грошы па-добраму. І мы вам даруем.

— Я не бачыла ніякіх грошай,— прашаптала Наталля, ушчэнт дабітая пракурорскім «мы даруем».

— Не аддасцё самі — паедзем па міліцыю.— Мужчына быў не толькі моцна загарэлы, але і дужа ўпэўнены. Ён гаварыў «мы», ківаючы галавой у бок супрацоўнікаў аддзела, што ўсе як адзін сабраліся ля аўтобуса. Мы — значыць грамада. Мы! Гэта гучыць грозна.

— Вярніце грошы! Або мы выклічам міліцыю.

— Вы ў людзей спытайце! — з надзеяй выціснула з сябе Наталля.

Людзі стаялі моўчкі і з цікавасцю чакалі, што будзе далей. Родны АНТІРПАМ на вачах рабіўся чужым. Вакол стаялі ўжо незнаёмыя людзі. Начальнікі і падначаленыя. Камуністы, камсамольцы і беспартыйныя. Сямейныя і халастыя. Пажылыя і маладыя. Усе — чужыя.

— Зладзейка, аддай грошы, маць тваю...— гарланіла і мацюкалася прадаўшчыца.

— Яўген Яўгенавіч! — пачала прасіцца Наталля.— Вы ж мяне сем гадоў ведаеце...

— Нічога я не ведаю,— адрэзаў загадчык.

— Аддавайце грошы. Або мы выклічам міліцыю! — паўтарыў загарэлы, націскаючы на слова «мы».

— Выклікайце! — заплакала Наталля.

Загарэлы даў каманду загадчыку: Наталлю Архіпчык ізаляваць у аўтобусе, астатнім працаваць на полі, нікому нікуды не адлучацца, а сам пабег з поля. Следам за ім патрусіла і прадаўшчыца.

У АЎТОБУСЕ, або ў ізаляцыі, Наталля Архіпчык прасядзела адну гадзіну. Гэта была самая страшная гадзіна ў яе жыцці. Ніяк не магла яна зразумець, чаму з такой упэўненасцю загарэлы і прадаўшчыца патрабавалі міфічныя для яе грошы, чаму Яўген Яўгенавіч — заўсёды такі незалежны і самастойны чалавек — пакорліва, без ніякіх пытанняў, стрымгалоў кінуўся выконваць распараджэнні загарэлага. Страх апанаваў яе за сваіх людзей, за ўсіх чатырнаццаць чалавек, якія, кожны на сваім радзе, моўчкі палолі агуркі, зрэдку пазіраючы на аўтобус, на яе турму. Упершыню ў свае трыццаць чатыры гады Наталля Архіпчык убачыла маленькіх людзей, гэта былі яе саслужыўцы, маленькія, безаблічныя, нікчэмныя чалавечкі. Як хутка яны паверылі ў няпраўду! Яна залівалася слязьмі. Здрада роднага калектыву, адступніцтва знаёмых людзей — гэта прыгнятала, душыла яе. Яна плакала не ад крыўды на пра-

даўшчыцу, а ад страху за сябе. Асуджаная раўнадушным «мы», Наталля сядзела ў турме.

МІЛІЦЫЯ заявілася на поле на жоўтых «Жыгулях». Іх было двое: маўклівы лейтэнант і мужчына з блакітнымі вачыма, у цывільным. Яны не прадставіліся, таму Наталля запомніла толькі іх прыкметы, пра якія паведаміла ў рэдакцыю. Разам з міліцыяй у «Жыгулях» былі загарэлы і прадаўшчыца.

Блакітнавокі запатрабаваў у Наталлі чырвоныя боцікі. Доўга разглядваў іх, абмацваў, зазірнуў усярэдзіну, чамусьці панюхаў і зусім сур'ёзна сказаў:

— Шкада, што грошы не пахнуць!

Паставіў боцікі на сядзенне, прысеў поруч з Наталляй, доўга думаў. Затым павярнуўся ўсім целам да Наталлі і рэзка спытаў:

— Ну як, будзем аддаваць грошы ці не?

А прадаўшчыца толькі і чакала гэтага, каб зноў навaліцца на Наталлю:

— Зладзейка гарадская, аддай грошы!

Наталлі Архіпчык не было чаго аддаваць, акрамя слёз. Зрэшты, і яны скончыліся. Яна акамянела.

Не звяртаючы ніякай увагі на яе стан, Наталлю павезлі на месца «злачынства», у сельмаг. Пакуль ехалі, блакітнавокі некалькі разоў прапаноўваў:

— Аддай — і мы цябе адпусцім.

Тое, што гаварыла прадаўшчыца, зноўтакі ў друку не перадасі.

У СЕЛЬМАГУ стаяў едкі смурод ад гумы. Дзверы замкнулі, павесілі шыльду: «перападлік».

— Пакажы, дзе ты ўзяла боцікі, куды схавала грошы?! — дзелавіта загадаў блакітнавокі.

Наталля адчула, што ў яе слабеюць, падкошваюцца ногі... Яна ўпала. На магазіннай падлозе з ёй здарылася істэрыка. Падрабязнасці яна не памятае. Правал у памяці ад моцнага нервовага ўзрушэння.

Калі Наталля апрытомнела і ёй паведамілі, што грошы знайшліся на табурэтцы, пад пакрывалам, лягчэй не стала. Блакітнавокі прасіў у яе прабачэння, называў нават на «вы». Загарэлы дзесьці знік. Прадаўшчыца лічыла грошы.

Наталля сядзела ў крэсле, бачыла, што адбываецца навокал, а адчувала толькі боль. Ведаеце, як баліць чалавечая душа! Гэта баліць увесь свет, гукі і фарбы яго робяцца непатрэбнымі, пазбаўленымі ўсялякага сэнсу. Свет баліць смяротна — ведаеце гэта, людзі, што пакінулі чалавека ў бядзе?..

Наталля не магла забыцца, як спалохалася сваіх саслужыўцаў, маўклівых, незнаёмых, халодных... А тыя калупаліся на сваіх радах. Памятала — і боль запаўняў усё, што было ў яе жыцці да сённяшняга дня. Памяць — боль ад працы ў АНТІРПАМ.

МІЛІЦЭЙСКІЯ «Жыгулі» падвезлі яе на поле, і яна зноў апынулася сярод свайго калектыву. Усе чатырнаццаць чалавек, кінуўшы матыкі, акружылі Наталлю і дружна радаваліся, што ўсё скончылася добра. З болем слухала яна фразы:

— Ніякіх законаў на іх няма!

— А я была ўпэўнена, што гэта хлусня.

— А прадаўшчыца... вось хто заварыў кашу.

— Дзяўчаты, давайце напішам скаргу!

Прапанова напісаць скаргу на прадаўшчыцу спадабалася ўсім. Дружна селі ў аўтобус і паехалі ў магазін.

Выдаць кнігу скаргаў і прапаноў, як гэта і вядзецца ў гандлі, прадаўшчыца адмовілася. Пачаліся бясконцыя спрэчкі.

— Вы абавязаны выдаць па першым запатрабаванні!

— А вы хто такія?

— Вы за гэта адкажаце!

— Ха, баюся я вас!

— Як ваша прозвішча?

— А якая ваша справа? Ходзяць тут розныя, а потым грошы прападаюць.

О, як аднадушна ўзарваўся калектыў: вы бачылі, яна абвінавачвае нас у крадзяжы! Усіх нас! Яна — нас! Сумленных! Бязвінных! Ды як яна пасмела! Каб мы штосьці ўкралі!.. Каб на нас такое падумаць!.. Што яна сабе дазваляе! Ды мы яе — у міліцыю! За знявагу калектыву! За паклёп на калектыў! У міліцыю яе!

— Ха, міліцыя! — Прадаўшчыца заставалася непераможна нахабнай.— Ды міліцыя мяне паслухаецца, а не вас. Забыліся, як было з гэтай... з вашай!

І толькі цяпер абураная калектыўная маса ўспомніла пра гэтую... пра сваю Наталлю Архіпчык. А дзе ж яна, дзяўчаты? Дзе Наташка — хто бачыў?

НАТАЛЛЯ сядзела ў аўтобусе. Яе трэсла. Забытая раз'юшаным АНТІРПАМ, яна выйшла з магазіна, адчуўшы, што няма моцы бачыць гэтыя твары. Усе мярзотнікі. Усе лжывыя. Крывадушнікі. Яе трэсла ад агіды.

Усю дарогу дамоў яна моўчкі глядзела на прыдарожныя палі і лясы. Чырвоныя боцікі выкінула праз акно.

І ўсю дарогу дамоў калектыў абураўся, пагражаў, біў сябе ў калектыўныя грудзі. Мы — сумленныя. Мы — бязвінныя. Мы — пакрыўджаныя! Мы не даруем.

АНТІРПАМ старанна выводзіў песню калектыўнага эгаізму.

І ніхто не спыніў гэтую жорсткую песню, каб ціха сказаць — апамятацца: а вінаватыя ж мы. Усе мы.

СФАРМУЛЮЮ абвінаваўчае заключэнне: 9 ліпеня на бруднай падлозе магазіна мы растапталі самае каштоўнае, што ёсць у грамадстве,— Чалавечую Годнасць.

Як, пры якіх акалічнасцях магло адбыцца такое злачынства? Зноў вернемся да падзеі 9 ліпеня і на ўсё паглядзім больш падрабязна.

ПРАДАЎШЧЫЦА (Надзея Пятроўна Цымбал) забылася, куды паклала дзённую выручку. У магазіне сейфа не было, грошы хаваліся абы-дзе. Не пажадаўшы паглядзець, пашукаць, прадаўшчыца нарабіла гвалту: укралі! Адзіны магчымы варыянт. Наш гандаль арыентуе сваю няпростую дзейнасць не на пакупніка, а на злодзея. Гэта для злодзея робяць турнікеты і спецыяльныя лініі ў гандлёвай зале, гэта злодзея на кожным кроку сустракаюць, чакаюць напружаныя дзя-



вочыя позіркі. На пакупніка тут нічога не разлічана, на яго ў гандляроў ужо не застаецца сіл, бо іх апошні запас укладзены ў немы крык: укралі!

Хто ўкраў? Тэхнічка прыкінула: напэўна прыезжыя, яны ж тут круціліся, боцікі чырвоныя куплялі.

НА ЎСКРАІНЕ вёскі Дуброўка стаяла некалькі вагончыкаў. Лагер працы і адпачынку аднаго з мінскіх заводаў. Каб штодня не вазіць рабочых у падшэфны калгас, не паліць бензін, завод абсталяваў пастаянны лагер і нават назву яму прыдумаў: «Дружба». Сюды, у лагер, дзе жылі прыезжыя, прыбегла прадаўшчыца са сваім падазрэннем: укралі яны.

Звярніце ўвагу! Прадаўшчыца адразу звярнулася да начальніка лагера Аркадзя Піліпавіча Ульянава, загарэлага мужчыны ў белай кепцы (цэлымі днямі на свежым паветры — таму і загарэў). Прадаўшчыца дакладна ведала, што няма ў нас ніводнага начальніка, які б поўнасцю давяраў сваім падначаленым. Уся наша службовая вертыкаль заснавана на недаверы. Чуеце, як яна хістаецца, як рыпяць яе развінчаныя звёны!..

Начальнік лагера не абурыўся, не абараніў сваіх людзей. Адзіны магчымы варыянт: усе жанчыны лагера «Дружба» былі тэрмінова пастроены. Уздоўж строю чатыры разы прайшла прадаўшчыца, пільна, з найвялікшым падазрэннем прыглядваючыся да твараў. Апазнанне скончылася безвынікова: зладзейкі тут не было.

Загарэлы начальнік і тут не абурыўся, не папрасіў прабачэння ў зняважаных жанчын, не прагнаў прадаўшчыцу прэч. Наадварот, выказаў меркаванне, што грошы мог украсці хто-небудзь з групы, якая толькі што прыехала ў калгас на агуркі.

Падазрэнне, як ліхаманка, ахапіла абаіх, яны паімчаліся на поле, несучы з сабой **эстафету недаверу** да чалавека. Ад камуністаў да камсамольцаў і беспартыйных, а можа, і наадварот — усё роўна. Ад сямейных да халастых, а можа, і ў адваротным парадку — сам чорт тут не разбярэ. Ад пажылых да маладых, а можа, ад маладых да пажылых — хіба не адно і тое ж? Усе мы бяжым, прыняўшы эстафету падазрэння. Імчым наперад з 1937 года. Нясёмся па крузе. Вы ўявілі сабе кругавую эстафету? Вы ўлавілі яе сэнс, людзі?..

ЗАГАДЧЫК АНТІРПАМ Яўген Яўгенавіч Мароз загарам, вядома, не мог зраўняцца з Ульянавым, але ў якасці начальніка ён ні ў чым яму не саступаў. Наталлю Архіпчык загадчык ведаў сем гадоў: добрасумленная, працавітая, настроеная на рамантычны лад маладая кабета, маці дваіх дзяцей. Ці магла яна ўзяць семсот рублёў? А хто яе ведае! Кожнага чорт з панталыку збіць можа. Давайце запытаемся ў яе.

Іншага ходу развагі загадчыка не набылі. Ён не паставіў пад сумненне прапанаваную версію: грошы былі ў боціку, Наталля іх узяла. У які момант і як узяла, калі ўвесь час была навідавоку? І ці здольная яна ўзяць чужыя грошы, калі за сем гадоў нічога дрэннага за ёй не заўважылі?.. Загадчык прыняў эстафету недаверу як належнае. Адзіны магчымы варыянт.

Калі трое падазраюць аднаго — гора аднаму. Тры пары недаверлівых вачэй. Тры брудныя крыніцы, гатовыя затапіць, зганьбаваць чалавечую душу на векі вечныя.

АЛЕ ў чалавека была яшчэ надзея. АНТІРПАМ, толькі ты можаш уратаваць чалавека ад усяленскага болю. Паўстань нязломнай масай-глыбай на шляху бруднай крыніцы. Спыні, адвядзі каламутны паток абраз і лаянкі сваім непахісным, калектыўным: «А МЫ Наташу ведаем!»

Аднак апошняя надзея чалавека патухла. Калектыў вярнуўся да агуркоў. Чалавек з абвінавачанага зрабіўся вінаватым. А такога — у турму. На цэлую гадзіну, што стала роўнай усяму папярэдняму жыццю. А можа, і будучаму.

У турму-аўтобус Наталлю Архіпчык пасадзіў АНТІРПАМ. Без суда і следства калектыў пакараў чалавека. Абыякавасць калектыву — гэта самая жыватворная сфера, дзе недавер выспявае ў паклёп.

МІЛІЦЫІ заставаўся толькі адзін варыянт — ісці ўслед за логікай калектыўнага «мы». А як жа інакш, калі міліцыя служыць калектыву, грамадству? Агульныя інтарэсы вышэй за ўсё.

Звярніце ўвагу! Калі я запытаўся ў маўклівага лейтэнанта (участковага Валерыя Васільевіча Бандарчыка), як завуць жанчыну, якую ён падазраваў у крадзяжы, ён коратка адказаў: «Не ведаю». Яго блакітнавокі калега (аператыўны ўпаўнаважаны райаддзела міліцыі Валянцін Іванавіч Глінка) таксама не ведаў імені чалавека, якога сваім допытам давёў да непрытомнасці. Ён дапытваў, прадаўшчыца крыла матам. Аб'ядналіся агульнай мэтай — узвесці паклёп на чалавека, пра якога абсалютна нічога не ведалі, акрамя таго, што ён «злодзей». Адным махам растаптаць асобу, не жадаючы глянуць на яе папярэдні сацыяльны шлях.

Міліцыя папрасіла прабачэння. І супакоілася. Забылася. Нічога не здарылася, таварыш карэспандэнт, ці варта было вам прыязджаць! Няўжо ў вас няма больш важных спраў?

Праз тыдзень міліцыя мяне пераконвала, што ў здарэнні ў Дуброўцы складу злачынства няма, паколькі грошы знайшліся. Значыць, няма і самога здарэння. Значыць, запісваць гэты факт у спецыяльна заведзены журнал няма патрэбы. Нічога ж не здарылася.

Запіс у міліцэйскім талмудзе з'явіўся, як кажуць, заднім днём, з выпадку майго прыезду. Участковы і оперупаўнаважаны нават склалі рапарт пра здарэнне ў вёсцы Дуброўка. Абодва напісалі: «дзяўчына».

Паколькі рапарты склалі і адпаведны запіс у журнале зрабілі, значыць прызналі: здарэнне ў Дуброўцы было. Будзённае. І тым страшнае.

СОНЕЧНЫ дзень 9 ліпеня завяршыўся чорнай навалай культу недаверу — у гэтым і заключаецца сэнс кругавой эстафеты, гэтага разбуральнага цыклону з эпіцэнтрам у падазронай душы. У гэтым каламутным віры — людзі, грошы, міліцэйскія «Жыгулі», чырвоныя боцікі, слёзы, бруд...

Што ж нам рабіць, людзі?

Як вызваліцца нам ад цэнтраімклівай сілы, што вынішчае Чалавечую Годнасць?

Наталля Архіпчык звольнілася з АНТІРПАМ.

А ў Дуброўцы так і ходзіць з хаты ў хату, ад чалавека да чалавека брыдкая чутка: прыезжыя шэфы — зладзеі, у магазіне ўкралі грошы. І ніхто не пратэстуе. У грамадскай свядомасці пануе недавер. Зацяжны цыклон. Вы адчуваеце яго смяротны подых?..

Я быў наважыўся зайсці ў дуброўскі магазін, ды ў апошні момант штосьці перашкодзіла. Той самы подых! А раптам што-небудзь мне спадабалася б у магазіне: боты, чаравікі, а можа, шкарпэткі... Купіш. А потым з'явіцца да цябе запыханы ад кругавой эстафеты паклёпу мужчына, можа, загарэлы, а можа, блакітнавокі, і запатрабуе: аддай грошы, злодзей! І што ж тады, застанешся сам-насам з цэлым светам і будзеш крычаць: паверце мне, людзі? Ніхто не пачуе цябе ў завыванні цыклону.

Лепш хадзіць босым.

ГУМАР



Мал. Алега ПАПОВА

Сяргей АЛЯКСАНДРАЎ

# РАСКАРДАШ

Аднае раніцы не паспела і сонца ўзысці, а ўжо ўсіх разбудзілі. Крык, гвалт, раскардаш у мурашніку. Навіна прыйшла, кажуць, страказа прынесла. Вельмі важная навіна, а вось якая — паспрабуй разбярыся, адны плёткі. З такой нагоды, каб памылкі не выйшла, усе справы адклалі, ніхто за працу не ўзяўся. У самай глыбокай пячоры сабраліся і чакаюць, пакуль праясніцца.

І праяснілася. Самы галоўны выйшаў у круг, адкланяўся і аб'явіў:

— Хопіць грамадою па-дурному завіхацца. З гэтага дня кожнаму мурашу — па асобным мурашніку!

А ў адказ цішыня, збянтэжанасць. Надта ўжо незвычайная справа задумана. Вось адзін і сказаў:

— Што ж гэта такое? Спачатку нас сілаю зганялі...

Галоўны пакрыўдзіўся, голас павысіў:

— Ну, па-першае, не вас, а дзядоў і прадзедаў вашых... аб'ядналі. А па-другое, вам самім насустрач ідзём. Вось я раней скажу: «Прынесці мне іголак яловых!» — і вы пабеглі старацца. А кожны ведае, што іголак навалам, што без жалудовага алею мы задыхаемся. Альбо іншыя прыклады... Але я адхіляюся! Гэта ў мінулым ужо, а цяпер кожны ў сваім асобным мурашніку сам сабе пан, што хоча, тое і робіць...

І гэтак далей. Доўга ім галоўны ўсё тлумачыў, вучыў-павучаў. Мурашы згаджаліся, ды толькі... Дзіўна выходзіць! Не прывыклі мурашы, каб іх галоўны што-небудзь слушнае казаў. Ці няма тут якога ашуканства?

А галоўны зусім ужо разышоўся, крычыць:

— Я вам цяпер не ўказка! Разыходзьцеся, працуйце, даражэнькія!

А з задніх радоў:

— Дык што, разбяром мурашнік на часткі?

— Не, захаваем як помнік безгаспадарчасці. І нават больш таго: мы ў ім музей атэізму зладзім.

І затужылі многія. Адчуваць суседаў локаць прывыклі, па калектыве нудзяцца. Грамадою, ведама ж, лацвей: сёння адзін на працу не з'явіцца, а заўтра другі, але ўвогуле карціна выходзіць досыць прыстойная. Ну, а калі адзін у чыстым полі, гэта значыць у асобным мурашніку? І сумняваюцца многія.

Ну, а галоўны ім:

— І апошняе. Марудзіць будзем — гора настане вялікае. Прыляціць раптам страказа, а ў нас не гатова!

Рабіць няма чаго. Распаўзліся мурашы, мегаполіс закінулі. Вырыў кожны сабе мурашнік які хацеў, стаў на свой густ прыпасы шукаць ды складваць. Тыя, хто працейшыя былі, сябе не шкадуючы, стараюцца і, трэба прызнацца, з поспехам дужа вялікім. Вось толькі крыўдна, што небагата гэткіх знайшлося. Астатнія — тыя больш дзеля выгляду завіхаюцца, а самі гадаюць: а мо выйшла якоесьці непаразуменне? Раптам — так і чакай — страказа наляціць, непаразуменне адменіць і зноў усіх гвалтам у мурашнік загоніць? Дык ці ж варта жылы рваць, ці ж не лепей расслабіцца?! І расслабляюцца.

Ну, а былы галоўны ходзіць паміж іх, галавою круціць, прыкмячае: недарод, непарадак, куды ні глянь. Усім іншым добра, а яму як? Страказа прыляціць і да яго будзе прэтэнзію мець. Па канчатковым выніку! Так што наблага было б да ранейшых, прывычных памылак вярнуцца, чым у навамодных пражэктах блукаць, разбірацца!

Вось такі раскардаш выйшаў.

Пераклаў з рускай Алесь ЖГІРОЎСКІ

# ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

**— Мне 16 гадоў, я вучуся на I курсе педвучылішча (будучы настаўнік пачатковых класаў). Люблю музыку, іграю на акардэоне, пішу вершы.**

**220101, г. Мінск, пр. Ракасоўскага, 170, кв. 279. Паўлавец Алена.**

— Запрашаю да перапіскі тых, хто цікавіцца беларускай гісторыяй і хоча больш ведаць пра мінулае. Мне 23 гады, я член клуба па вывучэнні гісторыі Беларусі.

220093, г. Мінск, вул. Д. Сердзіча, 62, кв. 91. Дудар Аляксандр.

**— Мне 16 гадоў. Хачу пазнаёміцца з аднагодкам, які разумее музыку «heavy metal».**

**223710, Мінская вобл., г. Салігорск, вул. Паркавая, 12, кв. 4. Каваленя Георгій.**

— Мне 16 гадоў, захапляюся сучаснай музыкай. Хачу мець блізкага таварыша, свайго равесніка.

2—805, г. Бабруйск, зав. Парыжскай Камуны, 55. Ігар.

**— Мне 25 гадоў, але пакуль адзінокая. Скончыла ГПТВ, працую на заводзе ў г. Мазыры, жыву ў інтэрнаце. Захапляюся эстраднай музыкай, вельмі люблю паэзію. Мару пра чалавека, які пажадае звязаць са мною лёс. НІНА.**

— Мне 30 гадоў, з мужам разышлася, маю дачку 8-мі гадоў. Хачу пазнаёміцца з добрым, які не п'е, чалавекам. ВОЛЬГА.

**— Мне 37 гадоў. У жыцці атрымлівала адзін удар за другім, а падтрымаць мяне няма каму, сяброў не маю. Боль і безвыходнасць прымусілі напісаць вам. Мне жорстка здрадзіў самы дарагі чалавек, засталася з грудным дзіцём на руках. Вельмі хочацца знайсці сябра, які б памог перажыць гэта. ТАМАРА.**

— Мне 23 гады, з самых ранніх гадоў заўсёды была адна. Хочацца мець сяброў, з якімі можна пагаварыць пра ўсё на свеце. Вельмі люблю сучасную музыку, калекцыяніруючы запісы, збіраю песні з індыйскіх кінафільмаў, з увагаю стаўлюся да творчасці Высоцкага, Разэнбаўма, люблю фатаграфаваць. ЛІДА.

СЁЕ-ТОЕ ПРА ЛІСТЫ

Святлана БАРТОХАВА

# МАСКА, ХТО ТЫ?..

На жаль, усе мы добра ведаем, што такое ананімка. Немагчыма падлічыць тую маральную шкоду, якую нанеслі нашаму грамадству розныя «добразычліўцы», «групы таварышаў», «барацьбіты за праўду» і іншыя «чорныя маскі», якія паклёнічалі на ўсіх, хто ім не падабаўся, стваралі атмасферу нервознасці і падазронасці.

Здавалася б, часы ананімных лістоў прайшлі, бо атмасфера галоснасці дае магчымасць кожнаму з нас быць пачутым і, значыцца, зразуметым, незалежна ад таго, ці супадае наша асабістая думка з думкаю большасці. Здавалася б, сама з'ява ананімнасці павінна стаць ледзь не музейным экспанатам, перажыткам мінулага. Здавалася б... Аднак, як сведчыць рэдакцыйная пошта, благія звычкі не так хутка знікаюць з нашага жыцця. Асабліва насцярожвае тое, што, маркуючы па почырках і манеры выкладу, абсалютная большасць «масак» — зусім маладыя людзі.

Адно юнае стварэнне, палюбіўшы моднага спевака арганізавала «грамадскую думку»: маўляў, розныя слаі насельніцтва востра жадаюць убачыць на старонках «Крыніцы» фатаграфію свайго куміра і, натуральна, атрымаць падрабязную інфармацыю пра яго творчасць і асабістае жыццё. «Маска» напісала шэсць лістоў без зваротнага адраса рознымі чарніламі і з рознымі подпісамі, але, напэўна, праз сваю нявопытнасць на ўсіх аднолькава вузенькіх аркушах яна пісала аднолькавым дзіцячым почыркам і адправіла ананімкі ў аднолькавых канвертах. Сабраныя разам, гэтыя рознакаляровыя опусы выклікаюць сур'ёзную трывогу: а раптам дзіцячая «проба пяра» вырасце ў вялікую спрактыкаванасць у падобных аферах, і ў свеце стане яшчэ на аднаго кваліфікаванага «добразычліўца» больш?..

А вось прыклад другой «грамадскай думкі». Тры лісты напісаны адным почыркам, на аднолькавай паперы, укладзены ў аднолькавыя канверты. І патрабаванні ва ўсіх трох ананімках аднолькавыя: узняць пытанне аб адмене абавязковай службы ў Савецкай Арміі. Адзінае, што адрознівае лісты адзін ад аднаго,— гэта зноў жа колер чарніл і выдуманыя подпісы, якія дэманструюць, паводле задумы аўтара, «голас народны», думку прадстаўнікоў трох пакаленняў.

Бяру с пульхнай папкі з ананімкамі яшчэ адно пасланне. У ім выказваюцца папрокі за патуранне непатрабавальнаму густу, за імкненне рэдакцыі «Крыніцы» зааваяваць танную папулярнасць у чытачоў і г. д. Заканчваецца ліст выклікам (захоўваю стыль і пунктуацыю аўтара): «Специально не указываю свой адрес, боюсь что вы органичитесь отпиской по адресу, а мне бы хотелось, чтобы вы ответили на страницах журнала, если вы конечно не побоитесь дискуссии. Ну, а если вы не захотите выносить сор из избы, что ж это дело вашей совести».

Спадзяюся, наш ананімны карэспандэнт уважліва чытае «Крыніцу», таму звяртаюся асабіста да яго.

Паважаны чытач, раз ужо Вы загаварылі пра сумленне, давайце расставім кропкі над «і». Ці не здаецца Вам, што спосаб дыскусіі выбраны, мякка кажучы, не зусім карэктны? Раз ужо Вы рашыліся крытыкаваць, дык рабіце гэта захоўваючы элементарныя правілы прыстойнасці: здыміце маску, пакажыце свой твар. У нас няма вопыту кантакту з «духамі», дый адказваць у пустэчу — занятак няўдзячны. Калі дыскусіраваць, дык на роўных і паважаючы адно аднаго, а не наносячы ўдары з-за вугла.

Я зусім не збіраюся рабіць зараз падрабязны агляд ананімных пасланняў, так што няхай пакінуць надзею на гэта іх шматлікія аўтары. Ад імя супрацоўнікаў «Крыніцы» як рэдактар аддзела лістоў і масавай работы папярэджваю нашых магчымых карэспандэнтаў, што ўсякая ананімка, нават праўдзівая і зусім бяскрыўдная, будзе расцэньвацца як факт грамадзянскай заганнасці яе аўтара, а таксама як непавага да часопіса і яго чытачоў. Таму мы адмаўляемся цытаваць або якімсьці іншым чынам рэагаваць на падобныя творы. «Крыніца» гатовая прыняць любы выклік, уступіць у любую дыскусію, прыслухацца да любой думкі — але пры той адзінай умове, што ўдзельнікі ў нас будуць сумленныя. Кожны з нас быў прадстаўлены чытачам на старонках часопіса, каб вы ведалі, з кім маеце справу. Са свайго боку мы таксама хочам ведаць, хто нас чытае і ўступае з намі ў дыялог. Калі аўтар ліста з якойсьці прычыны не пажадае, каб у «Крыніцы» называлі яго імя і месца жыхарства, ён можа папярэдзіць аб гэтым рэдакцыю, і тайна будзе захавана. Давайце ж кантактаваць з адкрытымі тварамі, інакш усе намаганні на шляху да ісціны будуць марныя.

КАНФЛІКТНАЯ СІТУАЦЫЯ

Юрый УЛАДЗІН

# «ЭСКАДРОН ГУСАР ЛЯТУЧЫХ...»,

## або ФАКТЫ І ДУМКІ З НАГОДЫ СУМНАГА ЛЁСУ МАЛАДЗЁЖНАГА КЛУБА

...Сышліся, як звычайна, пад мостам. Разам з прыцемкамі на горад апусцілася зябкая смуга, і малодшыя бясконца пацепваліся, натапырыўшыся і запусціўшы рукі ў кішэні куртак. Нарэшце з'явіўся на павароце аўтобус. «Хадзем»,— кінуў Стас і першы пераступіў мяжу ценю і святла, падышоўшы да стаянкі, дзе тупалі рэдкія пасажыры.

Ехалі, насуперак звычаю, моўчкі, толькі зрэдку перакідваючыся малазразумелымі лічаным спадарожнікам фразамі. І гэтак жа непрыкметна, як з'явіліся, гэтыя шасцёра сышлі з прыгараднага аўтобуса і растварыліся ў цемрадзі. Стас вёў упэўнена, раз-пораз азіраючыся і пагрозліва цыкаючы на хруст ламачча або пачатую кімсьці сварку...

Вось ён замёр і, прыслухоўваючыся, узняў руку... У цішыні ўлоўліваліся нейкае пабразгванне і мерныя шорахі, падобныя на шапаценне старонак вялізнай кнігі. Звыклыя да цемры вочы бачылі наперадзе, за кустамі, чорныя плямы — тыя пакалыхваліся. «Стаяць тут»,— прыглушана загадаў верхавод і, крадучыся, рушыў у абыход кустоўя. Хвілін праз пяць яны пачулі: «Давай сюды, пацаны!» — і, ужо не клапоцячыся асабліва пра канспірацыю, палезлі напралом праз хвосткія зараснікі. Коні спалохана цісналіся адзін да аднаго вільготнымі бакамі, пільна пазіралі на прышэльцаў. А тыя, не марудзячы, ужо распутвалі ім ногі.

...Пасля поўначы на ўскраіну Мазыра рыссю прыскакаў «эскадрон гусар лятучых». Тут яны хутка спешыліся і без лішніх слоў разбегліся па пустынных завулках. Затрымаўся на пару хвілін толькі адзін, гадоў трынаццаці хлапчук. Дастаўшы з кішэні кавалак булкі, ён скарміў яго свайму чарнагрываму.

Раніцаю ў прыгарадным калгасе недалічыліся сямі коней.

...Ні імёны, ні даты, ні найменні гаспадарак называць тут няма сэнсу, хоць у «аналах» мазырскай міліцыі такой інфармацыі аж занадта. Бо да нядаўняга часу падлеткавае канакрадства было ў раёне сапраўднай бядою.

Што толькі ні рабілі: рэйды, засады...

Намеснік начальніка ГРАУС Іван Кірылавіч Пазняк вынаходлівасцю канакрадаў-падлеткаў быў проста азадачаны.

— Пабілі калгасных конюхаў — прыйшлося завесці крымінальную справу. У выніку — чацвёра асуджаны.

І вось параўнальна нядаўна, а дакладней год назад, супрацоўнікі раённай міліцыі ўздыхнулі, нарэшце, з палёгкаю. «Знайшлася, здаецца, справа нашым свавольнікам: маладзёжны клуб коннага турызму. Малайцы камсамольцы, выдатна прыдумалі. Арганізавалі, не паленаваліся...»

Але радасць, на жаль, была нядоўгая. Клуб, не паспеўшы заявіць пра сябе на поўны голас, распаўся. Зрэшты, сёе-тое хлопцы зрабіць усё ж паспелі: давялі да ладу канюшню на эксперыментальнай базе «Крынічная», даглядалі коней, якіх выдзелілі клубу гаспадаркі раёна, каталі верхам на конях і на брычцы дзятву ў горадзе...

Сёння клуба няма. Закрыты рашэннем райвыканкома. Выпускнік мясцовага педінстытута Віталь Падлінскі, які ўзначаліў колісь падлеткаў, з сумам згадвае першыя крокі клуба:

— Дамовіліся з дырэктарам «Крынічнай», што аддасць нам старую канюшню. Ягор Іванавіч Кавалёў, і праўда, не падвёў. А колькі падлеткаў хацелі стаць членамі клуба! Школьнікі з навакольных вёсак, хлопцы з мясцовага прафтэхвучылішча... Гарадскі і раённы выканкомы справу нашую ўзаконілі. Выдзелілі клубу сродкі, коней, вызначылі штаты. Дырэктара запрасілі з Гомеля — разрадніка па конным спорце Віктара Гарбачова.

Словам, усё ішло, здавалася, без якіхсьці істотных складанасцей. А тым часам праблем хапала — то з будаўнічымі матэрыяламі няўвязка, то ўпрэцца перад якой-небудзь драбніцаю кабінетны перастрахоўшчык, то бацькі якога з пацаноў з'явяцца начакана з «інспекцыяй»: маўляў, дзе ён там прападае і чым такім займаецца?..

А тут яшчэ жыхары Акулінкі, мясцовай вёсачкі, захваляваліся перад нашэсцем спрытных хлапчукоў, якім, вядома, не дужа былі ўласцівыя рахманасць і вытанчаныя манеры. «Уратуйце нас ад гэтых канакрадаў!» Але самым брыдкім было тое, што з «Крынічнай» і суседніх гаспадарак сапраўды, здаралася яшчэ, зніклі коні.

Прыйшлося задумацца над пераносам базы клуба бліжэй да Мазыра. І месца было знойдзена — старая ферма калгаса «Радзіма», што знаходзіцца ледзь не ў гарадской мяжы. Туды і перабраліся.

Клуб у перспектыве павінен быў перайсці на самаакупнасць, і часткова гэтая задума пачала ўжо ўвасабляцца: дзесьці ў Гомельскім раёне Падлінскі раздабыў тачанку, на якой яго падапечныя за невялікую плату каталі мазырскіх дзяцей. Папаўняў казну і клубны мастак на стаўцы, які браў у горадзе заказы на работы па мастацкім афармленні. Узялі «коннікі» пад сваё крыло гарадскую секцыю дэльтапланерыстаў, рок-гурт «Адлюстраванне». Меркавалі пабудаваць свой невялікі іпадром, а ў вёсцы Мірабель, што за 12 кіламетраў ад горада,— філіял клуба, каб арганізоўваць двухдзённыя паходы выхаднога дня ў маляўнічую пойму Прыпяці. Так што клуб, які задумваўся спачатку як процівага канакрадству, паступова рабіўся ядром гарадскога маладзёжнага цэнтра. Падкрэсліваю: менавіта маладзёжнага, таму што хінуўся ён усё ж больш да Мазыра. Але ў гаркоме камсамола, хоць і разумелі гэта, ставіліся да клуба як да «прыёмнага дзіцяці». І хоць ад дапамогі не ўхіляліся, асаблівага ўдзелу ў жыцці клуба не бралі. Досыць абыякава паставіліся да пачынанняў моладзі ў «вышэйшых эшалонах» гарадской і раённай улады: «Так, падлеткі нашыя, але коней жа ў вас крадуць...»

Сродкі на стварэнне клуба былі, штаты — ажно восем чалавек — зацверджаны і, у асноўным, укамплектаваны, з коньмі — пытанне вырашанае...

— Будаваць не было каму,— тлумачыць «правал установы» Анатоль Соладаў, першы сакратар гаркома камсамола.

Можа скласціся ўражанне, нібыта храм белакаменны задумваўся. Невялікі студатрад з Мазырскага педінстытута, мяркуем, спакойна справіўся б і з рэканструкцыяй для клуба школы-васьмігодкі ў Акулінцы, і з будоўляю з гатовых матэрыялаў базы адпачынку ў Мірабелі. Да таго ж СПТВ-68, чые выхаванцы складалі ледзь не палову членаў клуба, рыхтуе не каго-небудзь, а будаўнікоў.

«Падлінскі не той чалавек аказаўся»,— чуў я ледзь не ад кожнага, з кім размаўляў пра сумны лёс клуба.

«Не ў меру распыляўся, пражэкцёрстваваў. Чаго толькі ні прапаноўваў: і рэчку ў Мірабелі запрудзіць — разводзіць рыбу, і атэлье маладзёжнай моды пад эгідай клуба адкрыць...» — казалі адны. «Падладжваўся пад падлеткаў, на панібрацтве адносіны будаваў. Уяўляеце, яны да яго на «ты» звярталіся...» — абураліся другія. «Надта ўжо спрытны быў: у дзверы не пройдзе — у акно ўлезе»,— заўважалі трэція. І толькі пятнаццацігадовы Толя Шалапенка сказаў добрае слова пра былога лідэра: «Ніколі не лаяў нас, давяраў ва ўсім. Мы ставіліся да яго як да таварыша — ён жа ўсюды, у любой рабоце з намі быў. І кармушкі скалочваў, і гной выносіў, і коней чысціў».

Калі б не ён, Падлінскі, і дагэтуль, магчыма, не ведалі б у раёне іншае «ўправы» на канакрадаў, апроч як хітрамудрыя міліцэйскія засады і ментарскія ўшчуванні... А вось паправіць маладога настаўніка, калі той у чымсьці памыляўся, падшукаць яму ў дапамогу чалавека... На гэта энтузіязму не хапіла ні ў кога...

Дык што ж — пахаваны клуб?..

— Пахаваны, — канстатуе Іван Губчык. Зрэшты, першы сакратар райкома камсамола, здаецца, не ў дужа вялікай роспачы.— Раз горад не хоча дапамагаць — набяром у клуб вясковых хлопцаў. І будзем займацца на базе «Крынічнай». Ну і, можа быць, возьмем з горада самых актыўных.

«Самых актыўных» — гэта, трэба разумець, самых прыкладных. У той час як ва ўвазе маюць патрэбу якраз тыя, хто «на левым фланзе». Толькі яны ж — «не нашы».

...Перад ад'ездам з Мазыра сустрэў загадчыка арганізацыйнага аддзела райкома Толю Аляксандрэнкава.

— Быў учора ў калгасе «Серп і Молат»,— сказаў той, ведаючы мэту камандзіроўкі.— Зноў укралі ў іх коней...

Фота Аляксандра ГАНЧУКА

Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, Леанід КАЗЛОЎСКІ

# ГРАЦЫІ І МЕТАЛ

Школа атлетызму

З гэтага нумара мы пачынаем публікацыю матэрыялаў па атлетызму для нашых чытачак. Прыгожую, статную постаць, лёгкую паходку можна не толькі атрымаць ад прыроды, але і стварыць сваімі рукамі. Гэтаксама ж, як і сапсаваць прыродны дар.

Што ўключае атлетызм для дзяўчат, жанчын? Гэта сістэма практыкаванняў, накіраваная на ўмацаванне здароўя, выпраўленне дысгармоніі адсталых груп мышцаў. Будзем шчырыя, зазвычай у нас благая талія, псуе настрой друзласць ног і многае яшчэ. І калі вы маеце сапраўднае жаданне што-небудзь выправіць, прыступайце да трэніровак.

Не трэба абагульняць жаночы атлетызм з прафесіяналізмам культурыстак, як сродкам для існавання. Не ставіцца намі і мэта падрыхтоўкі спартсменак для спаборніцтваў. Вяршынь майстэрства дасягаюць адзінкі, а прыгожыя павінны быць усе. Сістэма атлетычных практыкаванняў дазволіць па неабходнасці павялічыць аб'ёмы пэўных груп мышцаў ці забяспечыць прапрацоўку цела без павелічэння памераў (напрыклад, дасягнуць пругкасці мышцаў жывата).

Умоўна падзелім усіх жадаючых займацца атлетызмам на дзве групы. Большая — тыя, хто пакуль што не наведвае клубы атлетыкі. І меншая, на жаль,— хто ўжо прыступіў да трэніровак або мае магчымасць наведваць такія клубы. У нашых комплексах і рэкамендацыях пастараемся нікога не забыць. Але дасягнуць жаданага выніку можна лягчэй і хутчэй пры наяўнасці спецыяльных трэнажораў і блокаў, якія маюцца ў залах атлетыкі. Будзе спрыяць поспеху і калектыў аднадумцаў. Арганізацыя сямейных клубаў па месцы жыхарства вырашыла б не толькі праблемы аздараўлення, але і ўмацавала б вашы сем'і. Дый з сябрам жыцця лепш пазнаёміцца ў такім клубе, чым у рэстаране.

Агульнавядомая слабасць дзяўчат да салодкага і мучнога. Толькі комплексны падыход як да дыеты, рэжыму дня, так і методыкі трэніровак прынясе поспех. Пераход на бялковую ежу, максімальнае спажыванне гароднiны і садавіны, зяляніны з'яўляюцца агульнымі патрабаваннямі. Нагадваць пра шкоду курэння і алкаголю будзе лішнім. Гэта недапушчальна!

Размінка неабходная пры любым узроўні трэніраванасці. Адвядзіце на яе 10—15 хвілін.

1. Нахілы тулава ўперад. Старайцеся дацягнуцца рукамі да падлогі (3—4 падыходы па 15—25 разоў).

2. Скачкі на скакалцы (5—6 хвілін).

3. Павароты тулава ў бакі. Зыходнае становішча стоячы, рукі на бёдрах (3 хвіліны). Можаце відазмяняць практыкаванне. Пасля размінкі прыступайце да выканання комплексу. Калі ў вас лішняя вага, павялічце колькасць паўтарэнняў у кожным падыходзе. Калі ёсць неабходнасць павялічыць аб'ёмы мышцаў, выкарыстоўвайце гантэлі, паступова павялічваючы іх вагу.

4. Прысяданні. Спіну трымайце роўна (3 падыходы па 15—40 разоў).

5. Пад'ёмы на насках. Пажадана падкласці пад наскі драўляны брусок 2,5—3 см (3 падыходы па 15—20 разоў).

6. Адцісканне ад падлогі. Рукі на шырыні плеч (3 падыходы па 8—10 разоў).

7. Пад'ёмы рук уверх. Зыходнае становішча—рукі апушчаны на шырыні плеч. У руках гімнастычная палка або іншае абцяжарванне (3 падыходы па 8—10 разоў).

8. Згінанне рук у локцях. Выкарыстоўвайце гантэлі вагою 3 кг або гімнастычную палку (3 падыходы па 8—10 разоў).

9. Практыкаванні для прэса:

а) зыходнае становішча лежачы. Пад'ём ног (3 падыходы па 10—15 разоў);

б) зыходнае становішча лежачы. Пад'ём тулава. Ногі пажадана замацаваць (3 падыходы па 10—15 разоў);

в) павароты тулава на дыску «Грацыя» (4 падыходы па 15—20 разоў). Можна замяніць паваротамі тулава з гімнастычнай палкаю на плячах.

Жадаем вам поспехаў. Да новых сустрэч.



Фота Алены АДАМЧЫК

Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ

# Будзьце прыгожыя

## ТКАНІНЫ

Прыйшло некалькі пісьмаў, дзе вы пытаецеся пра тое, якія тканіны выбраць на лета. Тканін у нашых магазінах многа, але, прызнаюся, далёка не ўсе яны адпавядаюць нашым запатрабаванням. Нашы чытачкі, Рыта і Зоя з Брэста, пытаюцца: што з існуючага асартыменту прыгодна для летняга адзення? Гэта пытанне я задала спецыялісту па тканінах Беларускага цэнтра моды Ніне Шпрыкавай:

— Зручнаму, свабоднаму, крыху нядбайнаму стылю маладзёжнага летняга адзення падыходзяць тканіны многіх беларускіх прадпрыемстваў. Так, баранавіцкі камбінат выпускае паркаль, бязь з буйнымі экзатычнымі малюнкамі, а таксама гладкафарбаваную ў шырокай гаме колераў, касцюмныя тканіны, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Назаву «Стыль» з малюнкамі «Газета», «Змяя», чорную фланель з ворсавым малюнкам. Аршанскі льнокамбінат пастаўляе лён у разнастайную клетку і палоску, тонкі строчаны і шчыльны жакардавы. Рэкамендую таксама тонкія баваўняныя батысты і вэлюмы, якія выпускаюцца фабрыкамі іншых рэспублік. Цяпер яны папулярныя.

Ніколі не пакідае нас элегантны стыль. Да яго звяртаюцца нават маладыя. Вытанчаны шык вызначае сучасны неакласічны напрамак. Мяккім і жаноцкім формам цудоўна падыходзяць лёгкія шоўкі магілёўскага і віцебскага камбінатаў — «Флер», «Бярозка», «Каралінка», «Івана», «Нігела», «Аліна», «Фіцылія», «Каліона».

Ад сябе дадам: нашы мастакі несумненна прагрэсіруюць — і, як вынік, з'явілася нямала з густам і каларыстычна правільна вырашаных малюнкаў і сучасных тканін.

## ГАЛЬШТУКІ

Гальштук — класічны элемент мужчынскага касцюма, яго апошні, завяршальны штрых. Наогул гальштук традыцыйны. Мяняецца ён настолькі нязначна, што прыгожы гальштук можа перайсці ў спадчыну ад бацькі да сына. Каталогі сучаснай моды прапануюць гальштукі ўмеранай шырыні, яркіх малюнкаў. Упісваюцца яны — скураныя, замшавыя, тканыя фалькларныя — у класічныя спартыўныя і авангардысцкія ансамблі адзення. Гэта справа вашага густу і фантазіі. Як вячэрні або святочны варыянт можа быць гальштук-«матылёк», падумайце, ці не будзе гэта занадта экстравагантным. Загадзя прымерайце «матылёк» — ці падыходзіць ён да вашага аблічча ў цэлым. Да таго ж гэты гальштук абавязвае да асаблівай бездакорнасці касцюма, прычоскі, абутку.

